Г. Х. Андэрсен

# ВЫБРАНЫЯ КАЗКІ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
МІНСК 1946

Г. Х. АНДЭРСЕН

# ВЫБРАНЫЯ КАЗКІ

*Падбор і пераклад ЯНКІ МАЎРА*





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
МІНСК 1946

# Стойкі алавянны салдацік

Былі калісьці на свеце дваццаць пяць алавянных салдацікаў. Усе яны былі сынамі адной маткі—старой алавяннай лыжкі—і, значыцца, даводзіліся адзін аднаму роднымі братамі. Яны былі вельмі прыгожыя: стрэльбы на плячы, грудзі выпуклыя, мундзір чырвоны з сінім. Цудоўныя салдацікі!

Яны ляжалі, усе дваццаць пяць, у картоннай каробцы. У ёй было цёмна і цесна. Але вось аднаго разу каробка адкрылася.

— Ах, алавянныя салдацікі!—закрычаў маленькі хлопчык і ад радасці запляскаў у далоні. Яму падарылі алавянных салдацікаў у дзень яго нараджэння.

Хлопчык зараз-жа ўзяўся расстаўляць алавянных салдацікаў на стале. Дваццаць чатыры салдацікі былі зусім аднолькавыя, а дваццаць пяты салдацік быў аднаногі. Яго адлівалі апошнім, і волава трохі не хапіла. Аднак ён і на адной назе стаяў таксама цвёрда, як і іншыя на двух.

Вось з гэтым аднаногім салдацікам і адбылася незвычайная гісторыя, якую я вам зараз раскажу.

На стале, дзе хлопчык расставіў сваіх салдацікаў, было шмат розных цацак. Але лепшай ад усіх цацак быў цудоўны картонны палац. Праз яго маленькія вокны можна было бачыць усе пакоі. Перад самым палацам ляжала люстэрка. Яно было зусім як сапраўднае возера, і вакол гэтага люстранога возера на драўляных падстаўках стаялі маленькія зялёныя дрэвы. Па возеру плавалі васковыя лебедзі і, выгнуўшы даўгія шыі, цешыліся сваім адлюстраваннем. Усё гэта было надзвычай добра, але мілей за ўсё была дзяўчынка, якая стаяла на парозе палаца. Яна была таксама выразана з картону; на ёй была спаднічка з тонкага баты-

сту, на плячы блакітны шалік, а на грудзях — бліскучая брошка, такая вялікая, як галава самой дзяўчынкі. Красуня стаяла на адной ножцы, выцягнуўшы рукі,—яна была танцаўшчыцай. Другую нагу яна падняла так высока, што наш алавянны салдацік зусім не заўважыў гэтай нагі і падумаў, што красуня таксама аднаногая, як і ён сам.

„Вось-бы мне такую жонку!" падумаў алавянны салдацік.

„Ды толькі яна, мусіць, знатнага роду. Вунь у якім цудоўным палацы жыве. А мой дом—простая каробка, ды яшчэ напхалася нас у гэтую каробку аж дваццаць пяць салдат. Не, ёй там не месца! Але пазнаёміцца з ёй усё-ж такі не шкодзіць".

І салдацік схаваўся за табакеркай, што стаяла тут-жа на стале. Адсюль ён вельмі добра бачыў прыгожую танцаўшчыцу.

Позна ўвечары ўсіх алавянных салдацікаў, апрача аднаногага,—яго так і не маглі знайсці,—паклалі ў каробку, і ўсе людзі ў доме пaлеглі спаць. І вось, калі стала ціха, цацкі самі сталі гуляць у госці, у вайну, а потым наладзілі баль. Алавянныя салдацікі стукалі ў сценкі каробкі—яны таксама хацелі пайсці пагуляць, ды ніяк не маглі прыпадняць крышку. Нават шчалкунчык пачаў куляцца, а грыфель пайшоў скакаць па грыфельнай дошцы. Узняўся такі шум і гам, што ў клетцы прачнулася канарэйка і таксама загаварыла, ды яшчэ вершамі.

Толькі аднаногі салдацік і танцаўшчыца не рухаліся з месца. Яна па-ранейшаму стаяла на адной ножцы, выцягнуўшы рукі наперад, а ён застыў са стрэльбай у руках, як вартавы, і не зводзіў вачэй з красуні.

Прабіла дванаццаць. І раптам — шчоўк! — расчынілася табакерка.

У гэтай табакерцы табак ніколі не трымалі, а сядзела ў ёй малое чарцянё. Яно выскачыла з табакеркі і азірнулася навакол.

— Эй, алавянны салдацік!—крыкнула чарцянё.—Чаго ты ўтаропіўся на плясуху? Яна занадта добрая для цябе.

Але алавянны салдацік прыкінуўся, нібы нічога не чуе.

—Вось як ты!—сказала чарцянё.—Ну, пачакай-жа да раніцы.

Раніцою, калі дзеці прачнуліся, яны знайшлі аднаногага салдаціка за табакеркай і паставілі на акно.

Раптам акно расчынілася. Ці то чарцянё наўмысля гэтак зрабіла, ці проста падзьмуў ветрык—хто ведае?—але толькі аднаногі наш салдацік паляцеў з трэцяга паверха ўніз галавой, ды так, што аж у вушах засвісцела. Хвіліна—і ён ужо стаяў на вуліцы дагары нагой, а яго стрэльба і галава ў касцы ўшчаміласся паміж булыжнікаў.

Хлопчык і служанка зараз-жа выбеглі на вуліцу шукаць салдаціка, але, як ні стараліся, знайсці яго не маглі. Адзін раз яны нават ледзь не наступілі на салдаціка, і ўсё-ж такі не заўважылі. Калі-б салдацік крыкнуў: „Я тут!“ яны, вядома, зараз-жа знайшлі-б яго. Але ён лічыў непрыстойным крычаць на вуліцы,—ён-жа ж быў салдат і насіў мундзір.

Тут пайшоў дождж—сапраўдны лівень. Па вуліцы пацяклі ручаі. А калі нарэшце дождж скончыўся, да таго месца, дзе між булыжнікаў тырчаў алавянны салдацік, прыбеглі два вулічныя хлапчукі.

— Эге!—сказаў адзін з іх.—Глядзі—алавянны салдацік! Давай-ка адправім яго ў плаванне!

І яны зрабілі з старой газеты лодачку, пасадзілі ў яе алавяннага салдаціка і пусцілі ў равок. Лодачка паплыла, а хлопчыкі беглі побач і пляскалі ў далоні.



Лодачку падхапіў быстры струмень і панёс. Вада ў раўку так і бурліла. Ды і як ёй не бурліць—пасля гэткага лівня!

Алавянны салдацік у лодачцы ўвесь дрыжаў, але трымаўся цвёрда, як належыць сапраўднаму салдату: стрэльба на плячы, галава прама, грудзі наперад!

І вось лодачку занесла пад шырокі-шырокі мост; зрабілася так цёмна, нібы салдацік зноў трапіў у сваю каробку.

„Куды мяне нясе?—думаў ён.—Мусіць, усё гэта нарабіла тое паскуднае чарцянё з табакеркі. Ах, каб са мною ў лодцы сядзела красуня-плясуха, я-б нічога не баяўся, нават каб было і яшчэ цямней!“

У гэтую хвіліну з-пад маста выскачыў вялікі вадзяны пацук.

— Гэта хто такі?—закрычаў ён.—А пашпарт у цябе ёсць? Давай зараз-жа пашпарт!

Але алавянны салдацік маўчаў і моцна сціскаў сваю стрэльбу. Лодку яго несла ўсё далей і далей, а пацук плыў за ім наўздагон. Ён люта ляскаў зубамі і крычаў плывучым насустрач трэскам і саломінкам.

— Трымайце, трымайце яго! У яго няма пашпарта!

Тут лодачку панесла яшчэ шпарчэй, і алавянны салдацік нарэшце ўбачыў наперадзе святло. Мост скончыўся. Але ў гэтую хвіліну пачуўся такі страшэнны грукат, ад якога задрыжаў-бы кожны храбрэц! Падумаць толькі! За мостам равок упадаў прама ў вялікі бурны канал. Па такіх вялікіх хвалях салдаціку ў маленькім папяровым караблiку плысці было таксама небяспечна, як нам у сапраўднай лодцы несціся да вялікага вадапада.

Спыніцца было ўжо немагчыма. Лодку з алавянным салдацікам вынесла ў вялікі канал. Але салдацік па-ранейшаму трымаўся малайцом і нават вокам не міргнуў. Лодачка закруцілася на месцы, разы са тры зачарпнула вады і хутка напоўнілася вадой да самых берагоў. Вось салдацік ужо да пояса ў вадзе, вось ужо да горла. І нарэшце вада накрыла яго з галавой.

З сумам падумаў салдацік аб сваёй красуні. Не пабачыць яму болей мілай плясухі! У апошнюю мінуту ўспомніў ён салдацкую песню:

Кроч наперад, заўсёды наперад!  
Цябе за магілай слава чакае!

І ён нарыхтаваўся з гонарам загінуць у страшнай пучыне.

Але яго пільнавала другая бяда. З вады вынырнула вялізная рыбіна і мігам праглынула салдаціка.

О, як цёмна і цесна было ў страўніку рыбы, цямней як пад мастом, цясней, як у каробцы! Але алавянны салдацік і тут трымаўся бадзёра. Ён выцягнуўся на ўвесь рост і яшчэ мацней сціснуў сваю стрэльбу. Так ён і праляжаў досыць доўга.

Раптам рыбіна пачала кідацца ва ўсе бакі, стала ныраць, звівацца, скакаць і нарэшце замерла.

Зноў прайшло нямала часу. Салдацік знудзіўся і задрамаў. Прачнуўся ён ад таго, што над ім, як маланка, бліснуў востры нож.

Зрабілася зусім светла і нехта закрычаў: „Вось дык штука! Алавянны салдацік!“

А справа была такая: рыбу злавілі, павезлі на рынак, а потым яна трапіла на кухню. Кухарка распарола ёй бруха вялікім нажом і раптам убачыла алавяннага салдаціка.



Яна ўзяла салдаціка двума пальцамі ў папярок жывата і панесла ў пакой. Увесь дом прыбег паглядзець на выдатнага падарожніка. Салдаціка паставілі на стол, і раптам — якіх толькі цудаў не бывае на свеце! — ён убачыў той-жа самы пакой, таго-ж хлопчыка, тое-ж самае акно, з якога нядаўнаываліўся. Навакол былі тыя-ж цацкі, а сярод іх горда ўзвышаўся цудоўны картонны палац, і на

парозе стаяла красуня-танцаўшчыца. Яна стаяла па-ранейшаму на адной ножцы, высока падняўшы другую. Вось гэта дык стойкасць!

Алавянны салдацік так расчуліўся, што з вачэй яго ледзь не пакаціліся алавянныя слёзы, але паспеў успомніць, што салдату плакаць не належыць. Не міргаючы, глядзеў ён на танцаўшчыцу, яна глядзела на яго, і абодва маўчалі.

Раптам адзін з хлопчыкаў схапіў алавяннага салдаціка і ні з сяго, ні з таго шпурнуў яго прама ў печку. Мабыць яго падгаварыла злоснае чарцянё з табакеркі.

У печцы ярка палалі дровы, і алавяннаму салдаціку зрабілася надта горача, ад агню ці ад кахання—ён і сам не ведаў. Фарбы з яго зусім зышлі, ён увесь зліняў,—можа ад прыкрасці, а можа ад таго, што пабываў у вадзе і ў страўніку рыбы. Але і тут ён трымаўся прама, сціскаў сваю стрэльбу і не зводзіў вачэй з чароўнай плясухі, а плясуха глядзела на яго. І раптам салдацік адчуў, што ён растае ў агні.

У гэтую хвіліну дзверы ў пакоі расчыніліся насцеж, скразны вецер падхапіў прыгожую танцаўшчыцу, і яна, як матылёк, паляцела ў печку—прама да алавяннага салдаціка. Полымя абхапіла яе, яна ўспыхнула—і канец. Тут ужо і алавянны салдацік зусім расплавіўся.

На другі дзень служанка стала выграбаць з печкі попел і знайшла маленькі камячок волава, падобны да сэрцайка, ды абгарэлую, чорную, як вугаль, брошку. Гэта было ўсё, што асталося ад стойкага алавяннага салдаціка і яго цудоўнай плясухі.

## Штопальная іголка

Жыла-была штопальная іголка. Яна так высока задзірала свой востры носік, нібы была па меншай меры тонкай швейнай іголкай:

— Асцярожней!—сказала яна пальцам, якія вымалі яе з каробкі.—Не выпусціце мяне! Калі я ўпаду, то, вядома, згублюся. Я надта тонкая.



— Ды ўжо-ж!—адказалі пальцы і моцна абхапілі штопальную іголку.

— Вось бачыце,—сказала яна,—я хаджу не адна. За мной цягнецца цэлая світа!—І яна пацягнула за сабой даўгую нітку, але толькі без вузялка.

Пальцы ткнулі іголку ў стары кухарчын чаравік. На ім толькі што лопнула скура, і трэба было зашыць дзірку.

— Фу, якая чорная работа! — сказала штопальная іголка. — Я не вытрымаю. Я зламлюся!

І зламілася.

— Ну вось! — піснула іголка. — Я-ж казала, што я надта тонкая.

„Цяпер яна нікуды нявартая“, падумалі пальцы і хацелі былі выкінуць іголку. Але кухарка прыладзіла да зламанага канца іголкі сургучовую галоўку і прышпіліла іголкай свой шалік.

— Вось цяпер я брошка! — сказала штопальная іголка. — Я заўсёды ведала, што займу высокую пасаду: хто мае вартасць, той не прападзе.

І яна ўсміхнулася сама сабе, — ніхто-ж не чуў, каб штопальныя іголкі смяяліся гучна. Седзячы ў шаліку, яна з важнасцю пазірала навакол, нібы ехала ў карэце.

— Дазвольце спытацца, вы з золата? — звярнулася іголка да сваёй суседкі-булаўкі. — Вы досыць мілая і ў вас свая ўласная галоўка. Шкада толькі, што яна надта малая. Прыдзецца вам, мая любая, падрасціць яе, — не кожнаму-ж дастаецца галоўка з сапраўднага сургучу.

Пры гэтым штопальная іголка так горда выпрамілася, што вылецела з шаліка і ўпала прама ў канаву, куды кухарка ў гэты час вылівала памыі.

— Ну што-ж, я не адмоўлюся адправіцца і ў плаванне! — заявіла штопальная іголка. — Толькі-б мне не ўтапіцца.

І яна пайшла прама на дно.

— Ах, я надта тонкая, я нарадзілася не для гэтага свету! — уздыхнула яна, лежачы ў вулічнай канаўцы. — Але не трэба падаць духам, — я-ж ведаю сабе цану. — І яна выпрамілася як мага. Ёй усё было хоць-бы што.

Над ёй праплывала ўсялякае смецце — трэскі, саломінкі, шматкі старых газет...

— Колькі іх тут! — казала штопальная іголка. — І хоць-бы адзін з іх здагадаўся, хто ляжыць тутака, пад вадой. А ляжу-ж тут я, сапраўдная брошка... Вось плыве трэска. Ну, што-ж, плыві, плыві!.. Трэскай ты была, трэскай і астанешся. А вунь саломінка нясецца... Бач як круціцца! Не задзірай носа, галубка! Глядзі, натрапіш на камень. А вось абрывак газеты. І разабраць ужо нельга, што на ім надрукавана, а ён глядзі як задаецца... Адна я ляжу ціха, смірна. Я знаю сабе цану, і гэтага ад мяне ніхто не адбярэ.

Раптам каля яе нешта бліснула. „Брыльянт!" падумала штопальная іголка. А гэта быў просты адломак шкла ад бутэлькі, але ён ярка блішчэў на сонцы. І штопальная іголка з ім загаварыла.

— Я брошка!—сказала яна.—А вы, мабыць, брыльянт?

— Але, нешта такое падобнае,—адказаў бутэлечны адломак.

І яны разгаварыліся. Кожны з іх лічыў сябе каштоўнасцю і радаваўся, што знайшоў сабе таварыша.

Штопальная іголка сказала:

— Я жыла ў каробцы ў адной дзяўчыны. Дзяўчына гэтая была кухаркай. У яе на кожнай руцэ было па пяць пальцаў, і вы не можаце сабе ўявіць, як яны задаваліся. А работы ў іх толькі і было, што вынімаць мяне з каробкі і класці назад.

— Чым-жа гэтыя пальцы ганарыліся? Сваім бляскам?— спытаў бутэлечны адломак.

— Бляскам?—перапытала іголка.—Не, ніякага бляску ў іх не было, затое гонару аж занадта. Іх было пяць родных братоў. Яны былі рознага росту, але трымаліся заўсёды разам—шарэнгай. Толькі крайні з іх, якога звалі Таўсцяком, вытыркаўся ўбок. Калі ён кланяўся, то згінаўся толькі напалам, а не ў тры пагібелі, як рэшта братоў. Затое ён хваліўся тым, што калі яго адсячы, то і ўвесь чалавек будзе непрыгодны для вайсковай службы. Другі палец зваўся Ласуном. Куды толькі ён не соваў свой нос—і ў салодкае і ў кіслае, і ў неба і ў зямлю. А калі кухарка пісала, ён націскаў пяро. Трэцяга брата звалі Цыбатым. Ён глядзеў на ўсіх звысака. Чацверты, па прозвішчу Златаперст, насіў вакол пояса залаты пярсцёнак. Ну, а самага маленькага звалі Петрусём-Гультаём. Ён зусім нічога не рабіў і вельмі гэтым ганарыўся. Вось задаваліся яны, задаваліся, а я праз іх трапіла ў канаву.

— Затое цяпер мы з вамі ляжым і блішчым,—сказаў бутэлечны адломак.

Але ў гэтую мінуту нехта выліў у канаву вядро вады. Вада хлынула праз край і панесла з сабой бутэлечны адломак.

— Ах, ён пайшоў ад мяне!— уздыхнула штопальная іголка. —А я асталася адна. Відаць я надта тонкая, надта вострая. Але я ганаруся гэтым, і гэта благародны гонар.

І яна ляжала на дне канавы, выцягнуўшыся ў струнку, і разважала ўсё аб адным і тым-жа—аб сабе самой.

„Я, напэўна, нарадзілася ад сонечнага праменя, —такая я тонкая. Нездарма мне здаецца, што сонца шукае мяне цяпер



у гэтай мутнай вадзе. Ах, мой бедны бацька ніяк не можа мяне знайсці! Навошта я зламалася? Каб я не страціла сваё вочка, я заплакала-б цяпер, —так мне сябе шкода. Але не, я-б гэтага не зрабіла. Гэта непрыстойна“.

Аднаго разу да вадасцёчнай канавы прыбеглі хлапчук і пачалі вывуджваць з гразі старыя цвікі і мядзяшкі. Хутка яны перапэцкаліся ад галавы да ног, але-ж гэта ім больш за ўсё і падабалася.

— Ай!—ускрыкнуў раптам адзін з хлапчукоў; ён укалоўся аб штопальную іголку. — Глядзі, брат, якая штука!

— Я не штука, а паненка! — заявіла штопальная іголка, але ніхто не пачуў яе піску. Старую штопальную іголку цяжка было і пазнаць. Сургучная галоўка адвалілася, і ўся іголка пачарнела. А як у чорным адзенні ўсе здаюцца яшчэ больш тонкімі і стройнымі, то іголка цяпер падабалася сама сабе яшчэ больш, як раней.

— Вунь плыве яечная шкарлупіна! — закрычалі хлапчукі. Яны злавілі шкарлупіну, утыркнулі ў яе штопальную іголку і кінулі ў лужыну.

„Белае да твару чорнаму, — падумала штопальная іголка. — Цяпер я буду больш прыкметная, і ўсе будуць мною любавацца. Каб толькі не захварэць мне на морскую хваробу. Я не перанясу яе. Я-ж такая крохкая“.

Але іголка не захварэла.

„Відаць, морская хвароба мяне не бярэ, — падумала яна.— Добра мець сталёвы страўнік і пры гэтым заўсёды памятаць, што ты вышэй за простага чалавека. Вось цяпер я зусім ачуняла. Выходзіць, што тонкія стварэнні больш трывалыя.

— Крак! — сказала яечная шкарлупіна: праз яе пераехаў ламавы воз.

— Ой, як цяжка! — запішчэла штопальная іголка. — Цяпер я ўжо абавязкова захварэла. Я не вытрымаю! Не вытрымаю!

Але яна вытрымала. Ламавы воз даўно ўжо праехаў, а штопальная іголка асталася ляжаць на бруку, нібы ёй нішто не абыходзіць.

Ну і няхай сабе ляжыць.

# Брыдкае качанё

Добра было за горадам! Стаяла лета. На палях ужо залацілася жыта, авёс зелянеў, сена было складзена ў стагі; па зялёным лузе расхаджваў доўганогі бусел і балбатаў паегіпецку,—гэтай мове ён навучыўся ў сваёй маткі. За палямі і лугамі цягнуліся вялікія лясы, а ў лясах былі глыбокія азёры. Так, добра было за горадам!

Прама на сонейку ляжала старая сядзіба, акружаная глыбокімі равамі з вадой; ад сцен дома да самай вады рос лопух, ды такі вялікі, што маленькія дзеці маглі стаяць пад самымі буйнымі з яго лісцяў на ўвесь рост.

У гушчары лопуха было таксама глуха і дзіка, як усамым густым лесе, і вось там і сядзела на яйках качка. Сядзела яна ўжо даўно і гэта ёй абрыдала. Да таго-ж яе рэдка наведвалі, бо іншым качкам больш падабалася плаваць па раўках, чым сядзець у лапухах ды кракаць з ёю.

Нарэшце яйкавыя шкарлупіны затрашчалі.

— Піп! Піп! — запішчэла ўнутры. Усе яечныя жаўткі ажылі і высунулі галоўкі.

— Крак! Крак!—сказала качка.

Качаняты сяк-так выкарабкаліся са шкарлупы і сталі азірацца навакол, разглядаючы зялёныя лісці лопуха; маці не перашкаджала ім,—зялёны колер карысны для вачэй.

— Ах, які вялікі свет!—сказалі качаняты.

А як-жа ж! Цяпер ім было куды прастарней, чым тады, калі яны ляжалі ў сваёй шкарлупіне.

— Ці не думаеце вы, што тут і ўвесь свет?—сказала маці.—Куды там! Ён цягнецца далёка-далёка, туды, за сад, у поле свяшчэнніка, але там я зроду не бывала!.. Ну што, ці ўсе вы цяпер тут?—і яна ўстала.—Ах, не, не ўсе. Самае вялікае яйка зусім цэлае! Ды калі-ж гэтаму будзе канец! Мне, нарэшце, зусім не хопіць цярплівасці.

І яна ўселася зноў.

— Ну, як справы?—спытала старая качка, якая прышла наведаць яе.

— Ды вось, з адным яйкам ніяк не магу справіцца,—сказала маладая качка.—Усё не лопаецца. Затое паглядзі ты

на малютак! Цудоўныя! Усе як адзін—выліты бацька. А ён, нягоднік, нават не наведаў мяне ні разу!

— А ну-ка, пакажы мне яйка, якое не лопаецца,—сказала старая качка.—Павер мне, гэта індзюшачае яйка! Вось акурат таксама і мяне раз ашукалі. Колькі-ж клопатаў мне было з гэтымі індзюшатамі! Я ніяк не магла завесці іх у ваду; ужо-ж я кракала, кракала—не ідуць, дый годзе! Дай-ка я яшчэ раз зірну. Ну, так і ёсць! Індзюшачае! Кінь яго ды ідзі лепш вучыць сваіх дзетак плаваць.

— Не, лепш ужо я пасяджу яшчэ трошкі,—сказала маладая качка.—Я столькі сядзела, што можна і яшчэ пасядзець.

— Ну, і сядзі!—сказала старая качка і пайшла.

Нарэшце лопнула і вялікае яйка.

— Піп! Піп!—прапішчэла птушанё і вывалілася з яйка. Але-ж якое яно было вялікае і брыдкае! Качка агледзела яго.

— Надта вялікае!—сказала яна.—І зусім не падобнае да іншых! Можа сапраўды гэта індзюшанё? Ну, але ў вадзе яно ў мяне пабывае, хоць-бы мне прышлося спіхнуць яго туды сілком!

На другі дзень надвор'е было цудоўнае, зялёны лопух быў заліты сонцам. Качка з усёй сваёй сям'ёй адправілася да раўчука. Бултых!—і яна апынулася ў вадзе.

— Крак! Крак!—паклікала яна, і качаняты адно за адным таксама бултыхнуліся ў ваду.

Спачатку вада накрыла іх з галавой, але яны зараз-жа вынырнулі і спрытна паплылі ўперад. Лапкі ў іх так і працавалі. Нават брыдкае, шэрае качанё не адставала ад усіх.



— Якое-ж гэта індзюшанё?—сказала качка.—Во як добра грабе лапкамі! І як прама трымаецца! Не, гэта мой уласны сын. Ды ён і не такі ўжо брыдкі, калі лепш прыглядзецца да яго. Ну, жыва, жыва за мной! Я зараз павяду вас у людзі,—мы адправімся на птушыны двор. Толькі трымайцеся бліжэй да мяне, каб хто-небудзь не наступіў на вас, ды беражыцеся кошак!

Хутка дабраліся і да птушынага двара. Людцы мае! што тут быў за шум! Два качыныя сямействы біліся з-за адной галоўкі ўюна. А пасля ўсяго гэтая галоўка дасталася кошцы.

— Так яно заўсёды бывае на белым свеце!—сказала качка і аблізнула языком дзюбу,—ёй і самой хацелася пакаштаваць уюновай галавы. Ну, ну, варушыце лапкамі!—сказала яна качанятам.—Кракніце і пакланіцеся вунь той старой качцы! Яна тут знатнейшая ад усіх. Яна іспанскай пароды і таму такая тлустая. Бачыце ў ёй на лапцы чырвоны ласкуток? Гэта—вышэйшая адзнака, якую толькі можа заслужыць качка. Гэта азначае, што яе не хочуць згубіць,—па гэтым ласкутку яе адразу пазнаюць людзі і жывёлы. Ну, жыва! Ды не трымайце лапкі разам! Добра выхаванае качанё павінна выварочваць лапкі ў бакі, як бацька і маці. Вось так! глядзіце. Цяпер нахіліце галоўкі і скажыце: крак!

Яны так і зрабілі. Але іншыя качкі агледзелі іх і гучна загаманілі:

— Ну, вось яшчэ цэлая арава! Нібы без іх нас мала было! А адно-ж якое брыдкае. Ужо-ж яго мы не пацерпім!

І зараз-жа адна качка падляцела і дзюбанула яго ў шыю.

— Не чапайце яго!—сказала качка-маці.—Яно-ж вам нічога не зрабіла!

— Яно так, але яно такое вялікае і смешнае!—прасіпела злая качка.—Яму трэба даць добра.

— Слаўныя ў цябе дзеткі!—сказала старая качка з чырвоным ласкутком на лапцы.—Усе вельмі мілыя, апрача аднаго... Гэта не ўдалося! Каб яго ды перарабіць!

— Гэта ніяк немагчыма, ваша міласць!—адказала качка-маці.—Яно непрыгожае, але ў яго добрае сэрца. А плавае яно не горш, асмельваюся нават сказаць, лепш за іншых. Я думаю, праз колькі часу яно выраўнаецца і паменшае. Яно

надта доўга праляжала ў яйку і таму не зусім удалося.—І яна пачасала яму спінку і разгладзіла пёркі.—Апрача таго, яно селезень, а селезню прыгожасць не так ужо патрэбна. Я думаю, што яно вырасце дужым і пракладзе сабе шлях у жыцці.

— Рэшта качанят вельмі, вельмі мілыя!—сказала старая качка.—Ну, будзьце-ж як дома, а калі знойдзеце ўюновую галоўку, можаце прынесці яе мне.

Вось качаняты і пачалі трымаць сябе як дома. Толькі беднае качанё, якое вылупілася пазней за другіх і было такое брыдкае, вадзіралі ўсе. Яго дзюбалі, штурхалі, дражнілі не толькі качкі, але нават і куры.

— Занадта вялікае,—казалі яны. А індзейскі певень, які нарадзіўся са шпорамі на нагах і таму лічыў сябе імператарам, надзьмуўся і, нібы карабель на ўсіх парусах, падляцеў прама да качаняці, паглядзеў на яго і сярдзіта залапатаў: грабень у яго так і наліўся крывёю. Беднае качанё проста не ведала куды дзецца. І трэба-ж было яму нарадзіцца такім брыдкім, што ўвесь птушыны двор смяецца з яго!

Так прайшоў першы дзень, а потым стала яшчэ горш. Усе гналі беднае качанё, нават браты і сёстры сярдзіта казалі яму: „Хоць-бы кошка схапіла цябе, няшчасны пачвара!"—а маці дадавала: „Вочы-б мае не бачылі цябе!" Качкі шчыпалі яго, куры скублі, а дзяўчына, што давала птушкам корм, адштурхвала яго нагою.

Нарэшце качанё не вытрымала, перабегла двор—і праз агарожу! Маленькія птушаняткі спалохаліся і вылецелі з кустоў.

„Яны спалохаліся мяне,—такое я брыдкае!" падумала качанё і пусцілася з заплюшчанымі вачыма далей. Яно бегла датуль, пакуль не апынулася ў балоце, дзе жылі дзікія качкі. Тут яно праляжала ўсю ноч. Яно стамілася і яму было вельмі сумна.

Раніцою дзікія качкі падняліся з гнёздаў і ўбачылі новага таварыша.

— Гэта што за птушка?—спыталі яны. Качанё круцілася і кланялася ва ўсе бакі, як умела.

— Ну і брыдкое-ж ты!—сказалі дзікія качкі.—Але нам гэта ўсёроўна. Толькі не падумай, калі ласка, парадніцца з намі.

Небарака! Дзе-ж яму было думаць аб гэтым! Толькі-б дазволілі яму пасядзець тут у чаротніку ды папіць балотнай вадзіцы.

Так прасядзела яно ў балоце два дні. На трэці дзень туды прыляцелі два дзікія гусакі. Яны толькі нядаўна вылупіліся з яек і таму вельмі важнічалі.

— Слухай, браток!—сказалі яны.—Ты такі смешны пачвара, што нават падабаешся нам! Хочаш бадзяцца з намі і быць вольнай птушкай? Тут паблізу ёсць другое балота, там жывуць цудоўныя дзікія гусыні-паненкі. Яны ўмеюць гаварыць: „рап, рап!“ Ты такая брыдота, што—чаго добрага— можаш спадабацца і ім!

Піф! паф!—пачулася раптам над балотам, і абодва гусакі ўпалі ў чаротнік мёртвымі, вада зачырванелася ад крыві. Піф! паф!—разлалося зноў, і з чаротніку падняўся цэлы вырай дзікіх гусей. Пайшла пальба. Паляўнічыя акружылі балота з усіх бакоў; некаторыя з іх заселі нават у навіслых над балотам галінах дрэў. Блакітны дым воблакам агортваў дрэвы і слаўся над вадой. Па балоту бегалі паляўнічыя сабакі—шлёп! шлёп! Чарот і асака хісталіся ў бакі. Беднае качанё было ні жывое, ні мёртвае ад страху. Яно хацела было схаваць галаву пад крылка, як раптам прама перад ім апынуўся паляўнічы сабака з высунутым языком і бліскаючымі злымі вачамі. Ён паглядзеў на качанё, выскаліў вострыя зубы і—шлёп-шлёп—пабег далей.

„Не крануў,—падумала качанё і ўздыхнула вальней.— Відаць, я такое брыдкое, што нават сабака грэбуе з'есці мяне“.

І яно затаілася ў чаротніку; над галавой яго раз-по-разу свісцеў шрот, чуліся стрэлы.

Пальба сціхла толькі пад вечар, але качанё доўга яшчэ баялася варухнуцца. Прайшло некалькі гадзін. Нарэшце яно адважылася ўстаць, асцярожна агледзелася і пусцілася бегчы далей па палях і лугах. Дзьмуў такі моцны вецер, што качанё ледзь-ледзь магло пасоўвацца.

К ночы яно дабегла да беднай хаткі. Хатка да таго спарахнела, што гатова была паваліцца, ды толькі не ведала на які бок, таму і трымалася. Вецер так і падымаў качанё,—

прыходзілася ўпірацца ў зямлю хвастом. На шчасце, яно заўважыла, што дзверы хаткі саскочылі з адной завесы і вісяць так крыва, што можна праскочыць праз гэтую шчыліну ў хатку. Так яно і зрабіла.

У хатцы жыла бабка са сваім катом і курыцай. Ката яна звала „сыночкам"; ён умеў выгінаць спіну, мурлыкаць і нават выпускаць іскры, але для гэтага трэба было пагладзіць яго супроць поўсці. У курыцы былі маленькія, кароценькія ножкі, і таму яе так і празвалі „Каротканожкай"; яна старанна несла яйкі, і бабка любіла яе, як дачку.

Раніцою чужое качанё заўважылі: кот пачаў мурлыкаць, а курыца квохкаць.

— Што там?—спыталася бабка. Яна агледзелася навакол і ўбачыла ў куту качанё, але па слепаце сваёй прыняла яго за тлустую качку, якая адбілася ад дому.

— Вось дык знаходка!—сказала старая.—Цяпер у мяне будуць качкавыя яйкі, калі толькі гэта не селезень. Ну ды паглядзім, паспрабуем.

І качанё прынялі на выпрабаванне. Але прайшло тыдні тры, а яек усё не было.

Сапраўдным гаспадаром у доме быў кот, а гаспадыняй—курыца, і абодва заўсёды казалі: „Мы і ўвесь свет!" Яны лічылі саміх сябе паловай усяго свету і прытым—лепшай паловай. Праўда, качаняці здавалася, што на гэтую справу можна было глядзець і інакш, але курыца гэтага не дапускала.

— Ці ўмееш ты несці яйкі?—спытала яна качанё.

— Не!

— Тады трымай язык на прывязі!

А кот спытаў:

— Ці ўмееш ты выгінаць спіну, выпускаць іскры і мурлыкаць?

— Не!

— Тады не совайся са сваім розумам, калі гавораць разумныя людзі!

І качанё сядзела ў кутку натапырыўшыся.

Раптам яму ўспомнілася свежае паветра, успомнілася сонейка, і яму надта захацелася паплаваць. Яно не вытрымала і сказала аб гэтым курыцы.

— Да што з табой?—спытала яна.—Гультайнічаеш, вось табе і лезе ў галаву ўсялякае глупства! Лепш нясі яйкі або мурлыкай,—дурота і выйдзе!

— Ах, плаваць так прыемна!—сказала качанё.—Такая асалода нырнуць уніз галавой у самую глыб.

— Вось дык асалода!—сказала курыца.—Ты зусім звар'яцела! Спытай ката,—ён разумнейшы ад усіх, каго я ведаю,—ці падабаецца яму плаваць і нырaць. Аб сабе я ўжо і не кажу! Спытайся, нарэшце, у нашай старой пані,—разумней за яе ўжо напэўна нікога няма на свеце. Яна табе скажа, ці любіць яна нырaць уніз галавой у самую глыб.

— Вы мяне не разумееце!—сказала качанё.

— Калі ўжо мы не разумеем, то хто-ж тады зразумее цябе! Што-ж, ты хочаш быць разумнейшым за ката і нашу пані, не кажучы ўжо пра мяне? Не дуры, а дзякуй за ўсё, што для цябе зрабілі! Цябе прытулілі, прыгрэлі, ты трапіла ў такую кампанію, дзе можаш сяму-таму навучыцца. Але ты—пустая галава, і гаварыць з табой нявартa. Ужо-ж павер мне! Я жадаю табе дабра, таму і вымаўляю табе: такім способам заўсёды пазнаюцца сапраўдныя прыяцелі! Старайся-ж несці яйкі або навучыся мурлыкаць ды пушчаць іскры!

— Я думаю, мне лепш пайсці адсюль куды вочы глядзяць!—сказала качанё.

— Ну, і ідзі сабе!—адказала курыца.

І качанё пайшло. Яно плавала і нырала ўніз галавой, але ўсе навакол па-ранейшаму смяяліся з яго і называлі яго брыдкім.

Настала восень, лісці на дрэвах пажаўцелі і пабурэлі; вецер падхопліваў іх і кружыў у паветры. Зрабілася зусім холадна. Цяжкія хмары сыпалі на зямлю то град, то снег, а на плоце сядзеў воран і каркаў ад холаду на ўсё горла. Брр! замерзнеш нават пры адной думцы аб такім холадзе! Дрэнна прыходзілася беднаму качаняці.

Раз пад вечар, калі сонейка яшчэ ззяла на небе, з-за лесу падняўся цэлы вырай цудоўных, вялікіх птушак. Такіх цудоўных птушак качанё ніколі яшчэ не бачыла,—усе яны былі белыя, як снег, з доўгімі, гнуткімі шыямі. Гэта былі лебедзі. З нейкімі дзіўнымі крыкамі яны ўзмахнулі раскош-

нымі, вялікімі крыллямі і паляцелі з халодных лугоў у цёплыя краі, за сіняе мора. Яны падняліся высока-высока, а беднае качанё ахапіла незразумелая трывога. Яно закруцілася ў вадзе, як ваўчок, выцягнула шыю і таксама закрычала, ды так гучна і дзіўна, што само спалохалася. Ах, яно не магло адарваць вачэй ад гэтых цудоўных, шчаслівых птушак, а калі яны зніклі ўдалечыні, яно нырнула на самае дно, выплыла зноў і доўга не магло апамятацца. Качанё не ведала, як завуць гэтых птушак, не ведала, куды яны ляцяць, але палюбіла іх, як не любіла да гэтага часу нікога на свеце. Харастру іх яно не зайздросціла; яму і ў галаву не прыходзіла, што яно можа быць такім-жа прыгожым, як яны. Яно было-б шчаслівым, каб яго хоць качкі не гналі ад сябе. Беднае брыдкае качанё!

Зіма надышла халодная-халодная. Качанё павінна было плаваць па вадзе без адпачынку, каб не даць ёй замерзнуць зусім, але пасля кожнай ночы палонка, дзе яно плавала, рабілася ўсё меншай і меншай. Марозіла так, што нават лёд патрэскваў. Качанё без перапынку працавала лапкамі. Нарэшце яно зусім выбілася з сілы, спынілася і прымерзла да лёду.

Раніцою міма праходзіў селянін. Ён убачыў прымёрзлае да лёду качанё, разбіў лёд сваім драўляным чаравікам і аднёс поўжывую птушку дахаты, жонцы. Качанё адагрэлі.

Дзеці захацелі пагуляць з ім, але яму здалося, што яны хочуць пакрыўдзіць яго. Яно шарахнулася ад страху і трапіла прама ў падойнік з малаком. Малако расплюхалася. Гаспадыня ўскрыкнула і замахала рукамі, а качанё пачало кідацца па хаце і трапіла ў кадку з маслам, а адтуль—у бачонак з мукой. Бацюхна! на каго яно стала падобным!

Жанчына ганялася за ім з вугальнымі шчыпцамі, дзеці бегалі, збіваючы адзін аднаго з ног, рагаталі і верашчалі. Добра яшчэ, што дзверы былі расчыненыя,—качанё выскачыла, кінулася ў кусты, прама на свежы снег, і доўга-доўга ляжала амаль у непрытомнасці.

Было-б надта сумна расказваць пра ўсё гора і няшчасці, якія перажыло качанё ў гэтую суровую зіму.

Калі-ж сонейка зноў прыгрэла зямлю сваімі цёплымі праменнямі, качанё ляжала на балоце, у чаротніку. Заспявалі жаўранкі. Вярнулася вясна.

Качанё ўзмахнула крыллямі і паляцела. Крыллі яго цяпер былі куды мацнейшыя, чым раней: яны зашумелі і шпарка панеслі яго наперад. Не паспела яно апамятацца, як апынулася ў вялікім садзе. Яблыні стаялі ўсе ў кветках; душыстая сірэнь нахіляла свае даўгія зялёныя галіны над звілістым каналам. Ах, як тут было хораша, як пахнула вясною!

І раптам з гушчару чаротніка выплылі тры цудоўныя белыя лебедзі. Яны плылі так лёгка і плаўна, нібы слізгаліся па вадзе. Качанё пазнала гэтых прыгожых птушак, і яго ахапіла нейкая незразумелая туга.

„Палячу да іх, да гэтых велічных птушак. Яны напэўна заскубуць мяне насмерць за тое, што я, такое брыдкае, адважылася наблізіцца да іх. Але няхай! Лепш загінуць ад іх udaraў, чымся цярпець шчыпкі качак і курэй, штуршкі птушніцы ды пакутаваць адголаду і холаду зімою!“

І яно апусцілася на ваду і паплыло насустрач цудоўным лебедзям, якія, убачыўшы яго, замахалі крыллямі і таксама паплылі да яго.

— Забіце мяне!—сказала беднае качанё і нізка апусціла галаву.

І раптам у чыстай, як люстэрка, вадзе, яно ўбачыла свой уласны адбітак. Але цяпер яно было ўжо не брыдкім цёмнашэрым качанём, а белым лебедзем!

Цяпер качанё было нават рада, што перацярпела столькі гора і бяды. Яно многа выцерпела і таму магло лепей ацаніць сваё шчасце і ўсё тое хараство, якое яго акружала. А вялікія лебедзі плавалі навакол і гладзілі яго сваімі дзюбамі.

У гэты час у сад прыбеглі маленькія дзеці. Яны сталі кідаць лебедзям хлебныя крошкі і зярняты, а самы малодшы з іх закрычаў:

— Новы прыляцеў! Новы прыляцеў!

І ўсе астатнія падхапілі:

— Новы, новы!

Дзеці пляскалі ў далоні і скакалі ад радасці. Потым яны пабеглі па бацьку і матку і зноў сталі кідаць у ваду крошкі хлеба і пірожнага. І дзеці і дарослыя казалі:

— Новы лебедзь лепшы за ўсіх! Ён такі прыгожы і малады.

І старыя лебедзі схілілі перад ім галовы.

А ён зусім засароміўся і схаваў галаву пад крыло, сам не ведаючы дзеля чаго. Ён успамінаў той час, калі ўсе смяяліся з яго і гналі яго. А цяпер усе гавораць, што ён самы прыгожы сярод цудоўных лебедзей. Сірэнь нахіляла да яго ў ваду свае душыстыя галіны, а сонейка свяціла так цёпла, так ярка... І вось крыллі яго зашумелі, стройная шыя выпрамілася, а з грудзей вырваўся радасны крык:

— Не, аб такім шчасці я і не марыў, калі быў яшчэ брыдкім качанём!



# Салавей

Ты пэўна ведаеш, што ў Кітаі ўсе жыхары—кітайцы і сам імператар таксама кітаец.

Даўно-даўно гэта было, але таму і варта расказаць гэту гісторыю, пакуль яна яшчэ не забылася зусім.

У цэлым свеце не знайшлося-б палаца лепшага за палац кітайскага імператара. Ён увесь быў з дарагога фарфара, такога тонкага і крохкага, што боязна было да яго і дакрануцца. Палац стаяў у раскошным садзе, дзе раслі цудоўныя кветкі. Да самых прыгожых кветак былі прывязаны сярэбраныя званочкі. І калі дзьмуў ветрык, кветкі хісталіся, і званочкі звінелі. Гэта было зроблена для таго, каб ніхто не прайшоў міма кветак, не глянуўшы на іх. Во як разумна было прыдумана!

Сад цягнуўся далёка-далёка, так далёка, што нават сам садоўнік не ведаў, дзе сад канчаецца. З саду можна было трапіць прама ў дрымучы лес. Вялікія караблі праплывалі пад навіслымі над вадой галінамі. Тут у лесе, ля самага берага мора, жыў салавей. Ён спяваў так цудоўна, што нават бедны рыбак, слухаючы яго песні, забываўся на свой нерат.

З усіх канцоў свету прыязджалі ў сталіцу імператара падарожнікі. Усе яны любаваліся раскошным палацам і цудоўным садам, але, пачуўшы спевы салаўя, казалі: „Вось гэта лепш за ўсё!"

Вярнуўшыся дадому, падарожнікі расказвалі пра ўсё, што бачылі. Вучоныя апісвалі сталіцу Кітая, палац і сад імператара і ніколі не забываліся ўпамянуць пра салаўя; паэты складалі ў гонар спевака, які жыве ў кітайскім лесе, на беразе сіняга мора, цудоўнейшыя вершы.

Кнігі разыходзіліся па ўсім свеце, і вось адна тоўстая кніга дайшла і да самога кітайскага імператара. Ён сядзеў на сваім залатым троне, чытаў і ківаў галавой. Яму вельмі прыемна было чытаць пра тое, якая добрая яго сталіца, якія прыгожыя яго палац і сад. Але вось на апошняй старонцы кнігі імператар прачытаў: „У Кітаі шмат цудоўнага, але лепш за ўсё маленькая птушачка, па імені салавей, якая жыве

ў лесе ля імператарскага саду. Дзеля таго, каб паслухаць яе спеў, раім кожнаму паехаць у Кітай".

— Што такое?—сказаў імператар. Ён устаў з трона і загарнуў кнігу.—Як!? У маёй дзяржаве і нават побач з маім уласным палацам жыве такая дзіўная птушка, а я ні разу не чуў, як яна пяе. І мне прыходзіцца даведвацца пра яе з чужых кніг!

І ён загадаў паклікаць свайго першага міністра. Гэты міністр напускаў на сябе такую важнасць, што калі хто-небудзь з людзей ніжэйшых за яго па чыну асмельваўся загаварыць з ім ці спытацца ў яго аб чым-небудзь, ён адказваў толькі: „пф!"—а гэта-ж роўна нічога не азначае.

— Я прачытаў у вучонай кнізе, што ў нас ёсць незвычайная птушка, якую завуць „салавей",—сказаў імператар міністру.—Яе лічаць першай выдатнасцю ў маёй дзяржаве. Чаму-ж мне ні разу не дакладвалі аб гэтай птушцы?

— Ваша вялікасць!—адказаў першы міністр і пакланіўся імператару.—Я нават і не чуў пра яе. Яна ніколі не была прадстаўлена пры нашым двары.

— Увесь свет ведае, што ў мяне ёсць, а сам я не ведаю,—сказаў імператар.—Я хачу, каб сёння-ж увечары птушка была тут і пяяла перад мною!

— Я знайду яе, ваша вялікасць,—сказаў першы міністр.

Сказаць было няцяжка. А дзе-ж яе знойдзеш?

І вось першы міністр забегаў уверх і ўніз па лесніцах, па залах і калідорах, але ніхто з прыдворных і не чуў пра салаўя. І першы міністр вярнуўся да імператара і далажыў, што салаўя ў Кітаі няма і не было.

— Ваша вялікасць дарэмна даеце веры ўсяму, што пішуць у кнігах: гэта ўсё адны выдумкі і чорная магія...[1])

— Не кажы глупстваў!—сказаў імператар.—Я хачу чуць салаўя. Ён павінен быць у палацы сёння-ж увечары! А калі яго не будзе ў вызначаны час, я загадаю пасля вячэры адлупцаваць цябе і ўсіх міністраў кіямі па пятках.

---

[1]) Чараўніцтва.

— Тзінг-пе!—сказаў першы міністр і зноў забегаў уверх і ўніз па лесніцах, па калідорах і залах; з ім бегалі ўсе саноўнікі і прыдворныя,—нікому не хацелася паспытаць кія.

На пляцоўках лесніц яны сутыкаліся насамі і пыталі адзін аднаго: „Што такое са-ла-вей? Дзе знайсці салаўя?“

Так яны абегалі ўвесь палац і нарэшце трапілі на кухню. У кухні сядзела маленькая дзяўчынка і выцірала талеркі. Першы міністр спытаў дзяўчынку, ці не ведае яна, дзе жыве салавей.

— Салавей?—сказала дзяўчынка.—Ну, вядома, ведаю! Ён так хараша пяе ў нашым лесе. Я кожны дзень нашу маёй хворай матцы рэшткі ад абеда з імператарскай кухні. А жывем мы ля самага мора. Там, у лясным гушчары, ёсць старое дрэва з вялікім дуплом і густымі-густымі галінамі. І вось, калі я праходжу міма гэтага дрэва, я кожны раз чую спеў салаўя. Ён пяе так пяшчотна, што слёзы капаюць у мяне з вачэй, а на душы робіцца так радасна, нібы мяне цалуе мама.

— Дзяўчынка,—сказаў першы міністр.—Я дазволю табе паглядзець, як есць сам імператар, калі ты прывядзеш нас да салаўя. Ён запрошан сёння ўвечары ў палац.

І вось усе адправіліся ў лес. Наперадзе ішла дзяўчынка, а за ёй міністры і саноўнікі. Ззаду ад усіх ішоў прыдворны бонза[1]).

Ішлі яны, ішлі і раптам пачулі, як замычэла карова.

— О!—сказалі прыдворныя.—Гэта, напэўна, і ёсць салавей. Які моцны ў яго голас!

— Гэта мычыць карова,—сказала дзяўчынка.—Яшчэ далёка да таго дрэва, на якім жыве салавей.

І ўсе пайшлі далей.

Тут у сажалцы заквакалі лягушкі.

— Цудоўна!—сказаў прыдворны бонза.—Нарэшце я чую салаўя! Ён пяе акурат як сярэбраныя званочкі ў нашай малельні.

---

[1]) Жрэц, свяшчэннік.

— Не, гэта лягушкі,—сказала зноў дзяўчынка.—Але цяпер, я думаю, мы хутка пачуем і самога салаўя.

І вось, нарэшце, у зялёных галінах пачулася цудоўнае пяянне.

— Вось гэта салавей,—сказала дзяўчынка.—Слухайце, слухайце! А вось і ён сам.

І яна паказала пальцам на маленькую шэранькую птушачку, якая сядзела на галіне.

— Пф!—сказаў першы міністр.—Ніяк не думаў, што гэты славуты салавей такі нікчэмны з выгляду. Мабыць, ён згубіў свае фарбы ад страху, убачыўшы так многа знатных асоб.

— Салавейка!—гучна закрычала дзяўчынка.—Наш імператар хоча паслухаць твае песні.

— Вельмі рады!—адказаў салавей і заспяваў звонка і весела. Ён падумаў, што тут быў сам імператар.

— Пф, пф!—сказаў першы міністр.—Ваш голас звініць таксама звонка, як звіняць шкляныя званочкі на парадным балдахіне імператара. Вы будзеце мець вялікі поспех пры двары.

— Можа спець яшчэ?—спытаў салавей.

— Паслухайце, пане салавей,—сказаў першы міністр.— Яго вялікасць імператар запрашае вас сёння ўвечары на прыдворнае свята. Не сумняваюся, што вы зачаруеце яго вялікасць сваімі цудоўнымі спевамі.

— Спевы мае куды лепей слухаць у зялёным лесе,— сказаў салавей.—Але я ахвотна палячу з вамі, калі гэта будзе прыемна імператару.

А ў палацы тым часам усе бегалі, стукалі дзвярмі і мітусіліся,—усе рыхтаваліся да свята. У фарфоравых сценах і ў шкляной падлозе адбіваліся сотні тысяч залатых ліхтарыкаў; у калідорах шэрагамі былі расстаўлены прыгожыя кветкі, а прывязаныя да кветак званочкі ад усёй гэтай беганіны, стукату і скразняку звінелі так, што не чутно было чалавечага голаса.

І вось надышоў вечар. Сярод вялізнай залы сядзеў імператар. Насупраць імператарскага трона ўзвышаўся залаты шост, і на самым канцы яго сядзеў салавей. Усе пры-





дворныя былі ў поўным зборы. Беднай дзяўчынцы з кухні дазволілі стаяць у дзвярах. За тое, што яна знайшла салаўя, першы міністр назначыў яе лейб-кухаркай. Усе былі ўбраныя па-святочнаму і не адводзілі вачэй ад маленькай шэранькай птушачкі. Але вось імператар ласкава кіўнуў галавой.

І салавей заспяваў. Ён спяваў так пяшчотна, так цудоўна, што ў імператара выступілі на вачах слёзы і пакаціліся па шчаках. Тады салавей зайшоўся яшчэ мацней, яшчэ пяшчотней.

Калі ён скончыў, імператар сказаў, што дарує салаўю свой залаты пантофель на шыю. Але салавей падзякаваў і адмовіўся.

— Я бачыў у вачах імператара слёзы,—сказаў салавей.— Якой мне яшчэ жадаць узнагароды?

І зноў загучэў яго цудоўны голас.

— Ах, гэта дзівосна!—ускрыквалі навыперадкі прыдворныя дамы. І з таго часу, калі ім трэба было размаўляць з кім-небудзь, яны набіралі ў рот вады, каб яна булькала ў іх горле. Яны думалі сабе, што гэтае бульканне падобнае да салаўіных трэляў.

Салаўя пакінулі пры двары і адвялі яму асобны пакой. Два разы ў дзень і раз уначы яму дазвалялі гуляць. Але да яго прыставілі дванаццаць лакеяў, і кожны з іх трымаў прывязаную да ножкі салаўя шаўковую стужку. Няма чаго казаць, вялікая прыемнасць была ад такой прагулкі!

Увесь горад загаманіў пра дзіўную птушку, і калі сустракаліся на вуліцы трое знаёмых, адзін з іх зараз-жа казаў: „са“, другі падхапляў: „ла,“ а трэці казаў: „вей“, пасля чаго ўсе трое ўздыхалі, адразу зразумеўшы адзін аднаго.

Адзінаццаць крамнікаў далі сваім сынам імёны ў гонар салаўя, але ніводзін з хлопчыкаў не мог спець нават самай простай песенькі.

Але вось аднойчы імператару прыслалі з Японіі скрыначку, загорнутую ў шаўковую тканіну. На скрыначцы было напісана: „Салавей“.

— Гэта, мусіць, новая кніга пра нашу славутую птушку, — сказаў імператар.

Скрынку адчынілі, але ў ёй была не кніга, а размаляваная каробачка. А ў каробачцы ляжаў штучны салавей. Ён быў вельмі падобны да сапраўднага, але ўвесь абляплены брыльянтамі, рубінамі і сапфірамі. Калі завесці птушку, — яна пачынала спяваць адну з тых песень, што спяваў сапраўдны салавей, і круціць хвосцікам, які блішчэў золатам і срэбрам. На шыйцы ў птушкі была стужка з надпісам: „Салавей імператара японскага нішто ў параўнанні з салаўём імператара кітайскага“.

— Як цудоўна!—сказалі ўсе, а таму чалавеку, што прывёз каштоўную птушку, зараз-жа далі высокі чын „прыдворнага пастаўшчыка салаўёў“.

— Цяпер няхай гэты салавей і наш сапраўдны спяюць разам,—пастанавіў імператар.

Але справа не пайшла на лад: сапраўдны салавей спяваў усё новыя і новыя песні, а штучны паўтараў адну і тую-ж, як заведзеная шарманка.

Тады штучнага салаўя прымусілі спяваць аднаго. Яго спеў таксама спадабаўся прыдворным, як і спевы сапраўднага салаўя, але новая птушка была куды прыгажэйшая, — яна ўся так і блішчэла, так і яскравілася.

Трыццаць тры разы праспявала яна адно і тое самае і не змарылася.

Прыдворныя ахвотна паслухалі-б яе яшчэ раз, ды імператар сказаў, што трэба, каб паспяваў і жывы салавей. Тут усе павярнуліся і паглядзелі на залаты шост. Але салаўя там не было. Куды-ж ён дзеўся?..

Ніхто не заўважыў, як салавей вылецеў праз адчыненае акно і паляцеў у свой зялёны лес.

— Што-ж гэта такое?—сказаў імператар, і ўсе прыдворныя сталі лаяць салаўя і называць яго няўдзячным стварэннем.

— Але ўсё-ж такі лепшая птушка асталася ў нас!—сказалі прыдворныя, і штучнаму салаўю прышлося праспяваць сваю адзіную песню трыццаць чацверты раз.

„Прыдворны пастаўшчык салаўёў“ расхвальваў сваю птушку і запэўняў, што яна куды лепшая за сапраўдную.

— Прашу звярнуць увагу, высокі ўладар мой, і вы, ласкавыя паны,—казаў ён,—ніколі-ж нельга ведаць загадзя, што іменна будзе спяваць жывы салавей, а ў штучнага ўсё вядома наперад. Можна нават разабраць яго і паглядзець, як ён зроблены: як размешчаны і дзейнічаюць валікі, трубкі і пружынкі.

— Але, і мы таксама думаем,—сказалі прыдворныя, а імператар загадаў паказаць птушку народу ў наступную-ж нядзелю.

— Няхай і народ паслухае яе,—сказаў імператар.

Народ паслухаў і прышоў у такое захапленне, нібы напіўся добрага чаю,—кітайцы-ж вельмі любяць чай.

Усе ў адзін голас казалі: „О!“, падымалі ўгару (указальныя) пальцы іківалі галовамі. Але бедныя рыбакі, якія чулі сапраўднага салаўя, казалі:

— Голас у яго нядрэнны, і пяе ён бадай таксама, як наш салавейка, але ўсё-такі не тое. Чагосьці нехапае, а чаго— мы і самі не ведаем.

А тым часам імператар выдаў указ. У гэтым указе сапраўднага салаўя аб'явілі выгнаным з кітайскай дзяржавы.

А штучны салавей ляжаў на шаўковай падушцы, каля самай імператарскай пасцелі. Вакол яго былі раскладзены ўсе падараныя яму каштоўнасці, а на шыі вісела імператар-

ская залатая пантофля. Штучнай птушцы далі асобае званне: „Першы спявак імператарскага начнога століка з левага боку", бо імператар лічыў болей важным зараз той бок, на якім знаходзіцца сэрца, а сэрца знаходзіцца налева нават у кітайскага імператара.

Вучоныя напісалі аб штучным салаўі дваццаць пяць кніг, поўных самымі мудронымі і незразумелымі кітайскімі словамі. Але ўсе прыдворныя запэўнялі, што яны прачыталі гэтыя кнігі і зразумелі ўсё, што там напісана,—іначай-жа іх празвалі-б дурнямі і адлупцавалі-б кіямі па пятках.

Так прайшоў цэлы год. Імператар, увесь двор і нават ўвесь народ ведалі напамяць кожную нотку ў песні штучнага салаўя. І таму пяянне яго ім падабалася яшчэ болей. Яны самі маглі цяпер падпяваць птушцы. Вулічныя хлапчукі спявалі: „Ці-ці-ці! Клюк-клюк-клюк!" І нават сам імператар напяваў часам: „Ці-ці-ці! Клюк-клюк-клюк!"

І вось аднаго разу ўвечары штучная птушка распявала перад імператарам, а ён ляжаў у пасцелі і слухаў яе. Раптам унутры птушкі нешта засіпела, заскрыгатала—і музыка сціхла.

Імператар ўсхапіўся і паслаў па свайго лейбмедыка. Але што той мог зрабіць? Ён-жа ж умеў лячыць толькі жывых людзей. Тады паклікалі гадзіннікавага майстра. Ён адчыніў у птушкі жывот і доўга разглядаў нейкія калёсікі і падкручваў нейкія трубачкі. Потым ён сказаў, што птушка будзе спяваць, але з ёй трэба быць вельмі асцярожным: маленькія зубчыкі сцерліся, а паставіць новыя нельга.

І імператар выдаў новы ўказ, што „першага спевака імператарскага начнога століка з левага боку" дазвалялася накручваць толькі адзін раз у год, дый то не надоўга.

Мінула яшчэ пяць год. І вось аднойчы імператар захварэў. Усе дактары казалі, што ён абавязкова памрэ. Міністры і прыдворныя збіраліся ўжо абвясціць новага імператара, а народ хадзіў натоўпам па вуліцы і ўсё пытаў першага міністра аб здароўі старога імператара.

— Пф!— адказваў першы міністр і ківаў галавой.

Бледны і пахаладзеўшы ляжаў імператар на сваім раскошным ложку. Усе прыдворныя лічылі яго памёршым, і кожны спяшаўся пакланіцца новаму імператару. Слугі бегалі ўзад

і ўперад па палацы і лавілі апошнія навіны, а служанкі сядзелі, балбаталі ды пілі чай. Ва ўсіх залах і калідорах былі рассцелены дываны, каб не чуваць было шуму крокаў, і ў палацы стаяла мёртвая ціша.

Але стары імператар яшчэ не памёр, хоць і ляжаў зусім нерухома на сваім раскошным ложку, пад аксамітным балдахінам з залатымі кутасамі. Акно было расчыненае, і ясны месяц глядзеў на імператара і штучнага салаўя, які ляжаў на шаўковай падушцы ля пасцелі імператара.

Бедны імператар не мог уздыхнуць, і яму здавалася, што нехта сядзіць у яго на грудзях... Ён крыху расплюшчыў вочы і ўбачыў, што на грудзях у яго сядзела смерць. На галаве яе была надзета карона імператара, у адной руцэ яна трымала яго залатую шаблю, а ў другой імператарскі штандар. А наваколл, з усіх складак аксамітнага балдахіна высоўваліся нейкія дзіўныя галовы: адны—брыдкія і злыя, другія—прыгожыя і добрыя. Але злых было куды болей. Гэта былі злыя і добрыя справы імператара. Яны глядзелі на імператара і нешта шапталі.

— Ці памятаеш ты гэта?—шаптала адна злая галава.

— А гэта памятаеш?—шаптала другая.

І галовы расказвалі імператару так многа аб яго злых справах, што на ілбу ў яго выступіў халодны пот.

— Я забыўся аб гэтым,—казаў імператар.—А гэтага ніколі і не ведаў.

І ён закрычаў:

— Музыку сюды, музыку! Біце ў вялікі кітайскі барабан! Я не хачу слухаць іх!

Але галовы ўсё гаварылі і гаварылі, а смерць, як кітаец, ківала пры кожным іх слове.

— Музыку сюды, музыку!—крычаў імператар.—Спявай хоць ты, мая слаўная птушачка! Я абдарыў цябе золатам і каштоўнасцямі, я павесіў табе на шыю сваю залатую пантофлю, спявай-жа, спявай!

Але птушка маўчала: не было каму завесці яе, а іначай яна спяваць не ўмела. А смерць усё глядзела на імператара сваімі вялікімі, пустымі ўпадзінамі вачэй.

І раптам за акном пачулася цудоўнае пяянне. То быў жывы салавей. Ён даведаўся, што імператар хворы, і прыляцеў, каб усцешыць і падбадзёрыць яго. Ён спяваў, і здані ўсё бляднелі, а кроў прылівала ўсё жывей да сэрца імператара. Сама смерць заслухалася салаўя і ціха паўтарала:

— Спявай, спявай яшчэ, салавеюшка!

— А ты аддасі за гэта імператару дарагую шаблю? І штандар? І карону?—пытаў салавей.

І смерць аддавала імператару яго каштоўнасці адну за другой, а салавей усё спяваў. Вось ён заспяваў пра ціхія могілкі, на якіх цвіце бузіна, пахнуць белыя ружы, і трава на могілках асвяжаецца слязьмі жывых людзей, што аплакваюць памершых блізкіх... Тут смерці так захацелася вярнуцца на могілкі, што яна загарнулася ў белы халодны туман і вылецела праз акно.

— Дзякую табе, мілая птушачка!—сказаў імператар.— Я выгнаў цябе калісьці з маёй дзяржавы, а цяпер ты сваёй песняй адагнала ад маёй пасцелі жудасныя здані, прагнала нават смерць! Чым мне ўзнагародзіць цябе?

— Ты ўжо ўзнагародзіў мяне раз назаўсёды,—сказаў салавей.—Я бачыў слёзы ў тваіх вачах, калі першы раз спяваў перад табой,—гэтага я не забуду ніколі. Слёзы—самая дарагая ўзнагарода спеваку.

І ён заспяваў зноў, а імператар заснуў здаровым, моцным сном.

Калі ён прачнуўся, у акно ўжо свяціла сонца. Ніхто з яго міністраў і прыдворных не прыходзіў да свайго імператара. Усе думалі, што ён памёр. Адзін салавей сядзеў ля акна і спяваў.

— Застанься ў мяне назаўсёды,— сказаў імператар.—Ты будзеш спяваць толькі тады, калі сам захочаш, а штучную птушку я разаб'ю на кавалкі.

— Не трэба!—сказаў салавей.—Яна служыла табе, як магла. Пакінь яе ў сябе. Я не магу жыць у палацы. Я буду прылятаць да цябе, калі сам захачу, і буду спяваць табе пра шчаслівых і няшчасных, пра дабро і зло, пра ўсё, што робіцца вакол цябе і чаго ты не ведаеш. Маленькі салавей лётае ўсюды, залятае і пад страху беднага рыбака і селяніна,

якія жывуць далёка ад палаца. Я буду прылятаць і спяваць табе. Але абяцай мне...

— Усё, што хочаш!—усклікнуў імператар і ўстаў з пасцелі.

Ён паспеў ужо надзець сваё царскае адзенне і прыціскаў да сэрца цяжкую залатую шаблю.

— Абяцай мне не гаварыць нікому, што ў цябе ёсць маленькая птушачка, якая расказвае табе пра ўсё. Так справа пойдзе лепш.

І салавей паляцеў.

Тут увайшлі прыдворныя паглядзець на мёртвага імператара, ды так і застылі на парозе. Перад імі стаяў імператар, жывы і здаровы. І ён сказаў ім:

— Добры дзень!

## Новае ўбранне караля

Даўно-даўно жыў на свеце кароль. Ён так любіў раскошна адзявацца, што траціў на ўбранне ўсе свае грошы. Ён наладжваў парады, загарадныя прагулкі, кожны дзень хадзіў у тэатры толькі для таго, каб паказацца ў новым адзенні. Кароль пераапранаўся кожную гадзіну, і адно адзенне яго было лепш за другое. Пра другіх каралей часта гавораць: „кароль радзіцца з міністрамі“, а пра гэтага караля казалі толькі адно: „кароль пераапранаецца“.

У каралеўскай сталіцы жылося вельмі весела: амаль кожны дзень туды прыязджалі іншаземныя госці. І вось, аднаго разу ў сталіцу прыехалі двое ашуканцаў. Ашуканцы казалі, што яны славутыя ткачы і што яны ўмеюць вырабляць такую цудоўную тканіну, лепш за якую нічога нельга сабе і ўявіць. Гэтая тканіна пераліваецца самымі яркімі фарбамі і расшыта самым прыгожым вышываннем. Але, апрача ўсяго гэтага, яна мае цудоўную ўласцівасць: яе могуць бачыць толькі разумныя людзі. Ні дурны, ні той, хто не падыходзіць да сваёй пасады, гэтай дасканалай тканіны не ўбачыць.

„Вось гэта добра,—падумаў кароль.—У мяне будзе новае прыгожае адзенне ды ў дадатак я яшчэ буду ведаць, хто з маіх саноўнікаў дарма атрымлівае пенсію, хто разумны, а хто дурны. Няхай хутчэй зробяць гэту надзвычайную тканіну!“

І ён даў ашуканцам вялікі задатак і загадаў ім зараз-жа ўзяцца за работу.

Ашуканцам адвялі ў палацы вялікі пакой, і яны паставілі там двое кроснаў, уселіся за іх і зрабілі выгляд, нібы старанна працуюць. А ў саміх на кроснах роўна нічога не было—ніводнай ніткі, ні кавалка тканіны. Кожны дзень ашуканцы патрабавалі для сваёй работы самага тонкага шоўку і чыстага золата. Усё гэта яны хавалі ў свае кішэні і сядзелі за пустымі станкамі ад раніцы да позняй ночы.

І вось неяк раз кароль захацеў паглядзець, як ідзе ў ткачоў работа. Але тут ён успомніў пра цудоўную ўласцівасць тканіны, і адчуў сябе неяк нядобра. Вядома, яму за сябе баяцца не прыходзіцца, але... усё-такі няхай спачатку паглядзіць хто-небудзь другі.

„Лепш я пашлю да іх майго чэснага старога міністра,— падумаў кароль.—Ужо-ж ён убачыць гэтую тканіну: ён разумны і з гонарам займае сваё месца“.

І вось стары міністр увайшоў у пакой, дзе сядзелі за пустымі кроснамі ашуканцы.

„Вось табе маеш!—падумаў міністр.—Я-ж нічога не бачу!

Але голасна ён гэтага не сказаў.

Ашуканцы пачціва папрасілі яго падыйсці бліжэй і сказаць, як падабаюцца яму рысунак і фарбы. Яны паказвалі на пустыя станкі, і бедны міністр, як ні таращчыў вочы, усё-такі нічога не бачыў. Ды і не было чаго бачыць.

— Няўжо-ж я дурань?—прашаптаў міністр.—Вось ужо чаго ніколі не думаў! Барані божа, калі хто-небудзь даведаецца аб гэтым!.. А можа і я непрыгодны да сваёй пасады?.. Не, не, аніяк нельга прызнацца, што я не бачу тканіны.

— Што-ж вы нічога не скажаце нам?—спытаў адзін з ткачоў.

— О, гэта зусім нядрэнна!—адказаў стары міністр, гледзячы праз акуляры на пустыя кросны.—І рысунак прыгожы,



і фарбы цудоўныя. Так, так, я далажу каралю, што мне надзвычай спадабалася ваша работа!

— Рады старацца! — сказалі ашуканцы і навыперадкі прыняліся расхвальваць рысункі на сваей тканіне.

Міністр слухаў вельмі ўважліва, каб потым паўтарыць усё гэта каралю. Так ён і зрабіў.

Ад гэтага дня ашуканцы сталі патрабаваць яшчэ болей шоўку і золата. Усе кішэні ў іх былі поўныя дарагімі таварамі, а на работу яны не патрацілі ніводнай нітачкі.

Праз некалькі дзён кароль паслаў да ткачоў другога саноўніка. І з ім адбылося тое-ж, што і з першым. Ужо-ж ён глядзеў, і так і гэтак, і збоку заглядваў, і знізу, але нічога, апрача пустых кроснаў, так і не выгледзеў.

— Ну як? Ці падабаецца вам? — спыталі яго ашуканцы, разводзячы рукамі ў паветры, нібы яны падтрымлівалі цяжкую тканіну.

„Вядома, я не дурны, — думаў саноўнік, — але тады, значыцца, я не на сваім месцы? Вось дык штука! Але-ж нельга ў гэтым прызнацца!“

І ён пачаў расхвальваць тканіну, якой не бачыў, і захапляцца цудоўнымі ўзорамі, якіх не было.

— Вельмі хораша, вельмі міла!—далажыў ён каралю.

Хутка ўвесь горад загаманіў пра цудоўную тканіну.

Нарэшце кароль сам пажадаў палюбавацца гэтым дзівам, пакуль яно яшчэ не знятае з кроснаў. З цэлай світай прыдворных і вяльмож кароль адправіўся да ткачоў. У каралеўскай свіце былі і тыя два саноўнікі, якія ўжо пабывалі ў ашуканцаў. А ашуканцы тым часам сядзелі ў сваім пакоі і што ёсць сілы ткалі на пустых кроснах.

— Надта добра! Праўда?—сказалі першыя два саноўнікі.—Палюбуйцеся толькі. Які рысунак, якія фарбы!

І яны тыкалі пальцамі ў паветра, думаючы, што ўсе астатнія сапраўды бачаць цудоўную тканіну.

„Што гэта значыць?—падумаў кароль.—Я нічога не бачу. Але-ж гэта жудасна! Няўжо я дурань? А можа я не гажуся ў каралі? Гэта было-б горш за ўсё!“

А голасна ён сказаў:

— О, ды гэта вельмі нядрэнна! Зусім варта майго адабрэння.

І кароль з задаволеным выглядам ківаў галавой. Каралеўская світа глядзела ва ўсе вочы, але бачыла не больш за свайго ўладара. І ўсё-ж прыдворныя паўтаралі ў адзін голас:

— О, гэта дасканала! Гэта надзвычайна!—і раілі каралю пашыць сабе з гэтай тканіны ўбранне для надыходзячай урачыстай працэсіі.

Кароль узнагародзіў ашуканцаў ордэнамі і даў ім званне прыдворных ткачоў.

Усю ноч перад урачыстасцю прасядзелі ашуканцы за работай і спалілі больш за шаснаццаць свечак. Яны рабілі выгляд, што здымаюць тканіну з кроснаў і кравяць яе вялікімі нажніцамі. А потым яны сталі шыць новае адзенне караля іголкамі без нітак.

Нарэшце яны аб'явілі:

— Гатова!

Назаўтра кароль з усёй сваёй світай прышоў па новае адзенне. Ашуканцы падымалі ўгару рукі, нібы трымалі нешта, і прыгаварвалі:

— Калі ласка, ваша вялікасць, вось панталоны, вось камзол, а вось кафтан! Цудоўнае ўбранне! Лёгкае, як павуціннe. Вы нават і не адчуеце, што надзелі яго.

— Так, так!—казалі прыдворныя, але яны нічога не бачылі, ды і бачыць не было чаго.

— Цяпер, калі ласка, просім раздзецца і стаць вось тут, перад вялікім люстрам!—сказалі ашуканцы каралю.—Мы адзенем вас.

Кароль зняў старое адзенне, і ашуканцы пачалі апранаць яго: яны рабілі выгляд, нібы надзяюць на яго то панталоны, то камзол, то кафтан. Яны прыкінуліся, што зашпільваюць гузікі і завязваюць банты, а потым яны шырока ўзмахнулі рукамі, нібы накінулі на плечы караля каралеўскую мантыю. А кароль паварочваўся перад люстрам і аглядаў сябе то з аднаго боку, то з другога.

— Ах, як да твару каралю гэтае адзенне! Як цудоўна яно сядзіць на ім!—шапталі прыдворныя.—Які рысунак, якія фарбы! Раскошнае ўбранне!

— Балдахін яго вялікасці ля дзвярэй!—далажыў оберцарамонімайстар.

— Я гатоў!—сказаў кароль.—Ці добра сядзіць на мне гэтае плацце?

І ён падышоў бліжэй да люстра і яшчэ раз агледзеў сябе ад галавы да ног. Усе-ж павінны былі бачыць, што ён уважліва разглядае сваё ўбранне.

Камергеры, якія павінны былі несці шлейф каралеўскай мантыі, прыкінуліся, нібы падымаюць нешта з падлогі, і пайшлі за каралём, выцягваючы перад сабой рукі,—яны баяліся паказаць, што несці не было чаго.

І вось працэсія рушыла. Кароль урачыста ішоў пад раскошным балдахінам, а ў натоўпе народу на вуліцах казалі:

— Ах, якое ўбранне! Якая раскошная мантыя! Як усё гэта да твару каралю!

Ніводзін чалавек не прызнаўся ў тым, што нічога не бачыць, ніхто не хацеў, каб яго прызналі дурнем або нікуды нявартым.

І раптам нейкі маленькі хлопчык крыкнуў:

— А кароль-жа ж голы!

— Ах, паслухайце, што гаворыць нявіннае дзіця!—сказаў яго бацька.—Дзіця і ёсць дзіця. Яно заўсёды для сваёй пасады гадзіцца. Значыцца, яно кажа праўду.

І ўсе пачалі шэптам паўтараць:

— Але-ж гэта верна! Кароль сапраўды голы!

— Голы кароль! Голы!—раптам гучна закрычаў увесь народ.

І каралю зрабілася жудасна.

„Не можа быць, каб усе былі дурні,—падумаў ён.—Значыцца мяне ашукалі, і я сапраўды голы. Але што-ж рабіць—трэба ісці далей“.

І голы кароль яшчэ з большай веліччу закрочыў пад сваім балдахінам, а камергеры ішлі за ім і неслі шлейф, якога не было.

## Дзюймовачка

Жыла-была адна жанчына, і не было ў яе дзяцей. А ёй вельмі хацелася мець маленькае дзіця. Вось пайшла яна да старой чараўніцы і сказала:

— Мне вельмі хочацца, каб у мяне была дачка. Ці не скажаш ты, дзе мне яе ўзяць?

— Чаму не сказаць?—адказала чараўніца.—Вось табе ячменнае зярнятка. Гэтае зярнятка не простае, не такое, што расце па сялянскіх палях і якімі кормяць курэй. Садзі ты гэтае зярнятка ў гаршчок для кветак, а потым убачыш, што будзе.

— Дзякую табе!—сказала жанчына і дала чараўніцы дванаццаць грошаў. Потым яна пайшла дадому і пасадзіла ячменнае

зярнятка ў гаршчок для кветак. Толькі яна яго пасадзіла, зярнятка адразу дало расток, а з растка вырасла вялікая цудоўная кветка, зусім як цюльпан. Але пялёсткі кветкі былі шчыльна сціснутыя, як у бутона.

— Якая цудоўная кветка!—сказала жанчына і пацалавала прыгожыя пялёсткі. І як толькі яна пацалавала пялёсткі, там унутры, у бутоне, нешта шпокнула—і кветка распусцілася. Гэта быў зусім цюльпан, але ў самой чашачцы на зялёным песціку сядзела дзяўчынка. Яна была маленькая-маленькая, усяго дзюйм росту. Яе так і празвалі Дзюймовачкай.

Шкарлупіна грэцкага арэха была яе калыскай, блакітныя фіялкі пярынай, а пялёстак ружы коўдрай. У шкарлупіне яна спала ноч, а ўдзень гуляла на стале. Жанчына паставіла на стол талерку з вадой, а па краях талеркі паклала кветкі, і доўгія сцябельчыкі кветак купаліся ў вадзе. Для маленькай Дзюймовачкі талерка з вадой была цэлым возерам, і Дзюймовачка плавала па гэтым возеры на пялёстку цюльпана, як на лодачцы. Замест вёслаў у яе былі два белыя конскія валасы. Дзюймовачка цэлыя дні каталася на сваёй цудоўнай лодачцы, пераплывала з аднаго боку талеркі на другі і спявала песні. Такога пяшчотнага галаска, як у яе, ніхто ніколі не чуў.

Аднаго разу ўначы, калі Дзюймовачка спала ў сваёй калысцы, праз адчыненае акно ў пакой улезла вялізная жаба, мокрая і брыдкая. Яна скокнула прама на стол і заглянула ў шкарлупіну, дзе спала пад пялёсткай ружы Дзюймовачка.

— Вось дзе добрая жонка будзе майму сынку!—сказала жаба. Яна схапіла арэхавую шкарлупіну з дзяўчынкай і выскачыла праз акно ў сад.

У садзе працякала рэчка, а ля самага яе берага было топкае балота. Тут вось, у балотнай твані, і жыла старая жаба са сваім сынам. Сын быў таксама мокры і брыдкі—акурат як і яго маці, старая жаба.

— Коакс, коакс, брэкке-ке-кекс!—толькі і мог ён сказаць, калі ўбачыў маленькую дзяўчынку ў арэхавай шкарлупіне.

— Цішэй, ты! Разбудзіш яе, і яна ўцячэ ад нас,—сказала старая жаба.—Яна-ж лягчэй за лебядзіны пух. Пасадзім лепш яе на самую сярэдзіну ракі, на шырокі ліст куўшынкі,— гэта цэлы востраў для такой крошкі. Адтуль ужо ёй аніяк



не ўцячы. А я тым часам зраблю для вас у твані ўтульнае гняздзечка.

У рацэ расло шмат куўшынак; іх шырокія зялёныя лісці плавалі па вадзе. Самы вялікі ліст быў далей за ўсіх ад берага. Жаба падплыла да гэтага ліста і паставіла на яго арэхавую шкарлупіну, у якой спакойна спала дзяўчынка.

Раніцою прачнулася Дзюймовачка і раптам убачыла, што яна ляжыць на лісце куўшынкі; навакол, куды ні глянеш, вада, а бераг ледзь віднеецца воддалі. Дзюймовачка вельмі спалохалася і заплакала.

А старая жаба сядзела ў твані і ўпрыгожвала свой дом чаротам і жоўтымі куўшынкамі,—яна хацела дагадзіць маладой нявестцы. Калі ўсё было гатова, жаба паплыла са сваім брыдкім сынком да ліста, на якім сядзела Дзюймовачка, каб узяць яе калыску і паставіць у спальні. Старая жаба нізка прысела ў вадзе перад дзяўчынкай і сказала:

— Вось мой сынок! Ён будзе тваім мужам. Вы добра зажывеце з ім у нас у твані.

— Коакс, коакс, брэкке-ке-кекс!—толькі і мог сказаць сынок.

Жабы ўзялі шкарлупіну і паплылі з ёй, а Дзюймовачка засталася на зялёным лісце і горка-горка заплакала,—ёй зусім не хацелася жыць у брыдкай жабы і выходзіць замуж за яе агіднага сына.

Маленькія рыбкі, якія плавалі пад вадой, бачылі жабу і яе сына і чулі, што яна казала Дзюймовачцы. Яны высунулі з вады свае галовы, каб паглядзець на малюсенькую нявесту. Як толькі рыбкі ўбачылі Дзюймовачку, ім стала вельмі шкада, што такой прыгожанькай дзяўчынцы прыдзецца жыць з жабамі. Не бываць-жа гэтаму! Рыбкі з усёй рэчкі падплылі да ліста куўшынкі, на якім сядзела Дзюймовачка, і перагрызлі сцеблялёк ліста.

І вось ліст куўшынкі паплыў па цячэнню. Цячэнне было моцнае, і ліст з дзяўчынкай плыў вельмі хутка. Цяпер жаба ніяк не магла-б дагнаць Дзюймовачку.

А Дзюймовачка плыла ўсё далей, і маленькія птушкі, якія сядзелі ў кустах, глядзелі на яе і спявалі:

— Якая прыгожанькая маленечкая дзяўчынка!

Прыгожы белы матылёк увесь час лётаў вакол Дзюймовачкі і нарэшце апусціўся на ліст,—надта ўжо спадабалася яму маленькая дзяўчынка. Тады Дзюймовачка зняла з сябе пояс, адзін канец накінула на матылька, а другі прывязала да свайго лістка, і лісток паплыў яшчэ шпарчэй.

Раптам міма праляцеў майскі жук. Ён убачыў Дзюймовачку, схапіў яе і занёс на дрэва, а зялёны ліст куўшынкі паплыў далей, і з ім матылёк,—ён-жа ж быў прывязаны і не мог вызваліцца.

Бедная Дзюймовачка вельмі спалохалася, калі жук схапіў яе і паляцеў з ёю на дрэва. Але майскаму жуку і гора было мала. Ён усеўся высока на дрэве, пакарміў Дзюймовачку салодкім кветкавым сокам і сказаў ёй, што яна яму вельмі падабаецца, хоць яна і зусім непадобная да майскага жука.

Потым да іх прышлі ў госці другія майскія жукі, якія жылі на тым-жа дрэве. Яны разглядалі Дзюймовачку ад галавы да ног, а жучкі-паненкі пацiскалі шчупальцамі.

— У яе толькі дзве ножкі!—сказалі адны.

— У яе нават няма шчупальцаў!—сказалі другія.

— Якая яна тонкая! Яна зусім як чалавек! — сказалі трэція.

— Яна вельмі непрыгожая!—парашылі нарэшце ўсе жукі.

Тут і майскаму жуку, які прынёс Дзюймовачку, здалося таксама, што яна вельмі непрыгожая, і ён не захацеў болей трымаць яе ў сябе,—хай ідзе куды хоча. Ён зляцеў з ёю ўніз і пасадзіў яе на рамашку.

Дзюймовачка сядзела на кветцы і плакала: ёй было крыўдна, што яна такая непрыгожая. Нават майскія жукі прагналі яе.

Усё лета пражыла Дзюймовачка адна-адзінюткая ў лесе. Яна спляла сабе з травы калыску і павесіла гэтую калыску пад вялікі ліст лопуха, каб яе не замачыў дождж. Яна ела салодкі кветкавы мёд і піла расу, якую кожную раніцу знаходзіла на лісцях.

Так прайшло лета, прайшла і восень. Набліжалася доўгая халодная зіма. Усе птушкі адляцелі, кветкі завялі, а вялікі лопух, пад якім жыла Дзюймовачка, пажоўк, засох і скруціўся ў трубачку.

Дзюймовачка дрыжала ад холаду: суkенка яе ўся парвалася, а сама яна была такая маленькая, кволая—як ёй не мерзнуць? Пайшоў снег, і кожная сняжынка была для Дзюймовачкі тое самае, што для нас цэлая лапата снегу. Мы-ж вялікія, а яна была ўсяго толькі з дзюйм росту. Яна загарнулася была ў сухі ліст, але ён зусім не грэў, і Дзюймовачка сама дрыжала, як асенні ліст.

Тады Дзюймовачка парашыла пайсці з лесу і пашукаць сабе прытулак на зіму.

За лесам, у якім жыла Дзюймовачка, было вялікае поле. Хлеб з поля даўно ўжо ўбралі, і толькі кароткія сухія сцябельчыкі вытыркаліся з мерзлай зямлі.

У полі было яшчэ халадней, чым у лесе, і небарака зусім змерзла. І вось Дзюймовачка прышла да норкі палявой мышкі; уваход у норку быў прыкрыты сухімі сцябельчыкамі. Палявая мышка жыла ў цяпле і была заможная: кухня і кладоўка ў яе былі даверху напоўнены збожжам. Дзюймовачка

стала ля парога, як жабрачка, і папрасіла даць ёй кавалачак ячменнага зерня, бо яна два дні нічога не ела.

— Ах ты, небарака!—сказала палявая мыш (яна была, па сутнасці, добрая баба).—Ну, ідзі сюды, пагрэйся ды пад'еш са мной!

І Дзюймовачка спусцілася ў норку, абагрэлася і пад'ела. Старой мышы дзяўчынка вельмі спадабалася, і яна сказала ёй:

— Аставайся ў мяне на зіму. Я буду карміць цябе, а ты даглядай добра мой дом ды расказвай мне казкі,—я вельмі люблю казкі.

І Дзюймовачка стала рабіць усё, што загадвала ёй старая мыш. Ёй жылося вельмі добра ў цёплай мышынай норцы.

— Скора ў нас будуць госці,—сказала аднойчы палявая мыш.—Раз у тыдзень прыходзіць наведаць мяне мой сусед. Ён вельмі багаты і жыве куды лепш за мяне. У яго вялікі дом пад зямлёй, і ён носіць цудоўную чорную футру. Выходзь, дзяўчынка, за яго замуж! Ужо-ж за ім ты не прападзеш. Адна толькі бяда: ён зусім сляпы і не ўбачыць цябе. Затое ты будзеш расказваць яму самыя лепшыя казкі, якія толькі ведаеш.

Але Дзюймовачцы зусім не хацелася выходзіць замуж за суседа,—гэта-ж быў крот.

Хутка крот і сапраўды прышоў у госці да палявой мышы. Ён быў такі паважны, вучоны і багаты; шуба на ім была бархатная і вельмі прыгожая.

Дом у яго быў у дваццаць разоў большы, чым дамок палявой мышкі. Там было многа вялікіх пакояў і доўгіх калідораў, але сонца ніколі не заглядвала туды. Крот цярпець не мог сонца і кветак,—ён-жа ж іх ніколі не бачыў.

Дзюймовачку прымусілі спяваць для важнага госця, і яна праспявала дзве песенькі, ды так хораша, што крот адразу палюбіў яе. Але ён не сказаў ні слова,—ён быў такі сур'ёзны і салідны пан.

А потым крот пракапаў пад зямлёй доўгі падземны ход ад свайго дома да самай норкі палявой мышы і запрасіў старую мыш з Дзюймовачкай прайсціся па гэтым падземным ходзе.

Крот узяў у рот гнілушку—у цямноце гнілушка свеціць нібы свечка—і пайшоў паперадзе, асвятляючы доўгі і шырокі калідор. На поўдарозе крот спыніўся і сказаў:

— Тут ляжыць нейкая птушка. Але вам яе няма чаго баяцца,—яна мёртвая.

І крот праткнуў сваім шырокім носам дзірку ў столі; дзённае святло пранікла ў падземны ход, і Дзюймовачка ўбачыла мёртвую ластаўку. Гэта была сапраўдная птушка з пер'ямі і дзюбай; яна, мабыць, памерла нядаўна, у пачатку зімы, і ўпала ў норку крата.

Крылкі мёртвай птушкі былі моцна прыціснуты да цела, ножкі і галава схаваны ў пёрайкі. Бедная ластаўка, мабыць, памерла ад холаду. Дзюймовачцы стала вельмі шкада яе,—яна так любіла птушак, яны-ж цэлае лета спявалі ёй свае цудоўныя песенькі. Але крот штурхануў ластаўку сваімі кароткімі лапамі і сказаў:

— Цяпер ужо не пасвісціш! Так, не хацеў-бы я радзіцца вось гэтай пічужкай. Яна толькі і ўмее чырыкаць ды шчабятаць, а прыдзе зіма—што ёй рабіць: памірай ад голаду і холаду. Вось ужо маім дзецям зімы не прыдзецца баяцца.

— Так, так!—сказала палявая мыш.—Якая карысць ад гэтага чырыкання? Песнямі сыты не будзеш, чырыканнем узімку не сагрэешся!

А Дзюймовачка маўчала, але калі крот і мыш павярнуліся да птушкі спіной, Дзюймовачка схілілася над ластаўкай, рассунула пёрайкі і пацалавала яе прама ў сплюшчаныя вочы.

„Можа гэта тая самая ластаўка, што так цудоўна спявала ўлетку,—падумала дзяўчынка.—Колькі радасці дала ты мне, мілая птушачка!“

Потым крот заткнуў дзіру ў столі і правадзіў старую мыш і Дзюймовачку дахаты. Уначы Дзюймовачцы не спалася. Яна ўстала з пасцелькі, спляла з сухіх націнак вялікі кавёр, пайшла ў падземны ход і прыкрыла каўром мёртвую птушку. Потым Дзюймовачка прынесла з мышынай норкі пушысты, мяккі мох і зрабіла з яго пасцельку, каб мёртвай птушцы было лепей ляжаць.

— Бывай, мілая ластаўка,—сказала Дзюймовачка.—Бывай! Дзякую табе за тое, што ты так цудоўна спявала мне



ўлетку, калі дрэвы былі яшчэ зялёныя, а сонейка так добра грэла!

І яна прытуліла галоўку на грудзі птушкі і раптам спалохалася: яна пачула, як у грудзях ластаўкі нешта стукае. Гэта забілася сэрца птушкі—яна была не зусім мёртвая, а толькі здрантвела ад холаду. А цяпер яна сагрэлася і аджыла.

Дзюймовачка дрыжала ад страху—птушка-ж была проста веліканам у параўнанні з такой крошкай. Але ўсё-такі Дзюймовачка сабралася з духам, шчыльней закрыла ластаўку коўрыкам, а потым збегала, прынесла лісток мяты, якім сама накрывалася, і накрыла ім галаву птушкі.

На другую ноч Дзюймовачка зноў ціханька прабралася да птушкі. Ластаўка ўжо зусім ачуняла, толькі была яшчэ вельмі слабая і ледзь-ледзь расплюшчыла вочы, каб паглядзець на дзяўчынку. Дзюймовачка стаяла перад ёю з кавалкам гнілушкі ў руках,—іншага ліхтара ў яе не было.

— Дзякую табе, мілая крошка!—сказала хворая ластаўка.—Я так добра сагрэлася! Хутка я зусім папраўлюся і зноў вылету на сонейка.

— Ах,—сказала Дзюймовачка,—цяпер так холадна, ідзе снег! Аставайся лепш у сваёй цёплай пасцелі, а я буду даглядаць цябе.

Дзюймовачка прынесла ластаўцы вады ў кветкавай пялёстцы і некалькі ячменных зярнятак. Ластаўка папіла і паела, а потым расказала дзяўчынцы, як яна параніла сабе крыло аб калючы куст і не магла ляцець разам з другімі ластаўкамі ў цёплыя краі. Прышла зіма, стала вельмі холадна, і яна ўпала на зямлю... Болей ластаўка ўжо нічога не памятала, і як трапіла сюды, у падзямелле,—яна не ведала.

Усю зіму пражыла ластаўка ў падзямеллі, а Дзюймовачка даглядала яе. Ні крот, ні палявая мышка нічога не ведалі аб гэтым,—яны-ж зусім не любілі птушак.

Калі настала вясна і прыгрэла сонейка, Дзюймовачка, каб ластаўка магла вылецець, працерабіла тую дзіру, якую зрабіў у столі крот.

Ластаўка спытала, ці не хоча дзяўчынка адправіцца разам з ёю,—няхай сядзе ёй на спіну, і яны паляцяць у зялёны лес. Але Дзюймовачцы было шкада старой палявой мышы,—яна ведала, што старая без яе будзе вельмі нудзіцца.

— Не, я не магу ляцець з табой,—сказала яна ластаўцы.

— Бывай, бывай, мілая дзяўчынка!—прашчабятала ластаўка і вылецела на волю.

Дзюймовачка паглядзела ёй услед, і слёзы закапалі ў яе з вачэй,—надта ўжо палюбіла яна птушку.

— Цві-віць, цві-віць!—крыкнула ластаўка і знікла ў зялёным лесе.

А Дзюймовачка асталася ў мышынай нары. Цяпер ёй жылося вельмі дрэнна. Ёй зусім не дазвалялі выходзіць на сонейка, а поле вакол норкі палявой мышы зарасло высокімі тоўстымі калоссямі і здавалася Дзюймовачцы драмучым лесам.

І вось аднаго разу прышоў стары крот і пасватаўся да Дзюймовачкі.

— Ну, цяпер табе трэба рыхтаваць пасаг,—сказала старая мыш.—Ты выйдзеш замуж за важнага пана, і трэба, каб у цябе ўсяго было многа.

І Дзюймовачцы прышлося цэлыя дні прасці пражу. Старая мыш наняла чатырох павукоў, і яны дзень і ноч сядзелі ў ў мышынай нары і ткалі розную тканіну.

А тоўсты сляпы крот кожны вечар прыходзіў у госці і балбатаў аб тым, што хутка лету будзе канец, сонца перастане паліць зямлю. І яна зноў зробіцца мяккай і рыхлай. Вось тады яны і адгуляюць вяселле. Але Дзюймовачка ўсё сумавала і плакала: яна зусім не хацела выходзіць замуж за тоўстага крата.

Кожную раніцу, пры ўсходзе сонца, і кожны вечар, пры заходзе, Дзюймовачка выходзіла на парог мышынай норкі;

часам вецер рассоўваў калоссі, і ёй удавалася ўбачыць кавалачак блакітнага неба.

„Як светла, як хараша тут на волі!“ думала Дзюймовачка і ўсё ўспамінала ластаўку. Ёй вельмі хацелася пабачыць птушку, але ластаўкі нідзе не было відаць; мабыць, яна лётала там далёка-далёка, у зялёным лесе.

І вось прышла восень. Пасаг Дзюймовачкі быў гатовы.

— Праз чатыры тыдні тваё вяселле!—сказала Дзюймовачцы палявая мыш.

Але Дзюймовачка заплакала і сказала, што не хоча выходзіць замуж за нуднага крата.

— Глупствы!—сказала старая мыш.—Не будзь упартай, а то я ўкушу цябе сваімі вострымі зубамі. Чым табе крот не муж? У самой каралевы няма такой чорнай бархатнай футры, як у яго. Ды і ў скляпах у яго не пуста. Бога дзякуй за такога мужа!

Нарэшце надышоў дзень вяселля, і крот прышоў па сваю нявесту. Цяпер Дзюймовачцы прыдзецца перасяліцца ў кратовую нару, жыць глыбока пад зямлёй, і ніколі яна не ўбачыць сонца,—крот ні ў якім разе не дазволіць ёй выходзіць з нары. А беднай Дзюймовачцы было так цяжка назаўсёды развітацца з ясным сонейкам. І Дзюймовачка вышла зірнуць на сонейка ў апошні раз.

Хлеб быў ужо ўбраны з поля, і з зямлі зноў тырчалі голыя, засохлыя сцяблы.

Дзяўчынка адышла ад мышынай норкі крыху далей і працягнула да сонца рукі.

— Бывай, сонейка, бывай!

Потым яна ўбачыла маленькую чырвоную кветку, абняла яе і сказала:

— Пакланіся, кветачка, ад мяне мілай ластаўцы, калі ўбачыш яе!

— Цві-віць, цві-віць!—раптам пачулася над яе галавой.

Дзюймовачка падняла вочы і ўбачыла ластаўку, якая пралятала міма. Ластаўка таксама ўбачыла дзяўчынку і вельмі абрадавалася, а Дзюймовачка заплакала і расказала ластаўцы, як ёй не хочацца выходзіць замуж за тоўстага крата і жыць з ім глыбока пад зямлёй, куды ніколі не заглядвае сонейка.

— Ужо надыходзіць халодная зіма,—сказала ластаўка,—і я паляту далёка-далёка, у цёплыя краі. Хочаш ляцець са мной? Садзіся мне на спіну,—толькі прывяжы сябе мацней поясам,—і мы паляцім з табой ад брыдкага крата, паляцім далёка, за сіняе мора, дзе сонейка свеціць ярчэй, дзе заўсёды лета і цвітуць цудоўныя кветкі. Паляцім са мной, мілая крошка! Ты-ж выратавала мне жыццё, калі я замярзала ў цёмнай, халоднай яме.

— Але, але, я паляту з табой!—сказала Дзюймовачка.

Яна села ластаўцы на спіну, працягнула ножкі на яе хвост і моцна прывязала сябе поясам да самага вялікага пяра.

Ластаўка ўзнялася стралой і паляцела над цёмнымі лясамі, над сінімі марамі і высокімі горамі, пакрытымі снегам. Тут было вельмі холадна, і Дзюймовачка ўся закапалася ў цёплыя пер'і ластаўкі, а высунула толькі галаву, каб любавацца прыгожымі мясцінамі, над якімі яны пралятталі.

Але вось і цёплыя краі! Тут сонца ззяла значна ярчэй, неба было ўдвая вышэй, як у нас, а каля равоў і плятнёў віўся цудоўны зялёны вінаград. У лясах раслі памеранцы і лімоны, пахла міртамі і душыстай мятай, а па дарожках бегалі вясёлыя дзеці і лавілі вялікіх яскравых матылькоў. Але ластаўка ляцела ўсё далей.

На беразе цудоўнага блакітнага возера, сярод зялёных кучаравых дрэў стаяў старажытны белы мрамарны палац. Вінаградныя лозы абвівалі яго высокія калоны, а наверсе, пад дахам, ляпіліся птушыныя гнёзды. У адным з іх і жыла ластаўка.

— Вось мой дом!—сказала ластаўка.—А ты выберы сабе самую прыгожую кветку ўнізе, я пасаджу цябе туды, і ты будзеш жыць, як лепей не трэба.

Дзюймовачка абрадавалася і ад радасці запляскала ў далоні.

Унізе ляжалі кавалкі белага мрамара,—гэта звалілася верхавіна адной калоны і разбілася на тры кавалкі,—паміж мрамарнымі абломкамі раслі вялікія белыя кветкі. Ластаўка спусцілася і пасадзіла дзяўчынку на шырокую пялёстку. Але што за цуд такі! У чашачцы кветкі сядзеў маленькі чалавечак беленькі і празрысты, быццам ён быў з шкла. За пля-

чыма ў яго дрыжалі лёгкія крылкі, а на галаве блішчэла маленькая залатая карона. Ростам ён быў не болей за нашу Дзюймовачку Гэта быў кароль эльфаў.

Калі ластаўка падляцела да кветкі, эльф зусім перапалохаўся. Ён быў такі малюсенькі, а ластаўка такая вялікая. Але ён вельмі абрадаваўся, калі ўбачыў Дзюймовачку,—ён ніколі яшчэ не бачыў такой прыгожай дзяўчынкі. Ён нізка пакланіўся ёй і спытаў, як яе завуць.

— Дзюймовачка,—адказала дзяўчынка.

— Мілая Дзюймовачка,—сказаў эльф,—ці не хочаш ты быць маёй жонкай?

І Дзюймовачка адразу згадзілася.

Тады з кожнай кветкі вылецелі эльфы і прынеслі Дзюймовачцы падарункі. Самым лепшым падарункам былі празрыстыя крылкі, зусім як у стракозы. Іх прывязалі Дзюймовачцы на спіну, і яна таксама магла цяпер пералятаць з кветкі на кветку. Колькі было радасці і весялосці!

А ластаўка сядзела наверсе ў сваім гняздзечку і спявала песні. як умела.

Яна спявала эльфам вясёлыя песні пра цёплую зіму. А калі ў халодных краінах прышла вясна, ластаўка стала збірацца на радзіму.

— Бывай, бывай!—прашчабятала ластаўка і зноў паляцела з цёплых краёў у Данію. Там у яе было маленькае гняздзечка, акурат пад акном чалавека, які ўмеў добра расказваць казкі. Ластаўка расказала яму пра Дзюймовачку, а ад яго і мы пачулі ўсю гэтую гісторыю.

## Пастушка і камінар

Ці бачылі вы калі-небудзь сапраўдную даўнейшую драўляную шафу, зусім пачарнеўшую ад часу і ўпрыгожаную хітрай разьбой—завітушкамі, лісцямі? Такая вось шафа—прабабкіна спадчына—стаяла ў гасцінай. Яна ад верху да нізу была пакрыта разьбой—ружамі, цюльпанамі і самымі дзіўнымі

завітушкамі. З завітушак высоўваліся аленевыя галоўкі з галіністымі рагамі, а на самай сярэдзіне шафы стаяў чалавечак, які вельмі смешна скаліў зубы,—усмешкай-жа такую грымасу не назавеш! У яго былі казліныя ногі, рожкі на лобе і доўгая худая бародка. Дзеці празвалі яго обер-унтэр-генерал-камандзір-сержант Казланог. Не скора вымавіш такое дзіўнае прозвішча, і мала каму даецца такі тытул, затое і выразаць такую фігуру не так ужо проста! Ну, як-бы там ні было, а цяпер ён быў на сваім месцы і не зводзіў вачэй з падлюстранога століка, дзе стаяла прыгожая фарфоравая пастушка. Пазалочаныя чаравічкі, спаднічка, спрытна падколатая чырвонай ружай, залаты капялюш на галоўцы і посах у руцэ—хіба не любата?

Побач з ёю стаяў камінарчык, чорны, як вугаль, але-ж таксама фарфоравы; наогул ён быў чысценькі і прыгожанькі, як і кожная фарфоравая фігурка; ён толькі меў выгляд камінара, майстар мог-бы з такім-жа поспехам зрабіць яго хоць прынцам, каб на тое пайшло.

Ён быў вельмі далікатны са сваёй лесенкай, і тварык у яго быў белы, румяны, як у паненкі. Праўду кажучы, гэта было няправільна; не пашкодзіла-б яму быць трошкі мурзатым. Стаяў ён побач з пастушкай,—абодва стаялі, як іх паставілі. Ну, а калі іх так паставілі, то яны ўзялі ды і заручыліся. Што-ж, парачка вышла хоць куды,—абодва маладыя, абодва з аднолькавага фарфора і абодва аднолькава крохкія.

Тут-жа, на століку, стаяла яшчэ адна лялька, у тры разы большая,—стары кітаец з ківаючай галавой. Ён быў таксама фарфоравы і казаў, што даводзіцца дзедам пастушцы. Даказаць гэтага ён не мог, але казаў, што яна павінна яго слухацца, і таму ківаў галавой у бок обер-унтэр-генерал-камандзір-сержанта Казланога, які сватаўся да пастушкі.

— Вось дык муж у цябе будзе!—казаў стары кітаец.— Ён-жа, здаецца, зроблены з сапраўднага чырвонага дрэва і можа зрабіць цябе обер-унтэр-генерал-камандзір-сержантшай. У яго ўсе паліцы ў шафе пазастаўляны срэбрам, не гаворачы ўжо аб тым, што хаваецца ў шуфлядах.

— Не хачу я ў цёмную шафу,—сказала пастушка.— Кажуць, што ў яго там адзінаццаць фарфоравых жонак!

— Ну дык будзеш дванаццатай!—сказаў кітаец.—Сёння ноччу, як толькі старая шафа закрэхча, згуляем ваша вяселле. Так, так, каб не быць мне кітайцам!

Ён матнуў галавой і заснуў.

А пастушка расплакалася і, гледзячы на свайго мілага фарфоравага камінара, сказала:

— Я гатова папрасіць цябе, каб ты вывеў мяне адсюль хоць на край свету! Тут нам нельга аставацца!

— Чаго ты жадаеш, таго і я хачу!—сказаў камінар.— Давай пойдзем зараз-жа. Сапраўды-ж я здолею пракарміць цябе сваёй работай.

— Толькі-б нам удалося злезці са століка!—сказала яна.—Я не супакоюся, покуль мы не будзем далёка-далёка адсюль!

І яны сталі спускацца. Ён падбадзёрваў яе і паказваў, куды ёй лепш ступіць сваёй фарфоравай ножкай, на які фігурны выступ або на пазалочаны завіток ножкі стала. Лесенка камінара таксама нямала дапамагала ім, так што яны шчасліва спусціліся на падлогу. Адтуль яны зірнулі на старую шафу—ой, які там быў пярэпалах! Усе алені выцягнулі шыі, растапырылі рогі і маталі галовамі; обер-унтэр-генерал-камандзір-сержант Казланог высока падскочыў і крыкнуў старому кітайцу:

— Яны ўцякаюць! Яны ўцякаюць!

Уцекачы трохі спалохаліся і скокнулі ў падаконную шафку. Там ляжалі разрозненыя калоды карт, лялечны тэатр. Ён быў сяк-так пастаўлены, і на сцэне ішоў спектакль. Усе дамы—і бубновыя, і чырвовыя, і трэфовыя, і піковыя— сядзелі ў першым радзе і абмахваліся сваімі цюльпанамі, а за імі стаялі валеты і стараліся паказаць, што яны з двума галовамі, як і ўсе фігуры ў картах. П'еса паказвала пакуты закаханых, якіх разлучылі, і пастушка заплакала: гэта так нагадвала і яе становішча.

— Я не магу болей,—сказала яна.—Ідзем адсюль!

Але калі яны апынуліся на падлозе і глянулі на свой столік, то ўбачылі, што стары кітаец прачнуўся і ківаецца ўсім тулавам: у яго-ж у сярэдзіне перакатваўся свінцовы шарык.

— Ай, стары кітаец ідзе!—ускрыкнула пастушка і ўпала на тонкія фарфоравыя каленкі,—так яна спалохалася.

— Ведаеш, што я прыдумаў?—сказаў камінарчык.—Схаваемся ў тую вялікую вазу, у куту, і ляжам там на сухія розавыя і лавандавыя пялёсткі, а калі ён падыйдзе, засыплем яму вочы соллю[1]).

— Гэта не гадзіцца!—сказала пастушка.—Я ведаю, што стары кітаец быў некалі заручаны з вазай; ад такой дружбы заўсёды што-небудзь ды застанецца. Не, нам адна дарога—пусціцца ў белы свет!

— А ў цябе сапраўды хопіць духу пусціцца са мной у белы свет?—спытаў камінар.—Ты падумала аб тым, які вялікі свет, і аб тым, што нам ужо ніколі не прыдзецца вярнуцца назад?

— Так, так!—сказала яна.

Камінар пільна паглядзеў на яе і сказаў:

— Мая дарога вядзе праз дымны комін. Ці хопіць у цябе духу забрацца са мною ў печку і праз дымаход у комін? А там ужо я ведаю, што рабіць! Мы падымемся так высока, што яны нас не дастануць. Там на самым версе ёсць дзіра, праз якую можна выбрацца на белы свет.

І ён павёў яе да заслонкі ў печцы.

— Як там цёмна!—сказала пастушка, але ўсё-ж такі палезла за ім і ў печку і ў дымаход, дзе было чарнюсенька чорна, як у самую цёмную ноч.

— Ну, вось мы і ў коміне!—сказаў камінар.—А вунь, паглядзі! Прама над намі ззяе цудоўная зорачка!

Сапраўды, акурат над імі ззяла ў небе зорка, нібы паказваючы ім шлях. І яны лезлі, карабкаліся ўгару жудаснаю дарогаю, усё вышэй і вышэй! Камінар падтрымліваў пастушку, памагаў ёй і паказваў, куды ёй зручней ставіць свае фарфоравыя ножкі. Нарэшце яны далезлі да самага верху і прыселі адпачыць на ўскраек коміна,—яны вельмі стаміліся, ды і не дзіва.

---

[1]) Даўней у пакоях ставілі для паху вазы з сухімі кветкамі і травамі; сумесь гэтая пасыпалася соллю, каб мацней пахнула.

Неба, усыпанае зоркамі, было над імі, усе дамовыя дахі—пад імі, а навакол ва ўсе бакі — і ўшыркі і ўдалеч—адкрываўся ўвесь белы свет. Бедная пастушка і не думала ніколі, што свет такі вялікі. Яна схіліла галоўку да свайго любага і залілася слязьмі; ад струменяў слёз нават злезла пазалота з яе пояса.

— Гэта ўжо занадта!—сказала пастушка.—Гэтага мне не знесці. Свет надта вялікі! Ах, кабы мне ды зноў апынуцца на століку пад люстрай! Не будзе ў мяне ані мінуты спакойнай, пакуль я не вярнуся туды! Я-ж пайшла за табой на край свету, цяпер ты праводзь мяне назад дадому, калі хоць трохі любіш мяне.

Камінар пачаў яе ўгаварваць, напамінаў пра старога кітайца, пра обер-унтэр-генерал-камандзір-сержанта Казланога, але яна толькі плакала несуцешна ды цалавала свайго камінара. Не было чаго рабіць, прышлося ўступіць.

І вось яны з вялікай цяжкасцю спусціліся па коміну назад, уніз, прапаўзлі праз дымаход,—не соладка гэта было!—вылезлі ў цёмную печку і прыслухаліся ля заслонкі, што робіцца ў пакоі. Усё было ціха. Яны выглянулі... Ах! на падлозе сярод пакою валяўся стары кітаец; пагнаўшыся за імі, ён зваліўся са століка і разбіўся на тры часткі; ад спіны адляцеў вялікі чарапок, а галава закацілася ў кут. Обер-унтэр-генерал-камандзір-сержант Казланог стаяў на сваім месцы і раздумваў.

— Які жах!—усклікнула пастушка.—Стары дзядуля праз нас разбіўся на кавалкі. Я гэтага не пераЖыву!

І яна заламіла свае маленечкія ручкі.

— Яго яшчэ можна паправіць!—сказаў камінар.—Яго дасканала можна паправіць! Толькі не гарачыся! Яны склеяць яго спіну, уаб'юць у патыліцу заклёпку,—ён зноў будзе як новы ды яшчэ наробіць нам непрыемнасцей!

— Ты думаеш?—сказала пастушка.

І яны зноў ускарабкаліся на свой столік.

— Далёка-ж мы з табой зайшлі!—сказаў камінар.—Мусіць, няварта было і турбавацца!

— Толькі-б дзядулю паправілі!—сказала пастушка.—Гэта, мусіць, дорага абыйдзецца.

Дзядулю папраўілі: склеілі яму спіну і ўбілі ў галаву добрую заклёпку. Ён зрабіўся як новы, толькі перастаў ківаць галавой.

— Вы нешта заганарыліся з таго часу, як разбіліся на кавалкі! —сказаў обер-унтэр-генерал-камандзір-сержант Казланог.—А па-мойму, тут і ганарыцца няма чым! Што-ж, аддасцё ўнучку за мяне ці не?

Камінар і пастушка з мальбой глядзелі на старога кітайца, баючыся, што ён кіўне галавой. Але ён не мог болей ківаць, а каму-ж ахвота прызнацца перад чужымі, што ў цябе ў патыліцы заклёпка?

І вось фарфоравая парачка ўжо болей не разлучалася; пастушка і камінар благаслаўлялі дзядуліну заклёпку і любілі адзін аднаго —пакуль не разбіліся.

## Прынцэса па гарошыне

Жыў-быў прынц. І прышоў яму час жаніцца. Ён хацеў узяць сабе за жонку толькі прынцэсу, ды не абы якую, а самую сапраўдную.

Ён аб‘ехаў увесь свет, ды так і не знайшоў сабе нявесты. Прынцэс было многа, але-ж як пазнаць, ці сапраўдныя яны ці не.

Так і вярнуўся наш прынц дадому ні з чым і затужыў: надта ўжо яму хацелася ажаніцца з сапраўднай прынцэсай.

Аднойчы ўвечары паднялася вялікая бура. Заблiскала маланка, загрымеў гром, а дождж паліў як з вядра.

Раптам нехта пастукаўся ў вароты палаца, і стары кароль пайшоў адчыняць.

Ля варот стаяла прынцэса. Божа мой, да чаго-ж яна была падобная! Вада ручаямі цякла з яе валос і з плацця проста на туфелькі. Небарака была такая мокрая, як быццам яе толькі што выцягнулі з ракі.

І ўсё-такі яна запэўняла, што якраз яна і ёсць самая сапраўдная прынцэса.



„Ну, гэта мы зараз убачым“, падумала старая каралева, але не сказала нікому ні слова. Яна пайшла ў спальню, скінула з ложка ўсю пасцель і палажыла на голыя дошкі гарошыну. А потым накрыла гарошыну дваццаццю матрацамі ды яшчэ дваццаццю пярынамі з гагачага пуху.

На гэтую пасцель і паклалі прынцэсу спаць.

Раніцою яе спыталі, ці добра яна спала.

— Ах, вельмі дрэнна! — сказала прынцэса. — Я ўсю ноч не магла сплюшчыць вачэй. Бог ведае, што за пасцель у мяне была! Мне здавалася, што я ляжу на булыжніках, і цяпер усё цела ў мяне ў сіняках. Ах, я спала вельмі, вельмі дрэнна!

Туг усе паверылі, што яна сапраўды прынцэса як мае быць.

Яна-ж адчула маленькую гарошыну праз дваццаць матрацаў і дваццаць пярын. Толькі сапраўдная прынцэса магла быць такой далікатнай.

І прынц ажаніўся з ёй.

А гарошыну адправілі ў музей. Там яна і да гэтага часу ляжыць, калі толькі хто-небудзь не ўзяў яе.

Дык вось якія справы бываюць на свеце!

## Свінапас

Жыў-быў бедны прынц. Каралеўства ў яго было малюсенькае, але ўсё-такі гэта было каралеўства, і трэба было падумаць аб каралеве. І вось прынц парашыў ажаніцца.

Ён паходзіў з слаўнага каралеўскага роду, і сотні прынцэс,—праўда, з тых, што былі бяднейшыя і прасцейшыя,— з прыемнасцю пайшлі-б за яго замуж. Але ён хацеў ажаніцца з дачкой самога імператара.

Зразумела, да дачкі імператара нельга было прыйсці і сказаць: хочаш пайсці за мяне замуж?

Гэта было-б надта смела,—за такую дзёрзкасць яго, мусіць, выгналі-б з палаца.

Не, трэба было прыдумаць што-небудзь хітрэйшае.

У садзе прынца, на магіле яго нябожчыка-бацькі, вырас ружавы куст незвычайнай пекнаты. Цвіў гэты куст толькі адзін раз за пяць гадоў, і распускалася на ім адна-адзіная ружа. Затое яна была такая прыгожая і так салодка пахнула, што, нюхаючы яе, можна было забыцца на ўсё сваё гора і турботы. А яшчэ быў у прынца салавей, які так цудоўна спяваў, нібы ў яго горле былі схаваныя самыя лепшыя песні, што бываюць на свеце.

І вось прынц парашыў паслаць ружу і салаўя ў падарунак прынцэсе. Ружу палажылі ў вялікую срэбную шкатулку, салаўя пасадзілі ў другую, і абедзве шкатулкі адаслалі ў палац імператара.



Імператар сядзеў на троне, а прынцэса гуляла са сваімі фрэйлінамі ў госці. Больш яна нічога і не ўмела рабіць. У гэты час імператару прынеслі дзве срэбныя шкатулкі з падарункамі. Убачыўшы шкатулкі, прынцэса ад радасці запляскала ў далоні.

Імператар падняў крышку першай шкатулкі, і тут усе ўбачылі дзівосную ружу.

— Ах, як добра яна зроблена!—ускліквулі фрэйліны.

— Нават лепш, як добра,—сказаў імператар.—Гэта проста нядрэнна!

Але прынцэса пакратала ружу пальчыкам, тупнула ножкай і ледзь не заплакала.

— Фі, папа!—сказала яна.—Гэта ружа зусім не штучная, а сапраўдная!

— Фі!—сказалі ўсе прыдворныя.—Сапраўдная!

— Пачакай злавацць, дзіця маё. Спачатку паглядзі, што ў другой скрынцы,—сказаў імператар і адчыніў крышку другой шкатулкі. І вось адтуль вышаў салавей і заспяваў так цудоўна, што ніяк ні да чаго нельга было прычапіцца.

— Дасканала, надзвычайна! Шарман! Сюперб!—запішчэлі фрэйліны па-французску. Праўда, па-французску яны ведалі

толькі гэтыя два словы і таму нічога другога не маглі-б сказаць.

— Гэтая птушачка нагадвае мне арганчык нябожчыцы імператрыцы!—сказаў стары прыдворны.—Той-жа тон, тыя-ж гукі!

— Праўда!—сказаў імператар і заплакаў, як дзіця: ён успомніў сваю памёршую жонку.

— Спадзяюся, гэта птушка не сапраўдная?—спытала прынцэса.

— Сапраўдная!—адказалі ёй паслы, якія прывезлі падарункі.

— Ну, і няхай сабе ляціць, куды хоча!—сказала прынцэса і так раззлавалася, што нават не дазволіла прынцу прыехаць да яе ў палац.

Але прынц не апускаў рук. Ён вымазаў сабе твар чорнай і бурай фарбай, насунуў шапку і пастукаўся ў імператарскі палац.

— Добры дзень, імператар!—сказаў ён.—Ці не знойдзецца ў вас пры двары якога-небудзь месцейка для мяне?

— Многа вас тут ходзіць ды шукае работы,—адказаў імператар.—Але пачакай, мне патрэбен свінапас. У нас процьма свіней!

І вось прынца прызначылі прыдворным свінапасам і далі яму каморку побач са свінымі закуткамі. Прынц зачыніўся ў сваёй каморцы і прасядзеў там цэлы дзень. А к вечару ён змайстраваў прыгожы гаршчочак. Гаршчочак быў увесь абвешан бубенчыкамі, і калі ў ім што-небудзь варылі, бубенчыкі вызваньвалі старую песеньку:

Ах, мой любы Аўгустын,
Аўгустын, Аўгустын!
Усё прайшло, прайшло, прайшло!
Усё прайшло, прайшло, прайшло!

Але ў гаршчочка была яшчэ адна выдатная ўласцівасць: варта было панюхаць пар, які з яго ішоў,—і адразу можна было пазнаць, якая ў каго ў горадзе гатавалася страва. Так, цудоўны быў гаршчочак—не тое, што нейкая там ружа ці салавей!

Апоўдні прынцэса выправілася са сваімі фрэйлінамі на пагулянку і раптам пачула пераліўісты звон бубенчыкаў. Яна адразу-ж спынілася і пачала прытопваць ножкай; прынцэса пазнала песеньку, якую яна сама часта грала на фортэп'яно: „Ах, мой любы Аўгустын, Аўгустын, Аўгустын!“ Толькі адну гэтую песеньку яна і ўмела граць, - ды і то адным толькі пальцам.



— Ах, я-ж таксама граю гэтую п'есу!—сказала яна. — Значыцца, наш новы свінапас вельмі добра выхаваны. Няхай хто-небудзь з вас пойдзе і спытае яго, колькі ён хоча за свае бубенчыкі.

Адна з фрэйлін вымушана была надзець драўляныя чаравікі і пайсці на свінарнік.

— Што возьмеш за гаршчочак?—спытала яна.

— Дзесяць пацалункаў прынцэсы, — адказаў свінапас.

— Ці не звар'яцеў ты? — сказала фрэйліна.

— Танней нельга! — адказаў свінапас.

Фрэйліна павярнулася і, тупаючы драўлянымі чаравікамі, пабегла да прынцэсы.

— Ну, што ён сказаў? — спытала ў яе прынцэса.

— Не адважваюся нават і паўтарыць!—адказала фрэйліна.

— Ну, тады шапні мне на вуха!

І фрэйліна шапнула прынцэсе на вуха.

— Вось нахал, — сказала прынцэса і пайшла была прэч, але ў гэтую мінуту бубенчыкі зноў зазвінелі:

Ах, мой любы Аўгустын,
Аўгустын, Аўгустын!
Усё прайшло, прайшло, прайшло!
Усё прайшло, прайшло, прайшло!

— Слухай, — сказала прынцэса фрэйліне, — ідзі спытай, ці не аддасць ён гаршчочак за дзесяць пацалункаў маіх фрэйлін.

Фрэйліна ў драўляных чаравіках пабегла да свінапаса.

— Не, дзякую! — адказаў свінапас. — Або дзесяць пацалункаў прынцэсы, або гаршчочак астанецца ў мяне.

— Як гэта нудна! — сказала прынцэса. — Ну, нічога не зробіш, прыдзецца вам стаць вакол мяне, каб, прынамсі, ніхто не ўбачыў нас.

Фрэйліны абступілі яе і растапырылі свае шырокія спадніцы; свінапас атрымаў дзесяць пацалункаў, а прынцэса — гаршчочак з бубенчыкамі.

Які-ж гэта быў цудоўны гаршчочак! Увесь вечар і ўвесь наступны дзень прынцэса і фрэйліны гатавалі ў ім ваду. А калі вада закіпала, яны ўсе нахіляліся над гаршчочкам і ўцягвалі сваімі носікамі душысты пар. Цяпер яны ведалі, што робіцца ў кожнай кухні горада — ад раскошнай кухні міністра да скромнага ачага шаўца. Фрэйліны скакалі і пляскалі далонямі.

— Мы ведаем, у каго сёння салодкі суп і блінчыкі! Мы ведаем, у каго каша і свіныя катлеты! Як цікава!

— Толькі глядзіце трымайце язык за зубамі! — сказала прынцэса. — Я-ж імператарская дачка!

— А як-жа ж! — закрычалі фрэйліны разам. — Мы і самі разумеем!

А свінапас (праўдзівей сказаць, прынц, але-ж для іх ён быў свінапасам) не траціў часу дарма. Ён змайстраваў надзвычайную трашчотку, нават лепшую за гаршчочак. Гаршчочак граў толькі адну песеньку, а трашчотка, калі яе пакруціць, грала ўсе вальсы і полькі, якія толькі ёсць на белым свеце.

— Але-ж гэта сюперб! — усклікнула прынцэса па-французску, калі з свінога закутку да яе даляцелі гукі трашчоткі. — Лепш за гэта я нічога не чула! Зараз-жа спытайцеся ў яго, што ён возьме за гэты інструмент. Але цалавацца я больш не буду.

І фрэйліне зноў прышлося надзяваць драўляныя чаравікі і бегчы ў свіны закутак.

— Ён патрабуе ад вас сто пацалункаў! — далажыла фрэйліна прынцэсе.

— Ды што ён: звар'яцеў? — сказала прынцэса і пайшла сваёй дарогай, але, ступіўшы два крокі, спынілася.

— Праўду кажучы, такое майстэрства варта ўзнагароды, — сказала яна. — Я-ж імператарская дачка і павінна падтрымліваць таленты сваіх падданых. Хай будзе так, скажыце свінапасу, што я згодна, як учора, пацалаваць яго дзесяць разоў, а рэшту няхай атрымае з маіх фрэйлін.

— Ну, не, мы не хочам цалавацца з свінапасам! — сказалі фрэйліны.

— Глупства! — сказала прынцэса. — Калі ўжо я магу цалаваць свінапаса, то вы тым болей! Не забывайце, што я кармлю вас і плачу вам грошы!

Што-ж тут рабіць! Зноў пайшла фрэйліна да свінапаса.

— Сто пацалункаў прынцэсы! — сказаў свінапас. — І ніякіх скідак!

— Ну станавіцеся вакол мяне! — скамандавала прынцэса.

Фрэйліны абступілі яе, а свінапас пачаў яе цалаваць.

У гэты час на балкон вышаў імператар.

— Што гэта за зборышча ля свіных закуткаў? — спытаў ён, праціраючы вочы і надзяючы акуляры. — Э, ды гэта фрэйліны зноў нешта выдумалі! Трэба пайсці паглядзець.

Ён надзеў свае старыя, пакошаныя пантофлі і пакалдыбаў на задні двор.

Фрэйліны былі вельмі занятыя. Яны лічылі пацалункі (трэба-ж, каб расплата была чэснай) і таму зусім не заўважылі, як падкраўся да іх імператар і прыпадняўся на цыпкі.

— Гэта што за навіны? — сказаў ён, убачыўшы, што прынцэса цалуе свінапаса. Ён зняў з нагі пантофаль і шпурнуў у прынцэсу акурат у тую хвіліну, калі свінапас атрымліваў ад яе восемдзесят шосты пацалунак. — Вон з маёй дзяржавы! — закрычаў раз'юшаны імператар і выгнаў прынцэсу і свінапаса.

Прынцэса плакала, свінапас лаяўся, а дожджык ліў на іх з неба, як з перавернутага вядра.

— Ах, я няшчасная! — сказала прынцэса.— І чаму-ж я тады не выйшла замуж за беднага, але прыгожага прынца? Ах, якая я няшчасная!



А свінапас схаваўся за дрэва, скінуў з сябе брудную адзежу, выцер з твару чорную і бурую фарбу і зноў стаў прынцам.

Прынцэса так і ахнула.

— Дарагая прынцэса, — сказаў прынц імператарскай дачцы.— Ты не захацела выйсці за беднага прынца. Ты не ацаніла сапраўдную ружу і жывога салаўя. А за нікчэмныя, пустыя цацкі ты згадзілася пацалаваць свінапаса сто дзесяць разоў. Вось цяпер і шкадуй! Сама вінаватая! Бывай!

І ён адправіўся ў сваё каралеўства. А прынцэсе аставалася толькі плакаць ды спяваць:

Ах, мой любы Аўгустын,
Аўгустын, Аўгустын!
Усё прайшло, прайшло, прайшло!
Усё прайшло, прайшло, прайшло!

# Ганс-Дурань

Жыў у сваёй сялібе стары гаспадар, і былі ў яго два сыны, такія разумнікі, што і напалову хапіла-б. І яны парашылі пасватацца да каралеўны,—чаму-ж не? Яна самі абвясціла, што возьме за мужа таго, хто па слова ў кішэню не лазіць.

Двое разумнікаў рыхтаваліся цэлы тыдзень; больш у іх не было часу, ды і таго было досыць: пачаткі ведаў у іх былі, а гэта вельмі важна. Адзін ведаў напамяць увесь лацінскі слоўнік і мясцовую газету за тры гады, ад пачатку да канца і ад канца да пачатку. Другі вучыў ужо цэхавую прамудрасць,—што які цэхавы старшыня павінен ведаць; значыцца, ён мог разважаць і пра справы дзяржаўныя,—так, прынамсі, ён сам думаў. Апрача таго ён быў франт і ўмеў вышываць шлейкі, а гэта не малое мастацтва.

— Каралеўна будзе маёй,—казаў і той і другі.

І вось бацька даў кожнаму цудоўнага каня: таму, які ведаў слоўнік і газету,—варанога, а таму, хто быў цэхавым знаўцам і ўмеў вышываць,—белага. Абодва змазалі сабе рыбім тлушчам куткі губ, каб яны лягчэй рухаліся. Усе слугі высыпалі на двор паглядзець, як жаніхі сядуць на коней,—і раптам прыбег трэці брат. Усяго-ж іх было трое, але трэцяга ніхто не прымаў пад увагу. Ён быў зусім не такі вучоны, як браты, і называлі яго проста Ганс-Дурань.

— Вы куды гэта сабраліся, чаго так парадна ўбраліся?—спытаў ён.

— Едзем да караля. Хочам выгаварыць сабе каралеўну. Хіба ты не чуў, пра што барабанілі ва ўсёй краіне?

І яны расказалі яму, у чым справа.

— Эге! Тады і я з вамі,—сказаў Ганс-Дурань.

Браты толькі рассмяяліся і рушылі ў дарогу.

— Бацька, давай і мне каня!—закрычаў Ганс-Дурань.—І мяне разбірае ахвота жаніцца. Возьме мяне каралеўна—добра, а не возьме—я сам яе вазьму.

— Годзе глупства малоць!—сказаў бацька.—Не дам я табе ніякага каня. Ты нават і гаварыць не ўмееш. Браты твае—дык тыя малайцы.

— Не дасі каня—вазьму казла!—сказаў Ганс-Дурань.— Казёл мой уласны і пэўна давязе мяне.

І ён усеўся на казла вярхом, ткнуў яго ў бокі пяткамі і паімчаўся па дарозе як мага.

— Го-го! Сцеражыся!—крыкнуў ён і заспяваў на ўсё горла.

Браты-ж ехалі ды ехалі ціханька наперад, не гаворачы ні слова; ім трэба было добра абдумаць загадзя ўсе мудрагельскія словы,—адразу-ж яны ў галаву не прыдуць.

— Го-го! Сцеражыся!—закрычаў ім Ганс-Дурань.— Гляньце, што я па дарозе знайшоў.

І ён паказаў ім дохлую варону.

— Дурны!—сказалі яны.—Навошта яна табе?

— Я яе каралеўне падарую.

— Падаруй, падаруй!—засмяяліся яны і паехалі далей.

— Го-го! Сцеражыся! Гляньце, што я яшчэ знайшоў. Гэта не кожны дзень на дарозе валяецца.

Браты паглядзелі.

— Дурны! — сказалі яны. — Гэта-ж проста драўляны чаравік, ды яшчэ без перадка. Ты і яго каралеўне падаруеш?

— Абавязкова!—сказаў Ганс-Дурань.

Браты засмяяліся і паехалі наперад.

— Го-го! Сцеражыся!—зноў закрычаў Ганс-Дурань.— Чым далей—тым болей. Вось гэта дык знаходка!

— Ну, што ты там яшчэ знайшоў?—спыталі браты.

— О-о!—сказаў Ганс-Дурань.—Тут ужо і слоў не падбярэш. Вось дык абрадуецца каралеўна!

— Фу!—сказалі браты.—Ды гэта-ж проста гразь з раўчака.

— Верна,—сказаў Ганс-Дурань,—найлепшага гатунку балота. На далоні не ўтрымаеш—так і паўзе.

І ён паклаў сабе гразі ў кішэні.

А браты імчаліся ад яго, як мага, прыехалі на цэлую гадзіну раней і спыніліся ля гарадской брамы, дзе жаніхам выдаваліся чарговыя нумаркі. Потым іх усіх выстраілі па шасці ў рад, ды так цесна, што ім і паварушыцца нельга было. І добра, што так, а то яны спаласавалі-б нажамі адзін аднаму спіны за тое, што адны апынуліся наперадзе ад другіх.

Усе жыхары краіны сабраліся ля палаца і заглядвалі ў вокны: усім хацелася бачыць, як каралеўна прымае жаніхоў.

А жаніхі ўваходзілі ў зал адзін за адным, і як хто войдзе, то язык у яго і адымецца.

— Не гадзіцца,—казала каралеўна.—Наступны!

Вось увайшоў старэйшы брат, які ведаў напамяць слоўнік. Але ён ужо пазабываў усё, пакуль стаяў у чарзе, а тут—паркет рыпучы, столь люстраная, так што бачыш сябе самога дагары нагамі, і ля кожнага акна па тры пісары, каб зараз-жа ціснуць у газету ды прадаць за два скілінгі[1] на вуліцы. Проста жах! Да таго-ж печку ў зале так напалілі, што яна зрабілася чырвонай.

— Якая гарачыня тут!—сказаў жаніх.

— Бацьку майму захацелася засмажыць маладых пеўнікаў,—сказала каралеўна.

— Э-э...—сказаў жаніх і запнуўся: да такой размовы ён не падрыхтаваўся і не мог прыдумаць, што сказаць у адказ,—сказаць-жа трэба было нешта трапнае, дасціпнае.—Э-э...

— Не гадзіцца,—сказала каралеўна.—Вон!

І прышлося яму выйсці вон. Увайшоў другі брат.

— Надта горача тут,—сказаў ён.

— Так, мы сёння смажым маладых пеўнікаў,—сказала каралеўна.

— Я-ак? Я...—сказаў ён, і ўсе пісары запісалі: „Я-ак? Я...“

— Не гадзіцца,—сказала каралеўна.—Вон!

Наступны быў Ганс-Дурань. Ён заехаў на казле прама ў зал.

— Ну і спякота тут,—сказаў ён.

— Гэта я маладых пеўнікаў падсмажваю,—сказала каралеўна.

— Вельмі добра,—сказаў Ганс-Дурань.—Тады і мне разам можна засмажыць маю варону?

— Чаму-ж не,—сказала каралеўна.—Але ў вас ёсць у чым смажыць? У мяне няма ні каструлькі, ні скавародкі.

— У мяне знойдзецца,—адказаў Ганс-Дурань.—Во пасудзіна, ды яшчэ з ручкай.

---

[1]) Скілінг—даўнейшая дацкая дробная манета.

І ён выцягнуў стары драўляны чаравік з адколатым перадком і паклаў у яго варону.

— Ды гэта-ж цэлы абед!—сказала каралеўна.—Толькі дзе-ж мы возьмем падліўкі?

— У мяне ў кішэні,—адказаў Ганс-Дурань.—У мяне яе больш як трэба.

І ён паліў варону гразёю з кішэні.

— Вось гэта я люблю,—сказала каралеўна.—Ты па слова ў кішэнь не лазіш. Цябе я і вазьму за мужа. Але ведаеш, кожнае слова, што мы сказалі і скажам, запісваюць і друкуюць у ранішняй газеце. Бачыш, ля кожнага акна тры пісары ды яшчэ старшы пісака. Горш за ўсіх самы галоўны, ён-жа ж нічога не разумее.

Гэта ўжо яна наўмысля сказала, каб напалохаць Ганса-Дурня. І ўсе пісцы пры гэтым заіржалі і пасадзілі на падлозе па тлустай кляксе.

— Вялікія паны, як відаць,—сказаў Ганс-Дурань.—Зараз я пашаную самага галоўнага.

І ён, нядоўга думаючы, вывярнуў кішэні і заляпіў галоўнаму пісару ўвесь твар гразёю.

— Спрытна!—сказала каралеўна.—У мяне-б так не вышла. Ну, ды я падвучуся.

І зрабіўся Ганс-Дурань каралём; ажаніўся, надзеў карону і сеў на трон.

Мы-ж узялі ўсё гэта прама з газеты галоўнага пісара, хоць ёй давяраць і нельга.

## Крэсіва

Ішоў салдат па дарозе: раз-два! раз-два! Ранец за спіной, шабля пры баку. Ён ішоў дадому з вайны. І раптам па дарозе сустрэлася яму вядзьмарка. Ведзьма была старая і страшная. Ніжняя губа ў яе адвісла да самых грудзей.

— Здарова, служывы!—сказала ведзьма.—Якая ў цябе добрая шабля і вялікі ранец! Вось бравы салдат! Усё у

цябе добра, толькі ў кішэнях, пэўна, пуста. Хочаш, я дам табе грошай, салдат?

— Дзякую, старая ведзьма! Ад грошай толькі дурні адмаўляюцца!—сказаў салдат і падставіў быў сваю кішэню.

— Э, не!—сказала ведзьма.—Пачакай крыху. Вунь бачыш тое вялікае дрэва,—яно ў сярэдзіне пустое. Лезь на дрэва,—там наверсе дупло. Залязай у гэтае дупло і спускайся на самы ніз. А я абвяжу цябе вяроўкай вакол пояса і выцягну назад, як толькі ты крыкнеш.

— А навошта мне лезці ў гэтае дупло?—спытаў салдат.

— Па грошы,—адказала ведзьма.—Дрэва гэтае не простае. Як толькі спусцішся ў самы ніз, убачыш доўгі падземны ход. Там зусім светла,—і ўдзень і ўначы гараць сотні лямп. Ідзі прама па падземным ходзе, нікуды не зварочвай. А дойдзеш да канца, прама перад табой будуць трое дзвярэй. У кожных дзвярах тырчыць ключ. Павярні яго—і дзверы адчыняцца.

„У першым пакоі стаіць вялікі куфар. На куфры сядзіць сабака. Вочы ў гэтага сабакі як два чайныя сподкі. Але ты не бойся! Я дам табе свой сіні клятчаты фартух, рассцялі яго на падлозе і смела хапай сабаку. А схопіш—саджай яго хутчэй на мой фартух. Ну, а потым адчыняй куфар і бяры з яго грошы, колькі хочаш. Ды толькі ў гэтым куфры адны медзякі. А калі срэбра захочаш—ідзі ў другі пакой. І там стаіць куфар. І на тым куфры сядзіць сабака. Вочы ў яго, што твае млынавыя колы. Толькі ты не палохайся—хапай яго і саджай на фартух, а потым бяры сабе сярэбраныя грошыкі. Ну, а калі ўжо табе захочацца золата—ідзі ў трэці пакой. Сярод трэцяга пакоя стаіць куфар, даверху поўны золатам. Куфар гэты пільнуе самы вялікі сабака. Кожнае вока яго як вежа. Калі здолееш ты пасадзіць яго на мой фартух—тваё шчасце: не кране цябе сабака. Бяры тады золата, колькі душа твая захоча!"

— Усё гэта вельмі добра,—сказаў салдат.—Але што-ж ты з мяне возьмеш за гэта, старая ведзьма? Што-небудзь ды табе ад мяне трэба.

— Я не вазьму з цябе ні граша!—сказала ведзьма.— Толькі прынясі ты мне старое крэсіва, якое забыла там унізе мая бабка, калі лазіла туды апошні раз.

— Ну, добра, перавязвай мяне вяроўкай!—сказаў салдат.

— Гатова!—сказала ведзьма.—А вось табе мой клятчаты фартух.

І салдат палез на дрэва. Знайшоў ён дупло і спусціўся па ім у самы ніз. Як сказала ведзьма, так усё і выйшла: глядзіць салдат—перад ім падземны ход. І светла там, як удзень—сотні соцень лямп гараць.

Пайшоў салдат па гэтым падзямеллі. Ішоў, ішоў і дайшоў да самага канца. Далей ісці няма куды. Бачыць салдат— перад ім трое дзвярэй. А ў дзвярах ключы тырчаць. Адчыніў салдат першыя дзверы і ўвайшоў у пакой. Сярод пакоя куфар стаіць, на куфры сабака сядзіць. Вочы ў яго нібы два чайныя сподкі. Глядзіць на салдата сабака і лыпае вачыма ў розныя бакі.

— Ну і страшыдла!—сказаў салдат, схапіў сабаку і мігам пасадзіў яго на вядзьмаркін фартух. Тут сабака прысмірэў, а салдат адчыніў куфар і давай адтуль грошы таскаць. Набраў сабе поўныя кішэні мядзяных грошай, зачыніў куфар і зноў пасадзіў на яго сабаку, а сам пайшоў у другі пакой.

Праўду сказала ведзьма,—і ў гэтым пакоі на куфры сядзеў сабака. Вочы ў яго былі нібы млынавыя колы.

— Ну, чаго ты на мяне ўтаропіўся? Хоць-бы твае буркалы не выскачылі!—сказаў салдат, схапіў сабаку і пасадзіў на ведзьмін фартух, а сам хутчэй да куфра. У куфры срэбра паўнюсенька. Выкінуў салдат з кішэняў мядзяныя грошы, напхаў абодва кішэні і ранец срэбрам. Потым вышаў салдат ў трэці пакой. Увайшоў—і рот раззявіў. Ну і цуды! Сярод пакоя стаяў залаты куфар, а на куфры сядзела яшчэ больш жудаснае страшыдла. Вочы—ну, акурат як дзве вежы! І круціліся яны, нібы колы самай шпаркай карэты.

— Здароўя жадаю!—сказаў салдат і ўзяў пад казырок, нібы ён стаяў перад генералам.

Але доўга глядзець ён не стаў. Схапіў сабаку ў ахапку, пасадзіў яго на ведзьмін фартух, а сам адчыніў куфар. Бацюхна колькі тут было золата! На гэтае золата можна было-б купіць

цэлы сталічны горад, усе цацкі, усіх алавянных салдацікаў, усіх драўляных конікаў і ўсе пранікі на свеце. На ўсё хапіла-б!

Тут салдат павыкідаў з кішэняў і ранца срэбныя грошы, і абодвума рукамі пачаў выграбаць з куфра золата. Набіў золатам кішэні, набіў ранец, шапку, боты. Столькі набраў золата, што ледзь-ледзь з месца зрушыў. Вось цяпер ужо ён быў багаты!

Пасадзіў ён сабаку на куфар, зачыніў дзверы і закрычаў:

— Эй, цягні мяне ўгару, старая ведзьма!

— А крэсіва маё ты ўзяў?—спытала яна.

— Ах, каб цябе, зусім было забыўся на тваё крэсіва!—сказаў салдат.

Пайшоў ён назад, знайшоў крэсіва і сунуў яго ў кішэнь.

— Ну, цягні! Знайшоў тваё крэсіва!—крыкнуў ён ведзьме.

Ведзьма тарганула вяроўку і выцягнула салдата наверх, і апынуўся салдат зноў на бальшаку.

— Ну, давай мне крэсіва!—сказала ведзьма.

— А навошта табе, ведзьма, гэтае крэсіва?—спытаў салдат.

— Не твая справа!—сказала ведзьма.—Ты-ж свае грошы атрымаў. Аддай-жа мне крэсіва.

— Ну, не!—сказаў салдат.—Кажы зараз-жа, навошта табе крэсіва, а то выцягну шаблю ды адсяку табе галаву.

— Не скажу!—адказала ведзьма.

Тады салдат схапіў шаблю і адсек ведзьме галаву. Упала ведзьма на зямлю, ды тут і памёрла. А салдат завязаў усе свае грошы ў ведзьмін клятчаты фартух, ускінуў клунак на спіну і адправіўся прама ў горад.

Горад быў вялікі і багаты. Салдат пайшоў у самую вялікую гасцініцу, наняў сабе самыя вялікія пакоі і загадаў падаць усе свае любімыя стравы,—ён-жа быў цяпер багатыром.

Слуга, які чысціў яго боты, здзівіўся, што ў такога вялікага пана ды такія дрэнныя боты,—салдат-жа не паспеў купіць новыя. Затое на другі дзень ён купіў сабе самую прыгожую адзежу, капялюш з пяром і боты са шпорамі.

Цяпер салдат зрабіўся сапраўдным панам. Яму расказалі пра ўсе цуды, якія былі ў гэтым горадзе. Расказалі і пра караля, у якога была прыгожая дачка прынцэса.

— А як-бы мне пабачыць гэтую прынцэсу?—спытаў салдат.

— Ну, гэта не так ужо проста,—сказалі яму.—Прынцэса жыве ў вялікім медным замку, а вакол замка высокія сцены і каменныя вежы. Ніхто, апрача самога караля, не можа ні ўвайсці туды, ні выйсці адтуль, бо каралю прадказалі, што яго дачцы суджана стаць жонкай простага салдата. А каралю парадніцца з простым салдатам, вядома, не вельмі хочацца. Вось ён і трымае сваю прынцэсу зачыненай.

Пашкадаваў салдат, што нельга паглядзець на прынцэсу, але доўга гараваць не стаў. І без прынцэсы зажыў ён весела: хадзіў у тэатры, гуляў у каралеўскім садзе і раздаваў грошы бедным. Ён-жа ж сам добра ведаў, як дрэнна сядзець без гроша ў кішэні.

Ну, а калі ўжо салдат быў багаты, жыў весела і адзяваўся добра, то і прыяцеляў завялося многа. Усе называлі яго добрым хлопцам, сапраўдным панам, а гэта яму вельмі падабалася.

Вось траціў, траціў салдат грошы і бачыць аднойчы—засталося ў яго кішэні ўсяго толькі два грошы. І прышлося салдату перабрацца з добрых пакояў у цесную каморку, пад самым дахам. Успомніў ён ранейшыя часы: сам стаў чысціць сабе боты і зашываць на іх дзіркі. Ніхто з прыяцеляў болей не наведваў яго,—надта ўжо высока было цяпер падымацца да яго.

Раз неяк увечары сядзеў салдат у сваёй каморцы. Ужо зусім сцямнелася, а ў яго не было грошай нават на свечку. Тут ён і ўспомніў ведзьміна крэсіва. Дастаў салдат крэсіва і стаў высякаць агонь. Толькі ўдарыў ён па крэменю, як дзверы расчыніліся, і прыбег сабака, з вачыма, нібы чайныя сподкі. Гэта быў той самы сабака, якога салдат бачыў у першым пакоі падзямелля.

— Што загадаеш, салдат?—спытаў сабака.

— Вось дык штука!—сказаў салдат.—Крэсіва-ж, выходзіць, не простае. Ці не выручыць яно мяне з бяды?

— Злабуць-жа мне грашанят!—загадаў ён сабаку. І толькі ён гэта вымавіў—сабака і знік. Але не паспеў салдат палічыць да двух, як сабака зноў апынуўся тут, а ў зубах у яго быў вялікі мяшок, паўнюткі мядзянымі грашыма.

Зразумеў цяпер салдат, якое цудоўнае ў яго было крэсіва. Калі ўдарыць па крэменю адзін раз,—з'яўляўся сабака з вачыма, як чайныя сподкі. А калі салдат ударыць два разы,—бяжыць да яго сабака з вачыма, як млынавыя колы. Тры разы ўдарыць—і сабака з вачыма, як вежы, ужо стаіць перад ім і чакае загадаў. Першы сабака цягне яму мядзяныя грошы, другі—срэбра, а трэці—чыстае золата.

І вось салдат зноў разбагацеў, перабраўся ў самыя лепшыя пакоі, зноў пачаў задавацца сваім раскошным адзеннем. Тады і ўсе яго прыяцелі зноў сталі хадзіць да яго і вельмі яго палюбілі.

Аднаго разу неяк прышло яму ў галаву: „А чаму-ж мне не пабачыць прынцэсу? Усе гавораць, што яна такая красуня. Чаго ёй увесь век сядзець у мядзяным замку, за высокімі сценамі? Ну-ка, дзе маё крэсіва?“

І ён ударыў па крэменю адзін раз. У той-жа міг з'явіўся сабака з вачыма, як сподак.

— Вось што, любы мой!—сказаў салдат.—Цяпер, праўда, ужо ноч, але я хачу паглядзець на прынцэсу. Дастаў-ка яе сюды на хвіліначку. Ну, шагам марш!..

Сабака зараз-жа пабег, і не паспеў салдат апамятацца, як ён з'явіўся зноў, а на спіне ў яго ляжала спячая прынцэса.



Прынцэса была надзіва прыгожая. З першага погляду было відаць, што гэта сапраўдная прынцэса. Салдат наш

аніяк не мог устрымацца, каб не пацалаваць яе,—на тое-ж ён і быў салдат, сапраўдны кавалер, ад галавы да пятак.

Потым сабака аднёс прынцэсу назад таксама, як і прынёс.

За ранішнім чаем прынцэса расказала каралю і каралеве, які яна ўначы бачыла дзіўны сон: нібы яна ехала вярхом на сабаку і нейкі салдат пацалаваў яе.

— Вось дык гісторыя!—сказала каралева.

Відаць, ёй гэты сон не вельмі спадабаўся.

На другую ноч да пасцелі прынцэсы прыставілі старую фрэйліну і загадалі разведаць, ці то быў сапраўдны сон, ці што іншае.

А салдату зноў да смерці захацелася ўбачыць красуню-прынцэсу. І вось уначы ў мядзяны замак, як і ўчора, з'явіўся сабака, схапіў прынцэсу і паімчаўся з ёй як мага. Тады старая фрэйліна надзела непрамакальныя боты і пусцілася наўздагон. Убачыўшы, што сабака з прынцэсай схаваўся ў адным вялікім доме, фрэйліна падумала: „Цяпер ужо мы знойдзем малойчыка!“ І яна нарысавала крэйдай на варотах дома вялікі крыж, а сама спакойна адправілася дадому спаць. Але дарэмна яна супакоілася: калі прышоў час несці прынцэсу назад, сабака ўбачыў на варотах крыж і зараз-жа здагадаўся, у чым тут справа. Ён узяў кавалак крэйды і панастаўляў крыжы на ўсіх варотах горада. Гэта было ўдала прыдумана: цяпер фрэйліна ніяк не магла-б знайсці патрэбныя вароты — усюды-ж стаялі такія самыя белыя крыжы.

Раніцою кароль з каралевай, старая фрэйліна і ўсе каралеўскія афіцэры пайшлі паглядзець, куды ездзіць прынцэса на сабаку па начах.

— Вось куды!—сказаў кароль, убачыўшы белы крыж на першых варотах.

— Не, вось куды!—сказала каралева, убачыўшы крыж на другіх варотах.

— А вунь і там крыж, і тут!—сказалі афіцэры.

І на якія-б яны вароты ні глядзелі, усюды былі белыя крыжы. Так і не дабіліся яны ніякага толку.

Але каралева была жанчына разумная, здольная на ўсе рукі, а не толькі ў карэтах раз'язджаць. Яна загадала слугам

падаць яе залатыя нажніцы і кавалак шоўку і пашыла маленькі прыгожы мяшочак. У гэты мяшочак яна насыпала грэцкай крупы, ціханька прывязала яго на спіну прынцэсе. Потым пракалола ў мяшку дзірку, каб крупы патроху сыпаліся па дарозе, калі прынцэса паедзе да свайго салдата.

І вось ноччу з'явіўся сабака, пасадзіў прынцэсу сабе на спіну і панёс да салдата. А салдат ужо паспеў так палюбіць прынцэсу, што ад усёй душы хацеў ажаніцца з ёю. Ды і прынцам зрабіцца было-б нядрэнна.

Сабака бег шпарка, а крупа сыпалася з мяшочка па ўсёй дарозе ад мядзянага замка да домаса лдата. Але сабака нічога не заўважыў.

На другі дзень кароль і каралева вышлі з палаца, пагледзелі на дарогу і адразу даведаліся, куды ездзіла прынцэса. Салдата схапілі і пасадзілі ў турму.

Доўга сядзеў салдат за кратамі. У турме было цёмна і нудна. І вось аднаго разу стражнік сказаў салдату:

— Заўтра цябе павесяць!

Сумна стала салдату. Думаў ён, думаў, як ад смерці выратавацца, але нічога не мог прыдумаць. Сваё-ж цудоўнае крэсіва салдат забыўся дома!

Назаўтра раніцою салдат падышоў да маленькага акенца і стаў глядзець праз жалезныя краты на вуліцу. Народ натоўпам валіў за горад паглядзець, як будуць вешаць салдата. Білі барабаны, праходзіла войска. І вось міма самай турмы прабег нейкі хлапчук-шавец у скураным фартуху і пантофлях на босую нагу. Ён імчаўся ўпрыскок, і раптам адна пантофля зляцела ў яго з нагі і стукнулася прама ў сцяну турмы, каля таго акенца, дзе стаяў салдат.

— Эй, малойчык, не спяшайся!—крыкнуў салдат.—Я-ж яшчэ тут, а без мяне там нічога не выйдзе! А вось, калі ты збегаеш у мой дом ды прынясеш мне крэсіва, я табе дам цэлыя чатыры срэбныя манеткі. Ну, жыва! Бяры ногі ў рукі— і марш!

Хлапчук нічога не меў супроць таго, каб атрымаць чатыры срэбныя манеты. Ён стралой пусціўся па крэсіва, мігам прынёс яго, аддаў салдату і . . .

Вось паслухайце, што з гэтага вышла.

За горадам была пабудавана вялікая шыбеніца. Вакол яе стаяла войска і шмат народу. Кароль і каралева сядзелі на раскошным троне. Насупраць сядзелі суддзі і ўся дзяржаўная рада. І вось салдата прывялі на лесніцу, і кат ужо збіраўся накінуць яму на шыю пятлю. Але тут салдат папрасіўся хвіліначку пачакаць.

— Мне-б вельмі хацелася,—сказаў ён,—выкурыць люльку тытуну—гэта-ж будзе самая апошняя люлька ў маім жыцці.

А ў гэтай краіне быў такі звычай: апошняе жаданне асуджанага на смерць павінна быць выканана. Вядома, калі гэта было дробнае жаданне.

Таму кароль ніяк не мог адмовіць салдату. Салдат сунуў у рот люльку, выцягнуў свае крэсіва і стаў высякаць агонь. Ударыў ён па крэменю раз, ударыў два, ударыў тры—і вось перад ім з'явіліся тры сабакі: у аднаго вочы былі як чайныя сподкі, у другога—як млынавыя колы, у трэцяга—як вежы.

— Ну-ка, памажыце мне вызваліцца ад пятлі!—сказаў ім салдат.

Тут усе тры сабакі кінуліся на суддзяў і на дзяржаўную раду: таго схопяць за ногі, гэтага за нос, і давай падкідваць, ды так высока, што, падаючы на зямлю, усе разбіваліся ўшчэнт.

— Мяне не трэба! Я не хачу!—закрычаў кароль, але самы вялікі сабака схапіў яго разам з каралевай і падкінуў абодвух угару. Тут войска спалохалася, а народ стаў крычаць:

— Хай жыве салдат! Будзь, салдат, нашым каралём і вазьмі сабе за жонку прынцэсу!

Салдата пасадзілі ў каралеўскую карэту і павезлі ў палац. Тры сабакі скакалі перад карэтай і крычалі: „ура!“ Хлапчукі свісталі, а войска аддавала чэсць. Прынцэса вышла з мядзянага замка і зрабілася каралевай. Зразумела, яна была зусім задаволена.

Вяселле спраўлялі цэлы тыдзень. Тры сабакі таксама сядзелі за сталом, елі, пілі і лыпалі сваімі вялізнымі вачыма.

# Куфар-самалёт

Жыў-быў купец. Ён быў такі багаты, што мог-бы выбрукаваць сярэбранымі грашыма цэлую вуліцу ды яшчэ завулак у дадатак. Вядома, ён не рабіў такіх глупстваў,—ён ведаў, куды дзець грошы, і калі ўжо траціў капейку, то нажываў цэлы рубель. Во які быў купец!

З кожным годам купец рабіўся ўсё багацейшым і багацейшым, але вось прышоў час—ён састарэўся і памёр.

Усе грошы дасталіся яго сыну.

А сын быў зусім не падобны да бацькі. Як толькі зазвінела ў яго кішэнях золата, ён стаў задаваць пышныя балянванні і наладжваць маскарады; з папяровых грошай ён пускаў змейкі, а залатыя чырвонцы кідаў у раку замест каменьчыкаў, каб пацешыцца, як разыходзяцца па хвалях кругі. Нядзіва, што грошыкі пацяклі ў яго між пальцаў як вада, і нарэшце з усёй спадчыны асталіся ў яго чатыры мядзяныя манеткі, стары халат ды пара пантофляў.

Прыяцелі, якія раней весяліліся ў яго на вечарах, елі і пілі за яго сталом, цяпер і знацца не хацелі з купецкім сынам. Яны нават саромеліся паказацца з ім на вуліцы, таму што купецкаму сыну не было чаго надзець, апрача старога халата. Але адзін з яго ранейшых сяброў аказаўся добрым чалавекам. Ён прыслаў купецкаму сыну вялікі стары куфар і ліст. У лісце было толькі адно слова: „Укладвайся“.

Гэта была добрая парада. Але вось гора — укладваць купецкаму сыну не было чаго. Тады ён узяў ды ўсеўся ў куфар сам. Усеўся ды пасвістваючы стукнуў неяк па куфру тры разы. Раптам як узвіўся куфар высока-высока і панёсся над самымі воблакамі, — толькі дно ў куфра патрэсквала.



Страшна было купецкаму сыну. „А што, калі куфар разляціцца на кавалкі? Не сабраць мне тады і сваіх костачак“, думаў ён.

Доўга ляцеў куфар пад воблакамі і нарэшце спусціўся на зямлю. Купецкі сын падняў крышку, вылез з куфра і азірнуўся навакол. Ён убачыў, што стаіць на ўскрайку лесу, а па-за дрэвамі віднеецца турэцкі горад.

Тады купецкі сын закідаў куфар сухім лісцем, а сам адправіўся ў горад. Тут ён мог спакойна разгульваць па вуліцы ў сваім халаце. У Турцыі-ж усе ходзяць у халатах.

Вось ідзе ён па гораду і бачыць вялікі палац; усе вокны ў гэтым палацы знаходзяцца высока над зямлёй, пад самым дахам. Спыніўся купецкі сын і глядзіць—што за дзіўны палац? А ў гэты час па вуліцы ішла карміліца з дзіцем. Купецкі сын спытаў яе:

— Паслухай, турэцкая карміліца! Які такі гэта палац і чаму вокны ў ім так высока над зямлёй?

— Тут жыве прынцэса,—сказала карміліца.—Ёй калісьці прадказалі, што жаніх прынясе ёй вялікае няшчасце. Вось да яе і не пускаюць нікога. Бачыць яе можна толькі раз у тыдзень, калі яе наведвае сам кароль з каралевай.

— Дзякую!—сказаў купецкі сын і пайшоў назад у лес, усеўся ў свой куфар і зноў тры разы стукнуў па ім. Куфар узляцеў, і ў адзін міг купецкі сын апынуўся на даху каралеўскага палаца. А з даху ён улез праз акно прама ў пакой прынцэсы.

Прынцэса ў гэты час спала. Яна была такая прыгожая, што купецкі сын не ўстрымаўся і пацалаваў яе. Прынцэса прачнулася і вельмі спалохалася. Але купецкі сын сказаў ёй, што ён—турэцкі бог і прыляцеў да яе ў госці прама з неба. Прынцэса яму паверыла.

Яны ўселіся блізенька, і купецкі сын стаў расказваць прынцэсе казкі.

Прынцэсе вельмі спадабаліся казкі, а купецкаму сыну вельмі спадабалася прынцэса. Нядоўга думаючы, ён папрасіў яе выйсці за яго замуж, і прынцэса згадзілася.

— Толькі ты павінен прыляцець сюды ў суботу,—сказала прынцэса.—У гэты час да мяне прыдуць мой бацька кароль і мая маці каралева. Яны будуць вельмі рады, што я выходжу замуж за турэцкага бога, але ты пастарайся расказаць ім казку найлепшую,—яны вельмі любяць казкі. Каралева любіць навучальныя і сур'ёзныя казкі, а кароль—вясёлыя, каб можна было многа пасмяяцца.

— Абавязкова прыляту ў суботу і раскажу каралю і каралеве самую лепшую казку, якую ведаю. Гэта і будзе мой падарунак на вяселле,—сказаў купецкі сын.

І яны разышліся. На развітанне прынцэса падаравала яму шаблю, усю абложаную чырвонцамі. Гэта было вельмі дарэчы, таму што ў купецкага сына, як нам вядома, не было ні гроша.

Ён зараз-жа паляцеў у горад і купіў новы халат, а затым усеўся ў лесе складаць казку. Трэба-ж было скласці яе да суботы, а казку выдумаць зусім не так проста, як можа каму здаецца.

Нарэшце казка была гатовая, і акурат да часу: прышла субота.

Кароль, каралева і ўвесь двор сабраліся да прынцэсы на чай. Купецкага сына прынялі як лепей нельга.

Калі выпілі чай, каралева сказала:

— Ну, а цяпер раскажыце нам казку. Толькі, калі ласка, сур'ёзную і навучальную.

— Але каб і пасмяяцца можна было,—дадаў кароль.

— Добра,—адказаў купецкі сын і расказаў такую казку: „Жыў-быў пачак серных запалак. Запалкі вельмі ганарыліся сваім высокім паходжаннем. Падумаць толькі—яны-ж нарадзіліся ад самага высокага дрэва ў лесе—ад сасны.

„Аднойчы запалкі ляжалі ў кухні на паліцы паміж крэсівам і старым жалезным кацялком і расказвалі суседзям пра сваё дзяцінства.

„— Так, добра нам жылося ў лесе, калі мы былі яшчэ зялёнымі галінкамі,—казалі запалкі.—Кожную раніцу і кожны вечар мы пілі брыльянтавы чай—расу. Цэлы дзень нам свяціла сонейка, а птушкі расказвалі нам казкі. Мы вельмі

добра разумелі, што належым да багатай сям'і: ліцсвеныя дрэвы былі адзетыя толькі ўлетку, а наша сям'я была такая багатая, што магла насіць зялёную адзежу і летам і зімой. Але вось аднаго разу з'явіліся дрывасекі, і ўсё пайшло іначай. Наша сям'я з гэтай пары разбрылася ва ўсе бакі. Наш бацька-камель зрабіўся грот-мачтай на выдатным караблі, які мог-бы аб'ехаць вакол усяго свету, каб толькі захацеў. Галіны таксама занялі розныя важныя месцы. А нам вось выпала на долю служыць запалкамі для простага народу. Вось як мы, такія знатныя паны, апынуліся тут на кухні.

„— Ну, а мой лёс зусім іншы.—сказаў кацялок, які стаяў побач з запалкамі.—З самага майго нараджэння на свет мяне бесперапынна чысцяць, скрабуць і ставяць на агонь. Я раблю важную справу і, кажучы праўду, займаю тут у доме першае месца. Працую я без стомы, і адзіная мая забава—сядзець вось так пасля абеда, калі мяне вычысцяць ды паставяць на паліцу, і весці прыемную гутарку з таварышамі. Усе мы тут на кухні вялікія дамаседы, калі не лічыць вядра, якому здараецца часам прайсціся па двару. Навіны-ж нам прыносіць кошык для харчоў—ён часта ходзіць на рынак. Але ён так дзёрзкі гаворыць пра каралеўскіх чыноўнікаў, што яго немагчыма слухаць. Гэтымі днямі, калі ён пусціўся разважаць, стары гаршчок так перапалохаўся, што зляцеў з паліцы і разбіўся на кавалкі. Вось да чаго можа давесці непатрэбная балбатня!

„— Надта ўжо ты сам забалбатаўся, стары!—сказала раптам крэсіва ды так ударыла па крэменю, што з яго іскры пасыпаліся.— Давайце лепш павесялімся!

„— Не, лепей пагутарым аб тым, хто з нас важнейшы ад усіх,—сказалі запалкі.

„— А я вось не люблю гаварыць аб самой сабе,—сказала гліняная міска.—Але няхай ужо, я раскажу вам сёе-тое з свайго жыцця. Гэта будзе знаёмае і зразумелае ўсім і кожнаму, а такія-ж гісторыі прыямнейшыя за ўсё. Дык вось, паслухайце. На беразе роднага мора, пад ценем букавых дрэў...

„— Цудоўны пачатак!—сказалі талеркі.—Вось гэта будзе гісторыя акурат па нашаму густу.

„—Там, у мірнай сям'і,—казала далей гліняная міска,—правяла я сваю маладосць. Сталы і крэслы ў нашым доме блішчэлі, падлога заўсёды была чыста вымытая, а занавескі на вокнах мяняліся кожныя два тыдні.



„— Як вы цікава расказваеце, — сказала падлогавая шчотка. — Адразу відаць, што вы—жанчына, адчуваецца, як высока выставіце чыстату ў доме.

„— Так, так!—сказала вядро і ад прыемнасці нават падскокнула і выплехнула на падлогу ваду.

„Гліняная міска прадоўжыла свой расказ, і канец яго быў не горшым за пачатак.

„Калі яна скончыла, талеркі забразгалі ад задавальнення, а падлогавая шчотка дастала з скрынкі лісці пятрушкі, спляла з іх вянок і надзела на міску. Яна ведала, што ўсе астатнія будуць зайздросціць, а гэта акурат ёй і падабалася, да таго-ж яна падумала: „Калі я ўзнагароджу міску вянком сёння, то яна ўзнагародзіць мяне заўтра“.

„— А цяпер мы паскачам,—сказалі вугольныя шчыпцы і пусціліся ў скокі. Яны так высока ўскідвалі то адну нагу, то другую, што старая абіўка на крэсле, якое стаяла ў куце, не вытрымала і лопнула ад смеху.

„— А нам дадуць вянок?—спыталі шчыпцы, і на іх таксама надзелі вянок з пятрушкі.

„— Фу, якое мужыччо!—сказалі запалкі.

„Цяпер чарга была за самаварам. Ён павінен быў праспяваць. Але самавар сказаў, што ён пяе толькі тады, калі ўнутры яго кіпіць вада. Вядома, гэта была толькі адгаворка:

ён проста задаваўся,—ён-жа прывык спяваць толькі на стале ў паноў.

„На акне ляжала старое гусінае пяро, якім звычайна пісала служанка. У ім не было нічога выдатнага, хіба толькі тое, што ўсё яно было запэцкана чарнілам. Але іменна гэтым пяро і ганарылася.

„— Што-ж, калі самавар не хоча спяваць, то і не трэба,— сказала пяро.—За акном ў клетцы вісіць салавей,—няхай ён спяе. Вядома, ён не з вучоных, але так і быць, паслухаем яго сёння.

„— Што вы, што вы, панове!—сказаў мядзяны чайнік, стрыечны брат самавара.—Па-мойму, нам зусім непрыстойна слухаць нейкую там чужаземную птушку. Хіба гэта патрыятычна? Ну скажыце, калі ласка,—звярнуўся чайнік да кошыка для харчоў.

„— Ах, я проста з сябе выходжу!—сказаў кошык.—Вы не дасцё веры, як усё гэта мяне нервуе. Ну, хіба можна так праводзіць вечары? Было-б куды разумней наладзіць якуюнебудзь гульню, а я ўжо, так і быць, прасачыў-бы за парадкам.

„— Так, так, давайце гуляць!—закрычалі ўсе.

„Раптам адчыніліся дзверы, і ўвайшла служанка. Усе сціхлі і сядзелі на сваіх месцах так смірна, нібы нічога і не было.

„Служанка ўзяла запалкі і чыркнула па карабку. Запалкі затрашчалі, засіпелі, а потым успыхнулі і загарэліся.

„—Вось цяпер дык ужо ўсе бачаць, хто тут самы першы, хто тут самы важны! Глядзіце, як мы блішчым, як ярка свецім!—закрычалі запалкі.

„І згарэлі...“

— Ах, якая цудоўная казка!—сказала каралева.—Я нібы сама пабывала на кухні разам з запалкамі. Так, ты варты рукі нашай дачкі.

— Вядома!—сказаў кароль.—Прыходзь у панядзелак, і мы згуляем вяселле.

Цяпер яны ўжо казалі купецкаму сыну „ты“—ён-жа хутка павінен быў зрабіцца сваім чалавекам у каралеўскім доме.

Перад вяселлем, у нядзелю вечарам, у горадзе запалілі ілюмінацыю. Па ўсіх вуліцах кідалі пранікі і абаранкі. Хлапчукі лавілі пачастунак, крычалі „ура“ і свісцелі ў пальцы.

„Трэба-ж і мне зрабіць нешта такое“, падумаў купецкі сын. І ён панакупляў ракет і хлапушак, палажыў усё гэта ў свой куфар і падняўся ў паветра.

Піф, паф! Пш-пш! захлопалі хлапушкі, засіпелі ракеты. Зялёныя і чырвоныя іскры разляталіся па ўсім небе, і сярод гэтага вогненнага дажджу насіўся над горадам куфар-самалёт.

Усе туркі ад здзіўлення падскокнулі так высока, што пантофлі ў іх паляцелі праз галовы. Ніколі яшчэ не бачылі яны такіх цудаў. Тут ужо ўсе паверылі, што жаніх прынцэсы сапраўдны турэцкі бог.

А купецкі сын выпусціў усе ракеты, параскідаў усе хлапушкі і вярнуўся ў лес. Ён схаваў куфар і захацеў пайсці ў горад паслухаць, што гавораць аб ім туркі.

А расказаў па горадзе хадзіла шмат, і кожны расказваў па-свойму.

— Я бачыў самога турэцкага бога,—казаў адзін турак.— Вочы яго блішчэлі, як зоркі, а барада бялелася, як морская пена.

— Ён імчаўся на вогненнай калясніцы,—расказваў другі.— Вогненны плашч яго развяваўся па ветру, і з складак плашча выглядвалі тысячы турэцкіх ангелаў.

Так, многа цудаў наслухаўся купецкі сын пра сябе самога.

Толькі раніцою вярнуўся ён у лес, каб сесці ў свой куфар і ляцець у палац, дзе ўсё ўжо было падрыхтавана да вяселля.

Ён падышоў да дрэва, пад якім пакінуў свой куфар. Глядзіць—а куфра няма.

Куды-ж гэта ён дзеўся?

А куфар згарэў. Аказваецца, ад учорашніх ракет у куфар трапіла некалькі іскраў. І вось, пакуль купецкі сын гуляў па гораду, куфар згарэў увесь. Пад дрэвам ляжала толькі куча попелу. Так і не змог купецкі сын прыляцець на сваё вяселле.

Прынцэса цэлы дзень стаяла на даху палаца ды глядзела на неба—яна чакала свайго турэцкага бога. І не дачакалася. Мусіць, яна і да гэтага часу чакае яго.

А купецкі сын ходзіць па белым свеце і расказвае казкі Толькі гэтыя казкі ўжо не такія вясёлыя, як была тая, першая яго казка пра серныя запалкі.



## Ёлка

Расла ў лесе прыгожая ёлачка; месца ў яе было добрае—і сонца ёй хапала і паветра было досыць; а наваколл раслі таварышы старэйшыя—елі і сосны. І ёлачцы не цярпелася, каб хутчэй вырасці самой; яна не зважала ні на цёплае сонейка, ні на свежае паветра; не цікавіла яе і балбатня вясковых дзяцей, што бегалі па лесе, збіраючы суніцы або маліну. Назбіраўшы поўны кубак або панізаўшы ягадкі на пруткі, яны часта падсаджваліся адпачыць каля ёлачкі і казалі:

— Якая слаўная маленькая ёлачка!

Хоць ты не слухай такой гаворкі!

За год яна падрасла на адно кальцо, на другі год—яшчэ на адно: па колькасці гадовых кальцаў у ёлкі заўсёды можна падлічыць, колькі ёй год.

— Ах, каб я была такім-жа вялікім дрэвам, як іншыя,—уздыхала ёлачка,—я-б шырока раскінула свае галіны, высока падняла галаву, і мне было-б відаць далёка-далёка навакол! Птушкі вілі-б гнёзды ў маіх галінах, а я, калі крыху падзьме ветрык,ківала-б галавой таксама паважна, як іншыя!

Не цешылі яе ні сонца, ні птушкі, ні ружовыя воблакі, што праплывалі над ёю зранку і ўвечары.

Зімою па іскрыстаму беламу снегу вакол яе часта скакалі зайцы, а то які з іх возьме ды і пераскочыць прама праз ёлачку,—гэтакая крыўда! Але прайшлі дзве зімы, і на трэцюю ёлачка так падрасла, што зайцам прыходзілася абягаць навакол.

„Ах! хутчэй, хутчэй-бы вырасці, стаць вялікім, старым дрэвам—лепш за гэта нічога няма на свеце!“ думала ёлачка.

Кожную восень у лесе з'яўляліся дрывасекі і секлі самыя буйныя дрэвы. Ёлачка кожны раз дрыжала ад страху: з такім шумам і трэскам валіліся на зямлю вялікія цудоўныя дрэвы. Іх ачышчалі ад галля, і яны ляжалі такія голыя, доўгія, вузкія—проста не пазнаць! Потым іх клалі на вазы і кудысьці вывозілі з лесу. Куды? Навошта?

Увесну, калі прыляталі буслы і ластаўкі, Ёлачка пыталася ў іх:

— Вы не ведаеце, куды павезлі тыя дрэвы? Вы іх не бачылі?

Ластаўкі нічога не ведалі, але бусел аднаго разу задумаўся, матнуў галавой і сказаў:

— Здаецца! Калі я ляцеў сюды з Егіпта, то бачыў у моры многа новых караблёў з цудоўнымі мачтамі; па-мойму, ад іх ішоў пах сасны і елі. І галовы яны задзіралі так высока—і не падыходзь!

— Ах, каб і мне хутчэй вырасці ды пусціцца ў мора! А якое яно, гэтае мора? На што падобнае?

— Ну, пра гэта доўга расказваць!—адказаў бусел і паляцеў.

— Радуйся сваёй маладосці!—казалі ёлачцы сонечныя праменні.—Радуйся свайму здароваму росту, сваім маладым сілам!

І вецер песціў ёлачку, і раса апырсквала яе слязьмі, але ёлачка нічога гэтага не цаніла.

Незадоўга да сачэльніка ссеклі ў лесе некалькі зусім маладзенькіх ёлак, нават маладзейшых і ніжэйшых ростам, як наша ёлачка, якая так хацела вырвацца з лесу. Ссечаныя дрэўцы былі вельмі прыгожанькія, і іх не ачышчалі ад галінак, а адразу клалі на воз і вывозілі з лесу.

— Куды-ж?—пытала ёлачка.—Яны-ж не вышэй ад мяне: адна нават куды меншая. І чаму на іх пакінулі галіны? Куды павезлі?

— А мы ведаем! Мы ведаем!—зачырыкалі вераб'і.—Мы бывалі ў горадзе і заглядвалі ў вокны! Мы ведаем, куды іх павезлі! Яны пападуць у такі гонар і славу, што лепей і не прыдумаеш! Мы заглядвалі ў вокны і бачылі: іх ставяць сярод цёплага пакою і ўпрыгожваюць цудоўнейшымі рэчамі—залачонымі арэхамі, мядовымі пранікамі, цацкамі і сотнямі свечак!

— А потым?—спытала ёлачка, дрыжучы галінкамі.— А потым, потым што?

— А больш мы нічога не бачылі! Але гэта было цудоўна!

— Можа стацца, і я траплю ў такую пашану!—радавалася ёлачка.—Гэта будзе лепей, як плаваць па моры. Ах, як я сумую ад нуды і нецярплівасці! Хоць-бы хутчэй зноў прышоў сачэльнік. Цяпер і я такая самая высокая і раскідзістая, як тыя ёлачкі, што былі ссечаны летась. Ах, каб мяне ўжо палажылі на воз... Каб я ўжо стаяла ў цёплым пакоі, убраная ва ўсе гэтыя аздобы! А потым?.. Ды потым будзе што-небудзь яшчэ лепшае, яшчэ болей цудоўнае! Інакш навошта было-б так убіраць мяне? Вядома, будзе нешта яшчэ лепшае, яшчэ больш цудоўнае!.. Але што? Ох, як я сумую, як я хачу вырвацца адсюль! Сама не ведаю, што са мною.

— Радуйся з мяне!—гаварыла паветра.

— Радуйся з мяне!—казаў сонечны прамень.—Радуйся свайму маладому жыццю на волі!

Але яна зусім не радавалася, а толькі расла ды расла. І зіму і лета стаяла яна ў сваім цёмназялёным уборы, і ўсе гаварылі пра яе:

— Якое цудоўнае дрэўца!

А ў сачэльнік яе ссеклі першай. Глыбока ўрэзалася сякера ў яе цела; са стогнам упала ёлачка на зямлю. Яна адчула боль і слабасць. Яна зусім не магла думаць пра будучае

шчасце; ёй сумна было разлучацца з родным лесам, з тым кутком, дзе яна вырасла. Яна-ж ведала, што ніколі больш не пабачыць сваіх мілых падружак—кветак, кустоў, а можа нават і птушак. Ад'езд быў не такі ўжо прыемны!

Дрэўца супакоілася толькі тады, калі апынулася разам з другімі дрэвамі на дварэ і пачула каля сябе мужчынскі голас:

— Цудоўная ёлка! Вось такая нам і патрэбна!

З'явіліся двое франгаватых слуг, узялі ёлку і аднеслі ў вялізную, раскошную залу. Па сценах віселі партрэты, а на вялікай кафлянай печцы стаялі кітайскія вазы са львамі на покрыўках. Усюды стаялі крэслы-качалкі, шоўкавыя дываны і вялікія сталы, заваленыя кніжкамі з малюнкамі і цацкамі „на тысячу і сто талераў", як казалі дзеці. Ёлку пасадзілі ў вялікую бочку з пяском, але ніхто не бачыў, што гэта бочка, бо яе абгарнулі зялёнай тканінай і паставілі на стракаты кавёр. Як трапятала ёлачка! Што-ж цяпер будзе?

Прышлі слугі і маладыя дзяўчаты і сталі прыбіраць ёлачку. Павесілі на голлях ласункі ў маленькіх сетках, выразачых з каляровай паперы. Паміж іх нібы выраслі залачоныя яблыкі і арэхі, а ў зяляніне закалыхаліся лялькі, зусім падобныя да жывых чалавечкаў; такіх ёлка яшчэ і не бачыла. Нарэшце да галін прымацавалі сотні рознакаляровых маленькіх свечак, а на самай верхавіне—вялікую зорку з сусальнага золата. Да чаго ж гэта было прыгожа, нават выказаць нельга!

— Сёння ўвечары ёлка так і заззяе!—сказалі ўсе.

„Ах!—падумала ёлка,—хоць-бы ўжо хутчэй прышоў вечар і запалілі свечкі! А што-ж будзе потым? Ці не з'явяцца сюды з лесу іншыя дрэвы, каб паглядзець на мяне? Ці не прылятуць да вокнаў вераб'і? А можа я ўрасту ў гэты цэбар і буду стаяць тут убранаю і зіму і лета?"

Ад напружанага чакання ў яе нават забалела кара, а для дрэва гэта таксама непрыемна як для нас, калі баліць галава.

Нарэшце запалілі свечкі. Што за бляск, што за раскоша! Ёлка задрыжала ўсімі галінамі, ад чаго адна з свечак падсмаліла зялёныя іглы, і ёлачка балюча апяклася.

— Ай-ай!—закрычалі паненкі і пастараліся хутчэй загасіць агонь.

Цяпер ёлка нават дрыжаць не адважвалася. І напалохалася-ж яна! Асабліва таму, што вельмі баялася страціць хоць што-небудзь з свайго ўбранства. Ад усяго гэтага бляску ў яе аж заняло дух. Раптам абедзве палавінкі дзвярэй расчыніліся, і ўварваўся цэлы натоўп дзяцей; можна было падумаць, што яны мерыліся паваліць дрэва! За імі паважна ўвайшлі старэйшыя.

Малышы спыніліся, як укопаныя, але толькі на хвіліну, а там узняўся такі шум і гам, што аж у вушах звінела. Дзеці скакалі вакол ёлкі і раз-па-раз зрывалі з яе то тое, то другое.

„Што-ж гэта яны робяць?—думала ёлка.—Што гэта азначае?“

Свечкі дагарэлі да самых галін, і іх паступова гасілі, а дзецям дазволілі абабраць дрэва. Як накінуліся яны на бедную ёлку,—толькі галіны затрашчалі! Каб не была ёлка верхавінай з залатой зоркай моцна прывязана да столі, дзеці павалілі-б яе.

Потым дзеці зноў пачалі скакаць, не выпускаючы з рук сваіх цудоўных цацак. Ніхто больш не глядзеў на ёлку, апрача старой няні, ды і тая прыглядалася толькі, ці не засталося дзе сярод галін якога яблычка або фініка.

— Казку! Казку!—закрычалі дзеці і прывялі да ёлкі маленькага тоўсценькага чалавека.

Ён усеўся пад дрэвам і сказаў:

— Вось мы і ў лесе! Ды і ёлка разам паслухае. Але я раскажу толькі адну казку. Якую хочаце: пра Іведэ-Аведэ або пра Клумпе-Думпе, які, хоць і зваліўся з лесніцы, але ўсё-ж такі вышаў у людзі і здабыў сабе прынцэсу?

— Пра Іведэ-Аведэ!—закрычалі адны.

— Пра Клумпе-Думпе!—крычалі другія.

Падняўся крык і шум; адна ёлка стаяла ціха і думала:

„А хіба я не буду ўдзельнічаць, ці мне болей няма чаго рабіць?“

Яна ўжо зрабіла сваю справу!

І тоўсценькі чалавек расказаў пра Клумпе-Думпе, які хоць і зваліўся з лесніцы, але ўсё-такі вышаў у людзі і здабыў сабе прынцэсу.

Дзеці запляскалі ў далоні і закрычалі:

— Яшчэ, яшчэ!—Яны хацелі паслухаць і пра Іведэ-Аведэ, але асталіся з адным Клумпе-Думпе.

Ціха задуменна стаяла ёлка,—лясныя птушкі ніколі не расказвалі нічога падобнага.

„Клумпе-Думпе зваліўся з лесніцы, і ўсё-ж яму досталася прынцэса! Дык вось што бывае на белым свеце!—думала ёлка; яна шчыра верыла ўсяму, што зараз чула,—расказваў-жа такі сімпатычны чалавек. — Так, так, хто ведае? Можа і я звалюся з лесніцы, а потым і мне дастанецца які-небудзь прынц“.

І яна з радасцю думала пра заўтрашні дзень: яе зноў убяруць свечкамі, цацкамі, золатам і фруктамі!

„Заўтра я ўжо задрыжу!—думала яна. — Я хачу зусім пацешыцца сваім шчасцем. І заўтра я зноў пачую казку пра Клумпе-Думпе, а, можа здарыцца, і пра Іведэ-Аведэ“.

І дрэўца ціханька прастаяла ўсю ноч, марачы аб заўтрашнім дні.

Раніцою з'явіліся слугі.

„Зараз зноў пачнуць мяне ўбіраць!“—падумала ёлка. Але яны выцягнулі яе з залы, павалаклі па лесніцы і сунулі ў самы цёмны кут пад дахам, куды нават не даходзіла дзённае святло.

„Што-ж гэта значыць? Што мне тутака рабіць? Што я тут убачу і пачую?“

Яна прыслонілася да сценкі і ўсё думала, думала...

Часу на гэта было досыць; праходзілі дні і ночы—ніхто не заглядваў да яе. Раз толькі прышлі людзі, каб паставіць тут нейкія скрынкі. Дрэўца стаяла зусім у баку, і на яго, здавалася, забыліся.

„На дварэ зіма!—думала ёлка.—Зямля зацвярдзела і пакрылася снегам; нельга, значыцца, зноў пасадзіць мяне ў зямлю, вось і прыходзіцца пастаяць пад дахам да вясны. Як яно разумна прыдумана! Якія людзі добрыя! Вось каб толькі не было тут гэтак цёмна ды пуста!.. Нават няма ніводнага зайчыка... А ў лесе як было весела! Навакол снег, а па снезе скачуць зайчыкі. Добра было!.. Нават, калі яны скакалі праз мяне, хоць я тады і злавала. А тут страшэнная адзінота“.

— Пі-пі!—піснула раптам мышанё і выскачыла з норкі; за ім яшчэ адно маленькае. Яны пачалі абнюхваць дрэва і шмыгаць між яго галінамі.

— Надта холадна тут!—сказалі мышаняты.—А то зусім добра было-б. Праўда, старая ёлка?

— Я зусім не старая!—адказала ёлка.—Ёсць шмат дрэў старэйшых ад мяне.

— Адкуль ты і што ты ведаеш?—спыталі мышаняты; яны былі надта цікаўныя.—Раскажы нам, дзе самыя лепшыя месцы на зямлі? Ты была там? Ці была ты калі-небудзь у кладоўцы, дзе на паліцах ляжаць сыры, а пад столлю вісяць шынкі і дзе можна папляцаць па сальных свечках? Туды ўвойдзеш худым, а адтуль выйдзеш тоўстым.

— Не, такога месца я не ведаю,—сказала дрэва.—Але я ведаю лес, дзе свеціць сонца і пяюць птушкі.

І яна расказала ім пра сваё жыццё ў лесе. Мышаняты ніколі не чулі нічога падобнага і, выслухаўшы расказ ёлкі, сказалі:

— Як-жа ж ты дужа бачыла! Якая ты была шчаслівая!

— Шчаслівая?—сказала ёлка і задумалася аб тым часе, пра які толькі што расказвала.—Так. Магчыма, тады мне жылося нядрэнна!

Затым яна расказала ім пра той святочны вечар, калі яна была ўпрыгожана пранікамі і свечкамі.

— О!—сказалі мышаняты.—Якая-ж ты была шчаслівая, старая ёлка!

— Я зусім не старая!—адказала ёлка.—Мяне ўзялі з лесу толькі ў гэтую зіму. Я ў самай сіле. Толькі што ўвайшла ў рост.

— Як цудоўна ты расказваеш!—сказалі мышаняты і на другую ноч прывялі з сабой яшчэ чатырох, якім таксама трэба было паслухаць апавяданні ёлкі. А сама ёлка чым больш расказвала, тым ясней прыпамінала сваё мінулае, і ёй здавалася, што яна перажыла шмат добрых дзён.

— Добрыя былі часы! Але-ж яны вернуцца! Клумпе-Думпе з лесніцы зваліўся і то з прынцэсай ажаніўся. Можа і мне трапіцца які-небудзь прынц.

Іёлка ўспамінала цудоўны маладзенькі дубок, які рос у лясным гушчары недалёка ад яе. Чым ён горшы за прынца?

— Хто такі Клумпе-Думпе?—спыталі мышаняты, і ёлка расказала ім усю казку; яна запомніла яе ўсю ад слова да слова. І мышаняты ад задавальнення сталі падскокваць бадай што да самай верхавіны дрэва.

У наступную ноч прышло яшчэ некалькі мышанят, а ў нядзелю наведаліся нават два пацукі. Але ім казка зусім не спадабалася, і ад гэтага мышанятам зрабілася прыкра, бо тады ўжо і ім казка здалася зусім не такой цікавай, як раней.

— Вы толькі адну гэтую гісторыю і ведаеце?—спыталіся пацукі.

— Толькі гэту адну,—адказала ёлка.—Я чула яе ў самы шчаслівы вечар у маім жыцці; але тады я яшчэ не разумела свайго шчасця.

— Вельмі жалобная гісторыя. Ці не ведаеце вы часам якую-небудзь іншую—пра сала, пра свечкі або пра кладоўку з пажывай?

— Не,—адказала ёлка.

— Ну, тады бывайце шчаслівыя!—сказалі пацукі і пайшлі.

Мышаняты таксама паразбягаліся, і ёлка засумавала. „Усё-ж такі прыемна было, калі гэтыя жвавыя мышаняты сядзелі вакол мяне і слухалі мае расказы! Цяпер і гэтаму канец... Але я сваё вазьму, пажыву весела, калі вярнуся ў свет.

І яна вярнулася.

Аднаго разу прышлі людзі прыбіраць чардак. Выцягнулі скрыні, а потым і ёлку. Спачатку яе досыць груба кінулі на зямлю, а потым слуга паралок яе па лесніцы ўніз.

„Ну, цяпер для мяне пачнецца новае жыццё!“ падумала ёлка.

Вось на яе падзьмула свежае паветра, бліснуў сонечны прамень,—ёлка апынулася на двары. Усё гэта адбылося так хутка, навокал было столькі новага і цікавага, што ёлка забылася і сама на сябе паглядзець. Двор далучаўся да саду, дзе ўсё зелянела і квітнела. Праз плот звешваліся све-

жыя пахучыя ружы, ліпы стаялі ў поўным цвеце, ластаўкі лёталі туды і сюды ды шчабяталі:

— Квірр-вірр-віт! Мой муж вярнуўся!

Але гэта да ёлкі не мела ніякага дачынення.

„Вось калі я зажыву!“ радавалася ёлка, распраўляючы свае галіны. Але-ж як яны пасохлі ды пажоўклі! Ляжала яна цяпер у дальнім куце двара, у крапіве ды быльніку; але на верхавіне яе ўсё яшчэ ззяла сусальная залатая зорка.

На двара весела гулялі тыя самыя дзеці, што скакалі вакол ёлкі ў святочны вечар. Самы малодшы ўбачыў дрэва і сарваў зорку.

— Паглядзіце, што яшчэ асталося на гэтай брыдкай, старой ёлцы!—сказаў ён і наступіў нагамі на галіны; галіны затрашчалі, закрышыліся.

Ёлка паглядзела на яскравыя кветкі і свежую зяляніну ў садзе, потым зірнула на сябе—і пашкадавала, што не асталася ў сваім цёмным куце пад страхой. Успомніліся ёй і маладосць, і лес, і вясёлае свята, і мышаняты, што радасна слухалі казку пра Клумпе-Думпе...

— Усё прайшло, усё мінула!—сказала беднае дрэва.— І чаму я не радавалася, пакуль было добра. А цяпер... прышоў канец, канец!

Прышоў дворнік і пасек ёлку на кавалкі: цэлае бярэмя трэсак вышла на распал. Як дружна запалалі яны пад вялікім катлом! І як глыбока ўздыхалі! Гэтыя ўздыхі нагадвалі выстралы. Збегліся дзеці, расселіся перад агнём і з кожным такім выстралам выкрыквалі:

— Піф-паф!

А ёлка пры кожным сваім уздыху-выстрале ўспамінала то які-небудзь яркі летні дзень, то зорную зімнюю ноч у лесе або вясёлае свята і казку пра Клумпе-Думпе, адзіную казку, якую яна ведала...

Так і згарэла ўся.

Хлопчыкі зноў гулялі па двара, і ў самага малодшага блішчэла на грудзях тая самая залатая зорка, якая ўпрыгожвала ёлку ў найшчаслівейшы дзень яе жыцця. Гэты дзень прайшоў, і жыццё ёлкі скончылася, і наша казка скончылася.

Усё на свеце мае свой канец!

# Дзікія лебедзі

Далёка-далёка, у той краіне, куды лятуць ад нас на зіму ластаўкі, жыў кароль. У яго было адзінаццаць сыноў і адна дачка, якую звалі Элізай. Адзінаццаць братоў-прынцаў ужо хадзілі ў школу; у кожнага на грудзях блішчэла зорка і на левым баку грукала шабля. Прынцы пісалі дыяментавымі грыфелямі на залатых дошках і надта добра ўмелі чытаць—і па кніжцы і без кніжкі, напамяць.

Покуль прынцы вучыліся, сястра іх Эліза сядзела на лавачцы з люстранога шкла і разглядала кніжку з малюнкамі, якая каштавала поўкаралеўства.

Так, добра жылося дзецям! Але хутка ўсё пайшло іначай.

Памерла іх маці, і кароль ажаніўся зноў. Мачыха была злая чараўніца і ўзненавідзела бедных дзяцей. У першы-ж дзень, калі ў палацы святкавалі вяселле караля, дзеці спазналі, якая злосная ў іх мачыха. Яны захацелі пагуляць у госці і папрасілі каралеву даць ім пірожных і печаных яблыкаў, каб пакарміць сваіх гасцей. Але мачыха дала ім міску звычайнага пяску і сказала:

— Хопіць вам і гэтага!

Мінуў яшчэ тыдзень, і мачыха надумала пазбавіцца Элізы. Яна адправіла яе ў вёску да нейкіх сялян на выхаванне. А потым злая мачыха стала нагаварваць каралю на бедных прынцаў і нагаварыла столькі дрэннага, што кароль не захацеў больш і бачыць сваіх сыноў.

Тады каралева загадала паклікаць прынцаў і, калі яны наблізіліся да яе, яна крыкнула:

— Няхай кожны з вас абернецца ў чорнага гругана! Ляціце прэч з палаца і самі здабывайце сабе спажыву!

Але ёй не ўдалося давесці да канца сваёй агіднай справы: прынцы абярнуліся не ў брыдкіх груганоў, а ў прыгожых дзікіх лебедзей. З крыкам вылецелі яны з вокнаў палаца і панесліся над паркамі і лясамі.

Было яшчэ рана, калі адзінаццаць лебедзей пралятал і над хаткай, дзе спала моцным сном іх сястрыца Эліза. Яны доўга лёталі над страхой, выцягваючы свае гнуткія шыі і

пляскаючы крыллямі, але ніхто іх не чуў і не бачыў. Так і прышлося ім ляцець далей, не пабачыўшы сваёй сястры. Высока-высока, да самых воблакаў, узвіліся яны і паляцелі ў вялікі, цёмны лес, які цягнуўся да самага мора.

А небарака Эліза асталася жыць у сялянскай халупе. Цэлыя дні гуляла яна з зялёным лісточкам,—другіх цацак у яе не было; яна праткнула ў лісціку дзірачку і глядзела праз яе на сонца,—ёй здавалася, што яна бачыць ясныя вочы сваіх братоў.

Дні ішлі за днямі. Часам вецер калыхаў кусты руж, што распусціліся каля хаты, і пытаў іх:

— Ці ёсць хто прыгажэйшы за вас?

І ружы, ківаючы галоўкамі, адказвалі:

— Эліза прыгажэй за нас.

І вось нарэшце Элізе мінула пятнаццаць гадоў, і сяляне адаслалі яе дадому, у палац. Каралева ўбачыла, якая прыгожая яе падчарыца, і яшчэ болей узненавідзела Элізу. Злая мачыха хацела-б абярнуць і Элізу, як яе братоў, у дзікага лебедзя, але не магла гэтага зрабіць таму, што кароль хацеў бачыць сваю дачку.

І вось вельмі рана каралева пайшла ў сваю мрамарную купальню, упрыгожаную цудоўнымі дыванамі і мяккімі падушкамі. На рагу купальні сядзелі тры жабы. Каралева ўзяла іх у рукі і пацалавала. Потым яна сказала першай жабе:

— Калі Эліза войдзе ў купальню, сядзь ёй на галаву,— няхай яна зробіцца такой-жа дурной і ляной, як ты.

Другой жабе каралева сказала:

— А ты скокні Элізе на лоб—няхай яна зробіцца такой-жа брыдкай, як ты. Тады і родны бацька яе не пазнае.

— Ну, а ты ляж ёй на сэрца,—шапнула каралева трэцяй жабе,—няхай яна зробіцца злоснай, каб ніхто яе не любіў.

І каралева кінула жаб у празрыстую ваду. Вада заараз-жа зрабілася зялёнай і мутнай. Каралева паклікала Элізу, раздзела яе і загадала ёй увайсці ў ваду. Як толькі Эліза ступіла ў ваду, адна жаба скокнула ёй на галаву, другая на лоб, а трэцяя на грудзі. Але Эліза нават не заўважыла гэтага. А тры жабы, дакрануўшыся да Элізы, ператварыліся

ў тры чырвоныя макі. І Эліза вышла з вады такой-жа прыгожай, якой і была.

Тады злая каралева нацерла Элізу сокам грэцкага арэха, і бедная Эліза зрабілася зусім чорнай. А потым мачыха вымазала ёй твар смярдзючай маззю і спутала яе цудоўныя валасы. Цяпер ніхто не мог-бы пазнаць Элізу. Нават бацька, зірнуўшы на яе, спалохаўся і сказаў, што гэта не яго дачка. Ніхто не пазнаваў Элізу. Толькі стары надворны сабака з ветлівым брэхам кінуўся да яе, ды ластаўкі, якіх яна часта карміла крошкамі, прашчабяталі ёй сваю песню. Але хто-ж будзе звяртаць увагу на бедных жывёл?

Горка заплакала Эліза і цішком вышла з палаца. Цэлы дзень брыла яна па лясах і балотах, прабіраючыся да лесу. Эліза і сама добра не ведала, куды ёй ісці. Яна ўсё думала пра братоў, якіх злая мачыха таксама выгнала з роднага дому. Эліза рашыла шукаць іх усюды, покуль не знойдзе.

Калі Эліза дабралася да лесу, ужо надышла ноч, і бедная дзяўчына зусім збілася з дарогі. Яна апусцілася на мяккі мох, а галаву палажыла на пень. У лесе было ціха і цёпла. Сотні светлякоў, нібы зялёныя агеньчыкі, мільгалі ў траве, а калі Эліза зачапіла рукой за куст, нейкія бліскучыя жучкі пасыпаліся з лісцяў, нібы дождж зорак.

Усю ноч сніліся Элізе браты: усе яны зноў былі дзецьмі, разам гулялі, пісалі дыяментавымі грыфелямі на залатых дошках і разглядалі цудоўную кніжку з малюнкамі, за якую было дана поўкаралеўства. Малюнкі ў кніжцы былі жывыя: птушкі спявалі, а людзі выскаквалі з старонак кнігі і гутарылі з Элізай і яе братамі; але як толькі Эліза перагортвала старонку, людзі скакалі назад,—а то ў малюнках вышла-б блытаніна.

Калі Эліза прачнулася, сонца стаяла ўжо высока; яна нават не магла добра разглядзець яго за густым лісцем дрэў. Толькі часам сонечныя праменні прабіваліся між галін і бегалі залатымі зайчыкамі па траве. Недалёка чулася гурчэнне ручайка. Эліза падышла да яго і нахілілася над вадой. Вада была чыстая і празрыстая. Калі-б вецер не варушыў галіны дрэў і кустоў, можна было-б падумаць, што і дрэвы і кусты

намаляваны на дне ручайка: так выразна яны адбіваліся ў спакойнай вадзе.

Эліза ўбачыла ў вадзе свой твар і вельмі спалохалася: такі ён быў чорны і брыдкі. Але вось яна зачарпнула рукой вады, пацерла шчокі і лоб, і твар у яе зноў зрабіўся белым, як раней. Тады Эліза раздзелася і ўвайшла ў прахладны чысты ручай. Вада зараз-жа змыла з яе сок грэцкага арэха і смярдзючую мазь, якой вымазала Элізу мачыха.

Потым Эліза адзелася, запляла ў косы свае доўгія валасы і пайшла далей па лесе, сама не ведаючы куды. Па дарозе яна ўбачыла дзікую яблыню, галіны якой гнуліся ад цяжару пладоў. Эліза пад'ела яблык, падперла галіны кіёчкам і пайшла далей. Хутка яна зайшла ў самы гушчар лесу. Ні адна птушка не залятала сюды, ні адзін сонечны промень не пранікаў праз пераблытаныя галіны. Высокія камлі стаялі шчыльнымі радамі, нібы бервяновыя сцены. Навакол было так ціха, што Эліза чула свае ўласныя крокі, чула шурханне кожнага сухога лістка, які трапляўся ёй пад ногі. Ніколі яшчэ Эліза не была ў такой глушы.

Уначы зрабілася зусім цёмна, нават светлячкі не свяцілі ў моху. Эліза лягла на траву і заснула.

Раніцою яна адправілася далей і раптам сустрэла бабку з кошыкам ягад; бабка дала дзяўчыне жменьку ягад, а Эліза спытала яе, ці не праязджалі тут, па лесе, адзінаццаць прынцаў.

— Не,—сказала бабка,—прынцаў я не сустракала, але ўчора я бачыла тут на рацэ адзінаццаць лебедзеў у залатых каронах.

І бабка вывела Элізу да абрыва, пад якім працякала рака. Эліза развіталася з бабкай і пайшла па беразе ракі.

Доўга ішла Эліза, і раптам перад ёю адкрылася бязмежнае мора. Ніводнага паруса не было відаць на моры, ніводнай лодачкі не было паблізу. Эліза села на камень ля самага берага і задумалася: што-ж ёй рабіць, куды ісці далей?

К нагам Элізы падбягалі морскія хвалі, яны неслі з сабой дробныя каменьчыкі. Вада сцерла вострыя рэбры каменьчыкаў, і яны былі зусім гладкія і круглыя.



І дзяўчына падумала: „Колькі працы патрэбна, каб цвёрды камень зрабіць гладкім і круглым. А вада робіць гэта. Мора нястомна і цярпліва коціць свае хвалі і перамагае самыя цвёрдыя каменні. Дзякую вам за тое, што вы навучылі мяне, светлыя быстрыя хвалі! Я буду, як вы, нястомна працаваць. Сэрца гаворыць мне, што калі-небудзь вы аднясеце мяне да маіх мілых братоў!“

На беразе, сярод сухіх водарасляў, Эліза знайшла адзінаццаць белых лебядзіных пер'яў. На пер'ях яшчэ блішчэлі кроплі—расы ці слёз, хто ведае? Навакол было бязлюдна, але Эліза не адчувала сябе адзінокай. Яна глядзела на мора і не магла наглядзецца.

Вось насоўваецца на неба вялікая чорная хмара, вецер мацнее, і мора таксама чарнее, хвалюецца і бурліць. Але хмара праходзіць, па небе плывуць ружовыя воблакі, вецер сціхае, і мора ўжо спакойнае, цяпер яно падобнае да пя-

лёсткаў розы. Часам робіцца яно зялёным, часам белым. Але як-бы ціха ні было ў паветры і якім-бы спакойным ні было мора, ля берага заўсёды шуміць прыбой, заўсёды відаць лёгкае хваляванне,—вада ціха ўздымаецца, нібы грудзі спячага дзіцяці.

Калі сонца блізілася да захада, Эліза ўбачыла дзікіх лебедзей. Як даўгая белая стужка, ляцелі яны адзін за адным. Іх было адзінаццаць. На галаве ў кожнага лебедзя бліскала маленькая залатая карона. Эліза адышла ад абрыва і схавалася ў кусты. Лебедзі спусціліся недалёка ад яе і запляскалі сваімі вялікімі белымі крыллямі.

У гэтую самую хвіліну сонца схавалася пад вадой, і раптам з лебедзей упала іх белае пер'е, і ўжо не адзінаццаць лебедзей стаялі перад Элізай, а адзінаццаць харашуноў-прынцаў. Эліза гучна ўскрыкнула,—яна адразу пазнала сваіх братоў, хаця за гэтыя доўгія гады яны вельмі змяніліся. Эліза кінулася да іх у абдымкі і пачала называць іх усіх па імёнах.

Браты вельмі ўзрадаваліся, што знайшлі сястрыцу, якая гэтак вырасла і стала такой прыгожай. Эліза і яе браты смяяліся і плакалі, а потым яны расказалі адзін аднаму пра ўсё, што з імі здарылася.

Самы старэйшы з прынцаў сказаў Элізе:

— Мы лётаем дзікімі лебедзямі ўвесь дзень, ад усходу сонца да самага заходу. Калі-ж сонца заходзіць, мы робімся зноў людзьмі. І вось к моманту сонечнага заходу мы спяшаемся спусціцца на зямлю. Калі-б мы абярнуліся ў людзей у той час, як ляцім высока пад воблакамі, то зараз-жа ўпалі-б на зямлю і разбіліся. Жывём мы не тут. Далёка-далёка за морам ляжыць такая-ж пекная краіна, як гэтая. Вось там мы і жывем. Але дарога туды доўгая, трэба пераляцець праз усё мора, а па дарозе няма ні аднаго вострава, дзе мы маглі-б правесці ноч. Толькі на самай сярэдзіне мора высіцца адзінокі ўцёс. Але ён такі малы, што мы можам стаяць на ім, толькі шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго. Калі мора бушуе, пыркі хваляў пералятаюць праз нашы галовы, але ўсё-ж, каб не было гэтага ўцёса, нам ніколі не давялося-б пабываць на нашай роднай зямельцы: мора шырокае,—

мы не можам пераляцець праз яго ад усходу да заходу сонца. Толькі два разы ў год, у самыя доўгія дні, нашы крыллі могуць перанесці нас праз мора. І вось мы прылятаем сюды і жывем тут адзінаццаць дзён. Мы лётаем над гэтым вялікім лесам і глядзім на палац, дзе мы нарадзіліся і правялі дзяцінства. Яго добра відаць адсюль. Тут кожны куст і кожнае дрэва здаюцца нам роднымі. Па зялёных лугах бегаюць дзікія коні, якіх мы бачылі яшчэ ў дзяцінстве, а вугальшчыкі пяюць тыя самыя песні, якія мы чулі, калі жылі яшчэ ў родным палацы. Тут наша радзіма, сюды цягне нас сэрца, і тут мы знайшлі цябе, мілая, дарагая сястрычка! У гэты раз мы прабылі тут ужо дзевяць дзён. Праз два дні мы павінны вылецець за мора, у цудоўную, але чужую краіну. Як-жа нам узяць цябе з сабою? У нас няма ні карабля, ні лодкі.

— О, каб я магла вызваліць вас ад чар!—сказала братам Эліза.

Так яны гутарылі бадай усю ноч і задрамалі толькі перад самым світаннем.

Эліза прачнулася ад шуму лебядзіных крылляў. Браты зноў зрабіліся птушкамі і паляцелі ў родны лес. Толькі адзін лебедзь астаўся на беразе з Элізай. Гэта быў самы малодшы з яе братоў. Лебедзь палажыў сваю галаву ёй на калені, а яна гладзіла і перабірала яго пер'йкі. Цэлы дзень правялі яны ўдвух, а к вечару прыляцелі дзесяць лебедзеў, і, калі сонца села, яны зноў перавярнуліся ў прынцаў.

— Заўтра мы павінны вылецець і не пасмеем вярнуцца, раней наступнага года, — сказаў Элізе старэйшы брат, — але мы не пакінем цябе тут. Паляцім разам! Я адзін на руках магу пранесці цябе праз увесь лес, — дык няўжо-ж мы ўсе адзінаццаць на нашых крыллях не здолеем перанесці цябе праз мора?

— Але, вазьміце мяне з сабой! — сказала Эліза.

Усю ноч плялі яны сетку з лазы і чароту. Сетка вышла вялікая і моцная, і браты палажылі ў яе Элізу. І вось пры ўсходзе сонца дзесяць лебедзей падхапілі сетку дзюбамі і падняліся пад воблакі. Эліза спала ў сетцы салодкім сном. А каб праменні сонца не разбудзілі яе, адзінаццаты лебедзь

ляцеў над яе галавой, засланяючы твар Элізы ад сонца сваімі шырокімі крыллямі.

Лебедзі былі ўжо далёка ад зямлі, калі Эліза прачнулася, і ёй здалося, што яна бачыць сон наяву, — так дзіўна было ёй ляцець у паветры. Побач з ёю ляжала галіна са спелымі ягадамі і пучок смачных карэнняў, — іх набраў і палажыў каля Элізы самы малодшы брат, і Эліза ўсміхнулася яму, — яна здагадалася, што гэта ён ляцеў над ёю і абараняў яе ад сонца сваімі крыллямі.

Высока, пад самымі воблакамі, ляцелі браты і сястра, і першы карабль, які яны ўбачылі ў моры, здаўся ім плывучай па вадзе чайкай.

Лебедзі ляцелі так імкліва, як ляцяць стрэлы з лука, але ўсё-ж такі не так шпарка, як заўсёды. Бо на гэты раз яны неслі сястру. Дзень стаў хіліцца на вечар, і зашумела непагадзь. Эліза з жахам глядзела, як сонца апускалася ўсё ніжэй і ніжэй, а адзінокай морскай скалы ўсё яшчэ не было відаць. І вось Элізе здалося, што лебедзі ўжо зусім змарыліся і ледзь махаюць крыллямі. Зойдзе сонца — яе браты наляту абернуцца ў людзей, упадуць у мора і ўтопяцца. І яна будзе ў гэтым вінаватая.

Набліжалася чорная хмара, моцныя парывы ветру прадракалі буру, грозна бліскала маланка.

Сэрца Элізы затрапятала: сонца бадай што дакраналася ўжо да вады. І раптам лебедзі рынуліся ўніз з страшэннай хуткасцю. Элізе здалося, што яны падаюць. Але не, яны яшчэ ляцелі. І вось, калі сонца ўжо напалову зайшло ў ваду, Эліза ўбачыла ўнізе скалу. Яна была вельмі маленькай, не больш за цюленя, які высунуў з вады галаву. Лебедзі ступілі на скалу ў тую самую хвіліну, калі згас у паветры апошні промень сонца. Эліза ўбачыла вакол сябе братоў, якія стаялі поплеч, бо ледзь змяшчаліся на маленькай скале. Мора шалёна білася аб каменні і аблівала братоў і Элізу даждживом пырскаў. Неба палала ад бліскавіц, безупынна грукаў гром, але сястра і браты трымаліся за рукі і падбадзёрвалі адзін аднаго ласкавымі словамі.

На світанні бура супакоілася, і зноў зрабілася ясна і ціха. Як толькі ўзышло сонца, браты з Элізай паляцелі

далей. Мора яшчэ хвалявалася, і яны бачылі з вышыні, як белая пена плыла, нібы мільёны лебедзей, па цёмназялёнай вадзе.

Калі сонца паднялося вышэй, Эліза раптам убачыла ў далечыні вялізны палац, акружаны лёгкімі, нібы паветранымі галерэямі; унізе, пад сценамі палаца, калыхаліся пальмы і раслі цудоўныя кветкі.

Эліза спытала, ці тая гэта старонка, куды яны ляцяць, але лебедзі адмоўна паматалі галовамі; гэта быў толькі зданнёвы, нясталы, воблачны палац Фата-Маргана. Эліза зноў паглядзела туды, але палаца ўжо не было. Там, дзе раней быў палац, уздымаліся высокія горы, парослыя густым лесам. На самых верхавінах гор блішчэў снег, крыгі празрыстага лёду спускаліся паміж непрыступных скал.

Раптам горы ператварыліся ў цэлую флатылію караблёў; Эліза ўгледзелася ўважлівей і ўбачыла, што гэта проста морскі туман, які падымаўся над вадой.

Але вось, нарэшце, паказалася і сапраўдная зямля. Там, на беразе, рассціламіся зялёныя палі, цямнеліся кедравыя лясы, а воддаль віднеліся вялікія гарады і высокія замкі. Да захаду сонца было яшчэ далёка, а Эліза ўжо сядзела на скале перад глыбокай пячорай. Па сценах пячоры віліся прыгожыя зялёныя расліны, нібы вышытыя зялёныя дываны. Гэта быў цудоўны дом яе братоў-лебедзяў.

— Паглядзім, што сасніцца табе ў гэтую ноч, — сказаў малодшы брат і адвёў Элізу ў яе адпачывальню.

— Ах, каб я сасніла, як вызваліць вас ад чараў!—сказала Эліза і сплюшчыла вочы.

І вось ёй здалося, што яна ляціць высока-высока да таго замка, які яна бачыла над морам. А з замка насустрач ёй выходзіць фея Фата-Маргана. Фата-Маргана светлая і вельмі прыгожая, але ў той-жа час надзвычай падобная да той бабкі, што дала Элізе ў лесе ягад і расказала пра лебедзяў у залатых каронах.

— Тваіх братоў можна выратаваць, — сказала Фата-Маргана, — але ці хопіць у цябе мужнасці і стойкасці? Вада мякчэй за твае далікатныя рукі, і ўсё-ж такі яна робіць камяні гладкімі і круглымі, але вада не адчувае болю, як

будуць адчуваць твае пальцы; у вады няма сэрца, якое сціскаецца ад жаху і пакуты, як тваё сэрца. Бачыш, у мяне ў руках крапіва. Такая-ж крапіва расце тут каля пячоры, і толькі яна, ды яшчэ тая крапіва, што расце на могілках, можа табе спатрэбіцца. Запомні-ж яе і нарві крапівы, хоць рукі твае пакрыюцца ад яе пузырамі; потым расцісні яе нагамі і скруці з яе доўгія ніці. З гэтых ніцей спляці адзінаццаць сарочак з доўгімі рукавамі і накінь іх на лебедзей. Як толькі сарочкі дакрануцца да іх пер'яў, чары знікнуць. Але памятай, што з той хвіліны, як ты пачнеш сваю работу, і да таго часу, пакуль яе не скончыш, ты не павінна сказаць ні аднаго слова, хоць-бы работа твая працягвалася цэлыя гады. Першае слова, якое вырвецца з тваіх вуснаў, прасячэ сэрца тваіх братоў, як кінжал. Іх жыццё і смерць у тваіх руках! Памятай-жа ўсё гэта!

І Фата-Маргана дакранулася да рукі Элізы пякучай крапівой. Эліза зараз-жа адчула боль і прачнулася. Быў ужо светлы дзень. Ля самай пасцелі Элізы ляжала некалькі сцяблоў крапівы, акурат такой, якую яна бачыла ў сне. Тады Эліза вышла з пячоры і ўзялася за работу.

Сваімі далікатнымі рукамі рвала яна злую, пякучую крапіву, і пальцы яе пакрываліся вялікімі пузырамі, але яна з радасцю цярпела боль: толькі-б выратаваць мілых братоў! Яна нарвала цэлы ахапак крапівы, потым размяла яе голымі нагамі і стала рабіць даўгія зялёныя ніці.

Калі зайшло сонца, у пячору прыляцелі браты. Яны пачалі распытваць сястру, што яна рабіла, пакуль іх не было. Але Эліза не адказала ім ні слова. Браты вельмі спалохаліся, убачыўшы, што сястра іх зрабілася нямой.

„Гэта—новае чараўніцтва злой мачыхі", падумалі яны, але, зірнуўшы на рукі Элізы, пакрытыя пузырамі, зразумелі, што яна зрабілася нямой, каб іх выратаваць. Самы малодшы з братоў заплакаў; слёзы яго капалі ёй на рукі, і там, куды падала слязінка, знікалі пякучыя пузыры, сцішаўся боль.

Ноч Эліза правяла за сваёй работай; пра адпачынак яна і не думала,—яна думала толькі аб тым, каб хутчэй вызваліць сваіх мілых братоў. Увесь наступны дзень, пакуль лебедзі лятаці, яна аставалася зусім адна, але ніколі яшчэ

час не ішоў так хутка. Вось ужо адна сарочка гатовая і дзяўчына прынялася за наступную.

Раптам у горах пачуліся гукі паляўнічых рагоў. Эліза спалохалася. Гукі ўсё набліжаліся; затым пачуўся брэх сабак. Дзяўчына схавалася ў пячору, звязала ўсю сабраную крапіву ў жмут і села каля яго.



У тую-ж хвіліну з-за кустоў выскачыў вялікі сабака, за ім другі і трэці. Сабакі гучна брахалі ды бегалі ўзад і ўперад. Хутка ля пячоры сабраліся ўсе паляўнікі. Самы прыгожы з іх быў кароль той краіны: ён падышоў да Элізы. Ніколі яшчэ не сустракаў ён такой красуні!

— Як ты трапіла сюды, дзіўнае дзіця?—спытаў ён, але Эліза толькі паківала галавой,—яна-ж не магла гаварыць: калі-б яна сказала хоць адно слова, яе браты загінулі-б. Рукі свае Эліза схавала пад фартух, каб кароль не ўбачыў пузыроў і драпін.

— Пойдзем са мной!—сказаў кароль.—Тут табе нельга аставацца! Калі ты такая-ж добрая, як прыгожая, я апрану цябе ў шоўк і аксаміт, надзену табе на галаву залатую карону, і ты будзеш жыць у маім раскошным палацы.

І ён пасадзіў яе на сядло перад сабой.

Эліза плакала і ламала рукі, але кароль сказаў:

— Я хачу толькі твайго шчасця. Калі-небудзь ты сама падзякуеш мне!

І ён павёз яе праз горы, а паляўнічыя скакалі следам.

Пад вечар перад імі паказалася раскошная сталіца караля, з палацамі і вежамі, і кароль прывёў Элізу ў свой палац. У высокіх мрамарных пакоях гурчэлі фантаны, а сцены і столь былі размалёваны прыгожымі карцінамі. Але Эліза ні на што не глядзела, яна плакала і нудзілася. Служанкі надзелі на яе каралеўскае адзенне, уплялі ёй у валасы жамчужныя ніці і нацягнулі на яе апечаныя пальцы тонкія пальчаткі.

У багатых уборах Эліза была такая прыгожая, што ўвесь двор схіліўся перад ёй, а кароль абвясціў яе сваёй нявестай. Але каралеўскі біскуп паматаў галавой і пачаў нашэптваць каралю, што нямая красуня, мабыць, лясная чараўніца, яна зачаравала сэрца караля.

Кароль не захацеў яго слухаць, ён даў знак музыкам, загадаў паклікаць лепшых танцаўшчыц і падаваць на стол дарагія стравы, а сам павёў Элізу праз пахучыя сады ў раскошныя пакоі. Але Эліза па-ранейшаму была сумнай. Тады кароль адчыніў дзверцы ў маленькі пакойчык каля спальні Элізы. Пакойчык увесь быў абвешаны зялёнымі дыванамі і нагадваў лясную пячору, у якой кароль знайшоў Элізу. На падлозе ляжаў жмут крапівы, а на столі вісела сплеценая Элізай сарочка. Усё гэта, як дзівачныя рэчы, захапіў з сабой у пячоры адзін з паляўнічых.

— Тут ты можаш успамінаць сваё ранейшае жыллё!— сказаў кароль.—А вось і твая работа. Можа часам ты пажадаеш сярод усёй акружаючай цябе пышнасці адыйсці ўспамінамі ў мінулае.

Убачыўшы сваю крапіву і сплеценую сарочку, Эліза радасна ўсміхнулася і пацалавала руку караля, а ён прыцісну́ў яе да сваіх грудзей.

Біскуп усё нагаварваў каралю на Элізу, але словы яго не даходзілі да сэрца караля. На другі дзень адбылося вяселле. Біскуп сам павінен быў надзець на нявесту карону; са злосці ён так моцна насунуў ёй на лоб вузкі залаты абруч, што кожнаму зрабілася-б балюча, але Эліза нават не заўважыла гэтага.

Яна ўсё думала пра сваіх мілых братоў. Губы яе заўсёды былі сціснутыя, ніводнага слова не вылятала з іх, затое ў яе вачах свяцілася гарачая любоў да добрага прыгожага караля, які рабіў усё, каб толькі пацешыць яе. З кожным днём яна ўсё болей і болей прывязвалася да яго. О, каб яна магла расказаць яму пра свае пакуты! Але яна павінна была маўчаць, пакуль не скончыць сваёй работы. Па начах яна ціханька ішла ў свой патайны пакойчык, падобны да пячоры і пряла там адну сарочку за другой. Ужо шэсць сарочак былі гатовыя, але калі яна прынялася за сёмую, то ўбачыла, што крапівы ў яе больш няма.

Эліза ведала, што можа знайсці такую крапіву на могілках. І вось уначы яна ціханька вышла з палаца.

Сэрца яе сціскалася ад страху, калі яна прабіралася пры святле месяца на могілкі па доўгіх алеях сада, а потым па пустынных вуліцах.

На могілках Эліза нарвала крапівы і вярнулася дамоў.

Толькі адзін чалавек не спаў тую ноч і бачыў Элізу. Гэта быў біскуп.

Раніцою біскуп прышоў да караля і расказаў яму пра тое, што ён бачыў сёння ноччу.

— Прагані яе, кароль, яна злая чараўніца!—нагаварваў біскуп.

— Няпраўда, Эліза невінаватая!—адказаў кароль, але ўсё-ж такі сумненне асталося ў яго сэрцы.

Ноччу кароль толькі прыкінуўся, што спіць. І вось ён убачыў, што Эліза ўстала і вышла з спальні. У наступныя ночы паўтарылася тое самае; кароль не спаў і бачыў як яна хавалася ў сваім патайным пакойчыку.

Кароль рабіўся ўсё болей і болей пахмурым. Эліза бачыла гэта, але не разумела, чым незадаволен кароль. Сэрца яе мучылася ад страху і ад жалю да братоў: на яе каралеўскае

плацце каціліся горкія слёзы, якія блішчэлі, як брыльянты, а людзі, бачыўшыя яе багатае ўбранне, зайздросцілі ёй. Але хутка-хутка канец яе працы. Ужо дзесяць сарочак зроблена, але на адзінаццатую зноў нехапіла крапівы. Яшчэ раз, апошні, трэба было пайсці на могілкі і нарваць трохі крапівы. Яна з жахам падумала пра пустынныя могілкі і ўсё-такі парашыла ісці туды.

Уначы Эліза зноў вышла цішком з палаца, але кароль і біскуп сачылі за ёй, і яны ўбачылі, як Эліза знікла на могілках. Што магла рабіць каралева ўначы на могілках?..

— Цяпер ты сам бачыш, што яна злая чараўніца,—сказаў біскуп і патрабаваў, каб Элізу спалілі на вогнішчы. І кароль павінен быў згадзіцца.

Элізу пасадзілі ў цёмнае, вільготнае падзямелле з жалезнымі кратамі на вокнах, у якія са свістам урываўся вецер. Ёй кінулі ахапак крапівы, якую яна нарвала на могілках. Гэтая пякучая крапіва павінна была служыць ёй замест падушкі, а сплеценыя ёю сарочкі—замест пасцелі. Але нічога іншага Элізе і не трэба было. Яна зноў узялася за работу.

Увечары ля кратаў пачуўся шум лебядзіных крылляў. Гэта самы малодшы з братоў знайшоў сваю сястру, і Эліза зарыдала ад радасці, хоць і ведала, што ёй заставалася жыць усяго адну ноч. Затое работа яе падыходзіла да канца, і браты былі тут!

Усю ноч пляла Эліза апошнюю сарочку. Мышы, што бегалі ў падзямеллі, злітаваліся над ёй і, каб хоць трохі памагчы ёй, сталі збіраць і прыносіць да яе ног параскіданыя сцяблы крапівы, а дрозд, седзячы за кратамі акна, пацяшаў яе сваёй вясёлай песенькай.

На світанні, перад усходам сонца, да варот палаца прышлі адзінаццаць братоў Элізы і патрэбавалі, каб іх пусцілі да караля. Ім адказалі, што гэта немагчыма: кароль яшчэ спаў, і ніхто не мог яго турбаваць. Але яны не адыходзілі і ўсё прасілі. Кароль пачуў галасы і зірнуў праз акно, каб даведацца, у чым справа. Але ў гэтую хвіліну ўзышло сонца—і браты Элізы зніклі. Кароль убачыў толькі, як над палацам узняліся адзінаццаць дзікіх лебедзяў.

Шмат народу ішло за горад паглядзець на казнь каралевы. Нікчэмная кляча вязла павозку, у якой сядзела Эліза; на Элізу надзелі зрэбную кашулю; яе цудоўныя доўгія валасы былі распушчаны па плячах, а твар яе быў бледны, як снег. Нават па дарозе на месца казні не выпускала яна з рук сваёй работы: дзесяць сарочак ляжалі каля яе ног зусім гатовыя, адзінаццатую яна ўсё яшчэ пляла.

— Гляньце на ведзьму!—крычалі з натоўпу.—Яна не хоча разлучыцца са сваімі чараўніцкімі прыладамі! Вырвем іх ды разарвем у шматкі!

Нечыя рукі ўжо працягнуліся да воза, каб вырваць у Элізы зялёную сарочку, але раптам прыляцелі адзінаццаць лебедзяў. Яны селі на краях павозкі і шумна запляскалі сваімі магутнымі крыллямі. Спалоханы народ падаўся ў бакі.

— Белыя лебедзі зляцелі з неба! Яна невінаватая,—зашапталі многія, але не адважваліся гэтага сказаць голасна.



І вось кат ужо схапіў Элізу за руку, але яна быстра накінула на лебедзяў зялёныя сарочкі, і як толькі яны дакрануліся да іх пер'яў, усе адзінаццаць лебедзяў абярнуліся ў прыгожых прынцаў. Толькі ў самага малодшага замест левай рукі асталося лебядзінае крыло: Эліза не паспела даплесці рукаў апошняй сарочкі.

— Цяпер я магу гаварыць!—сказала Эліза.— Я невінаватая!

І народ, убачыўшы ўсё гэта, схіліўся перад ёй і стаў услаўляць яе, але Эліза ў непрытомнасці ўпала ў абдымкі братоў. Яна была так змучана страхам і болем.

— Так, яна невінаватая!—сказаў самы старэйшы прынц і расказаў усё, як было. А пакуль ён гаварыў, у паветры разліўся арамат, нібы ад мільёнаў руж: гэта кожнае палена на вогнішчы пусціла карані і парасткі, і вось на тым месцы, дзе хацелі спаліць Элізу, вырас высокі зялёны куст, пакрыты чырвонымі ружамі. А на самай верхавінцы куста блішчэла, бы зорка, асляпляюча-белая кветка. Кароль сарваў яе, палажыў на грудзі Элізы—і яна ачуняла.

Тут усе званы ў горадзе зазванілі самі сабой, птушкі зляцеліся цэлымі зграямі, і к палацу пацягнулася такое шчаслівае шэсце, якога не бачыў яшчэ ні адзін кароль!

# Жаба

Студня была глыбокая, таму і вяроўка была даўгая і сціска накручвалася на ворат, калі цягнулі ўгару поўнае вядро. Хоць і празрыстая была ў студні вада, але ніколі не гулялі ў ёй сонечныя праменні,—яны проста не дасягалі яе паверхні. Па сценах-жа студні, куды праменні траплялі, прабівалася між камянёў траўка.

І тулілася тут цэлая сям'я жаб—паходжання нетутэйшага. Старая жаба зляцела сюды, так сказаць, куляючыся зверху. І да гэтага часу жыла здаровенька. Зялёныя лягушкі, што плавалі ў студні і былі тут карэннымі жыхарамі, прызналі

жаб за радню і прынялі іх як гасцей, прыехаўшых на курорт. Госці, аднак, размясціліся як дома і абжыліся тут „на сушы“, як яны называлі мокрыя камяні.

Старэйшай з лягушак давялося разок паглядзець на белы свет, павандраваць: яна паднялася ў вядры да самага верху, але там было такое яркае святло, што нават вочы заламіла. На шчасце, ёй удалося выскачыць з вядра. І яна так бухнулася ў ваду, што пабіла сабе спіну і цэлыя тры дні яе не адчувала.

Многа пра белы свет яна расказаць, вядома, не магла, але ведала,—як і ўсе яны,—што студня яшчэ не ўвесь свет. Старая жаба, дык тая магла-б расказаць куды болей, але яна ніколі не адказвала на пытанні; ну, яе і пытацца перасталі!

— Таўстуха нязграбная, пачвара!—казалі пра жабу маладзенькія зялёныя лягушкі.—І дзеткі ўсе ўдаліся ў яе: пачвара на пачвары!

— Можа і так,—адказвала старая жаба.—Але-ж затое ў каго-небудзь з іх або ў мяне самой схаваны ў галаве каштоўны камень.

Зялёныя лягушкі слухалі яе, вылупіўшы вочы, ад зайздрасці перадражнівалі жабу, а потым плюхаліся на дно студні. А маладыя жабы ад гонару павыцягвалі заднія лапкі,—кожнай здавалася, што акурат у яе і схаваны ў галаве каштоўны камень! І яны сядзелі ціханька, баючыся нават галаву павярнуць. Але, нарэшце, сталі пытацца: чым-жа ўсё-ж такі яны могуць ганарыцца? Які такі гэты каштоўны камень?

— Гэта такое хараство, такая каштоўнасць, што і апісаць нельга,—адказала старая жаба.—І носяць гэта так сабе, другім на зло. Але не пытайцеся мяне болей, я не буду адказваць.

— Ну такой ужо каштоўнасці ў мяне няма. І адкуль яна можа ўзяцца?—сказала самая малодшая жаба, такая брыдкая, што горш і быць не можа.—І калі гэта на зло другім, то мала мне было-б радасці. Не, чаго-б я хацела, дык гэта дабрацца калі-небудзь да края студні і выглянуць на свет. Во дзе, мабыць, хараство!

— Аставайся лепш на сваім месцы,—сказала старая жаба.— Тут табе ўсё знаёмае, і ты ведаеш, дзе знаходзішся. Сцеражыся вядра. Яно можа цябе раздушыць. А калі трапіш у яго,

то можаш вываліцца. І не ўсе-ж падаюць зверху так удала, як я—без ніякай шкоды.

— Квак!—сказала маладая жаба, як чалавек сказаў-бы: ах! Надта ўжо ёй хацелася пабываць наверсе, паглядзець на белы свет, на тамтэйшую зелень. І вось, на другі дзень поўнае вядро, падымаючыся ўгару, выпадкова затрымалася каля таго каменя, на якім сядзела маладая жаба. Усё ў сярэдзіне яе так і затрапятала: яна скокнула ў вядро з вадой і схавалася на самае дно. Вядро паднялі ўверх і вылілі ваду.

— Ах ты, каб цябе!..—ускрыкнуў работнік, убачыўшы жабу.—Зроду не бачыў такой поскудзі!

І ён наском свайго драўлянага чаравіка так штурхнуў жабу, што ледзь не скалечыў яе. Усё-ж такі яна выратавалася ў высокім зарасніку крапівы і стала азірацца навакол. Крапіва была густая—сцябло да сцябла, але сонца прасвечвала паміж сцяблоў і праз лісці. Для жабы такі зараснік быў усёроўна, што для нас лес, асветлены сонцам.

— Тут куды, куды прыгажэй, як там унізе, у студні! Я нават гатова астацца тут на ўсё сваё жыццё!—сказала маладая жаба.

Праляжала ў зарасніку гадзіну, праляжала другую.

— А што-ж там далей? Калі ўжо я забралася так далёка, то трэба прабрацца і яшчэ далей.

Яна папаўзла шпарка, як толькі магла, і выпаўзла на дарогу. Сонца свяціла на жабу, пыл яе пудрыў, а яна паўзла ды паўзла праз дарогу.

— Вось дзе сухата,—сказала маладая жаба.—Можа нават і занадта суха. У мяне ў горле перасохла.

Вось яна дапаўзла да канавы. Па баках канавы раслі незабудкі і таволга, а непадалёк цягнулася жывая агарожа з бузіны і белага цярноўніку. Віўся тут па тычынах і ўюнок. Залюбавацца можна было ўсімі гэтымі кветкамі ды лісточкамі. І яшчэ лётаў тут матылёк. Жаба прыняла яго за кветку, якая зляцела са сцябельчыка, каб лепей было агледзецца навакол. Для жабы гэта было так зразумела.

— Вось, каб і мне палятаць!—уздыхнула яна.—Квак! Ах!.. Якое хараство!

Восем начэй і восем дзён правяла жаба ля канавы, дзе ёжы зусім хапала. На дзевяты дзень яна сказала сабе: „Далей! Наперад!“

Але што-ж вабіла яе? Хіба яна магла знайсці што-небудзь лепшае? Можа яна хацела сустрэць маладзенькую жабу або зялёных лягушак? Сёння ўначы вецер данёс нейкія гукі, якія паказвалі, што недзе паблізу жыве „радня“.

— Як цудоўна жыць на свеце! Выбрацца са студні, паляжаць у крапіве, прапаўзці па пыльнай дарозе, адпачыць у вільготнай канаве. Але цяпер трэба рухацца далей. Пашукаць лягушак або маладзенькую жабу. Без кампаніі ўсё-ж такі не абыйсціся,—адной прыроды мала!

І жаба зноў пусцілася ў дарогу.

І вось апынулася яна ў полі ля вялікай сажалкі, абросшай чаротнікам, і адразу забралася ў сажалку.

— Мусіць, вам тут будзе занадта вільготна,—сказалі тутэйшыя лягушкі.—Але просім, калі ласка. Вы кавалер ці дама? Ну, дык гэта ўсёроўна. Калі ласка, просім!

І, жабу запрасілі на вячэрні канцэрт—сямейны канцэрт. Ну, вядомая рэч: поўнае захапленне і слабыя галасы. Пачастунку ніякага. Хіба толькі вады поўная сажалка—сёрбайце на здароўе!

— Цяпер я пайду далей,—сказала маладая жаба.

Яе ўсё цягнула да новага, лепшага. Яна бачыла зоркі, буйныя, ясныя, бачыла серп маладога месяца, бачыла сонца, што падымалася ўсё вышэй і вышэй, і думала:

„Магчыма, я ўсё яшчэ ў студні, толькі ў вялікай. Трэба падняцца яшчэ вышэй. А то не ведаць мне спакою, не пазбыцца тугі“.

І калі месяц папаўнеў, пакруглеў, бедная жаба падумала:

„Ці не вядро гэта спускаецца? Можа скокнуць у яго, каб падняцца вышэй? А можа і сонца—вядро, толькі вялікшае? Якое яно вялізнае, яскравае! У ім усім нам хапіла-б месца. Трэба лавіць выпадак... О, як ад яго светла ў маёй галаве! Мусіць і той каштоўны камень не гарыць ярчэй. Ну, ды такога каменя ў мяне няма, і я аб ім не шкадую. А вось у вышыню падняцца мяне цягне. Вышэй, вышэй, да святла і радасці! Я ўпэўнена, што са мной так і будзе, але і баюся

гэтага. Крок будзе сур'ёзны. Аднак я павінна яго зрабіць. Наперад! Наперад! Прамой дарогай!“

І яна рушыла наперад, гэта значыць, папаўзла, як ёй належала. І выпаўзла на праезджую дарогу. Паабапал дарогі стаялі дамы, у іх жылі сяляне, яны мелі агароды і садочкі з кветкамі. Жаба спынілася адпачыць.

— Колькі, аднак, на свеце розных стварэнняў! Я іх і не ведала ніколі. І які-ж вялікі, які прыгожы свет! Вось і трэба ў ім агледзецца, а не сядзець усё на адным месцы.

І яна скокнула ў агарод.

— Ды як-жа ж тут зелена! Як прыгожа!

— Вядома!—адазваўся капусны чарвяк, які сядзеў на лістку.—Мой лісток самы вялікі тут—закрывае палову свету Ну, і хай сабе—мне хопіць.

— Кок-кок-кудак!—пачулася каля іх.

Гэта прышлі ў агарод куры і зашмыгалі паміж градак. Курыца, што ішла наперадзе, бачыла вельмі далёка. Яна адразу разгледзела чарвяка на капусным лісце і дзюбнула яго. Чарвяк упаў на зямлю і пачаў выкручвацца. Курыца, не ведаючы яшчэ, што гэта павінна азначаць, паглядзела на яго спачатку адным вокам, потым другім і падумала:

„Гэта ён нездарма“.

Потым нацэлілася з'есці чарвяка. Жаба так спалохалася за чарвяка, што папаўзла прама на курыцу.

— Э, ды ён мае дапамогу!—сказала курыца.—Бачыце, які паўзун!

І курыца адвярнулася ад чарвяка.

— Вельмі мне патрэбны такі зялёны заморыш! Ад яго толькі ў горле заскрабе.

Астатнія куры згадзіліся з ёю, і ўсе пайшлі прэч.

— Усё-ж такі выкруціўся ад яе!—сказаў чарвяк.—Вось што значыць не спалохацца!

І чарвяк палез назад на свой лісток, а маладая жаба выказала яму сваё спачуванне: яна так рада, што спудзіла курыцу сваёй брыдкасцю.

— Што вы гэтым хочаце сказаць?—спытаў чарвяк.— Я сам ад яе выкруціўся. А на вас глядзець моташна. Я папрасіў-бы вас пакінуць мяне. А вось і капустай пахне. Вось і мой

лісток. Добра мець сваю гаспадарку! Аднак, трэба падымацца вышэй.

— Так, вышэй!—сказала жаба.—Усё вышэй і вышэй! У нас з ім аднолькавыя імкненні. Толькі ў яго цяпер дрэнны настрой ад страху. Усе мы павінны імкнуцца ў вышыню.

І яна паглядзела як мага вышэй.

На страсе аднаго сялянскага дома стаяў у сваім гняздзе бусел і трашчаў дзюбай; побач сядзела бусліха і таксама трашчала.

„Як яны высока жывуць!—падумала жаба.—Вось-бы трапіць туды!“

У селяніна ў хаце жылі два маладыя студэнты. Адзін паэт, другі натураліст. Адзін радасна апяваў і апісваў прыроду, як яна адбівалася ў яго сэрцы, апяваў кароткімі, выразлівымі і гучнымі вершамі. Другі вывучаў прыроду, уваходзіў у самую сутнасць рэчаў, ускрываў іх, так сказаць, трыбушыў. Добрыя яны былі людзі і вясёлыя абодва.

— Глядзі, які добры экземпляр жабы!—усклікнуў натураліст.—Трэба яе пасадзіць у банку са спіртам.

— Ды ў цябе ўжо дзве сядзяць,—сказаў паэт.—Не чапай яе. Хай сабе радуецца жыццю.

— Але-ж надта ўжо яна брыдкая. Проста любата!—сказаў натураліст.

— Каб яшчэ мы маглі знайсці ў яе галаве каштоўны камень, я тады і сам дапамог-бы табе растрыбушыць яе,—дадаў паэт.

— Каштоўны камень!—усміхнуўся натураліст.—Не надта ты ведаеш прыродазнаўства.

— А хіба не цудоўнае гэта народнае павер'е, што жаба, самае брыдкае стварэнне, часам хавае ў сваёй галаве каштоўнейшы камень? І хіба не бывае нешта падобнае з людзьмі? Якія каштоўныя мыслі насіў у сваёй галаве Эзоп! А Сакрат?[1])

Болей жаба нічога не пачула, ды і паловы пачутага не зразумела. Студэнты пайшлі сваёй дарогай, а жаба выратавалася ад бяды—ад банкі са спіртам.

---

[1]) Эзоп—славуты байкапісец старажытнай Грэцыі; Сакрат—славуты грэцкі філосаф. Абодва былі вельмі непрыгожыя.

— І яны таксама казалі пра каштоўны камень,—сказала жаба.—Добра, што яго ў мяне няма, а то трапіла-б я ў бяду.

На страсе зноў затрашчалі дзюбы. Бусел-бацька чытаў лекцыю членам сваёй сям'і, а тыя касавурыліся на двух студэнтаў, што гулялі на агародзе.

— Няма на свеце стварэння, якое так задавалася-б, як чалавек!—казаў бусел.—Чуеце, як яны трашчаць? А пасапраўднаму ў іх нічога і не выходзіць. Яны ганарацца сваёй гаворкай, сваёй чалавечай мовай. Добрая мова, няма чаго казаць! Чым далей хто едзе, тым меней разумеюць яго іншыя людзі. Вось мы з нашай мовай дык можам падарожнічаць па ўсім свеце, і ўсюды нас разумеюць—і ў Даніі і ў Егіпце. І лятаць людзі не ўмеюць. Праўда, яны носяцца з месца на месца па „чыгунках", як яны назвалі сваю выдумку, але затое і шыі сабе ламаюць досыць часта. Брр! Мароз па дзюбе прабягае, як падумаеш аб гэтым. Свет прастаяў-бы і без людзей. Мы без іх вельмі добра абышліся-б. Толькі-б пакінулі нам лягушак ды чарвякоў.

„Вось дык гутарка!—падумала маладая жаба.—Які-ж ён важны! І як высока забраўся. Я яшчэ нікога на такой вышыні не бачыла!"

— А плыве як!—усклікнула яна, калі бусел паляцеў, шырока махаючы крыллямі.

Бусліха стала расказваць птушанятам пра Егіпет, пра ваду Ніла і пра цудоўны іл у гэтай далёкай краіне. І для жабы ўсё гэта было новым і цікавым.

— Я павінна пабываць у Егіпце,—сказала яна сабе.

— Хоць-бы бусел узяў мяне з сабой, або якое-небудзь з яго птушанят. Я ўжо паднесла-б яму падарункі ў дзень яго вяселля. Але, я абавязкова траплю ў Егіпет,—я-ж такая шчаслівая. Мая туга, мае імкненні пэўна лепей за ўсякія каштоўныя камяні ў галаве.

А гэта-ж акурат і быў каштоўны камень—яе вечная туга, яе парывы ў вышыню, заўсёды ў вышыню. Яны праціналі яе, яна ўся свіцілася імі і ззяла шчасцем, вылучала радасць.

У гэтую мінуту вярнуўся бусел. Убачыў у траве жабу, спусціўся і схапіў яе не надта далікатна. Дзюба сціснулася... засвісцеў вецер...

Непрыемна гэта было, але затое жаба ляцела ўвысь, увысь, у Егіпет. Так! Так! Вочы яе заззялі, з іх нібы вылецела іскра.

„Квак! Ах!“

Жаба памерла. Цела яе было сплюшчана. Але іскра з яе вачэй—куды яна дзелася?

Яе падхапіў сонечны промень. Сонечны промень панёс каштоўны камень з галавы жабы. Куды?

Не пытайцеся аб гэтым натураліста, спытайце лепш паэта. Ён адкажа вам казкай. У гэтай казцы будуць і капусны чарвяк і сям'я буслоў. І ўявіце сабе! Чарвяк-жа ператворыцца ў прыгожага матылька. Сям'я буслоў паляціць над гарамі і лясамі ў далёкую Афрыку і ўсё-такі знойдзе карацейшую дарогу назад, на радзіму—у Данію, на тое-ж месца, на тую-ж самую страху. Так, гэта падобна да казкі, але гэта праўда. Спытайце хоць у натураліста. Ды вы і самі гэта ведаеце, самі бачылі.

Ну, а каштоўны камень з галавы жабы? Куды ўсё-ж такі ён дзеўся?

Пашукайце яго на сонцы. Угледзьцеся ў сонца, калі можаце.

Блеск яго нястрымны для вачэй чалавечых. Не прыстасаваны яшчэ нашы вочы, каб разгледзець усё хараство прыроды, але калі-небудзь мы гэтага дасягнем. Гэта будзе казкай з казак, і мы самі будзем яе творцамі і ўдзельнікамі.

## Капілка

У дзіцячым пакоі шмат цацак, і вышэй за іх усіх, на шафе, стаіць капілка. Яна зроблена з гліны і куплена ў ганчара. Гэтая капілка мела выгляд свінні: у яе спіне была зроблена шчыліна, каб у яе маглі пралазіць манеты. Свіння была так напхана грашыма, што яны ўжо не бразгалі ў ёй, а для капілкі вышэй за гэта нічога не можа быць; таму свіння, стоячы на шафе, звысака глядзела на ўсіх вакол сябе. Яна разумела, што ўсё гэтае барахло можна купіць за

грошы, якімі яна ўся напоўнена,—гэта называецца знаць сабе цану. Іншыя думалі таксама, хоць і не выказвалі гэтага, таму што і без таго было аб чым пагутарыць.

З шуфляды камода выглядвала вялікая прыгожая лялька, хоць, калі казаць праўду, трохі пашарпаная, з падклеенай шыяй, але ўсё-ж такі досыць прывабная.

— Цяпер давайце гуляць у людзей,—сказала яна.—Гэта ўсё-ж такі нешта вартае.

Усе паслухаліся лялькі, і ў пакоі падняўся рух, шум, мітусня. Карціны—і тыя пачалі скакаць і павярнуліся другім бокам, каб паказаць, што ў кожнай рэчы ёсць адваротны бок. Аднак яны зрабілі гэта зусім не для таго, каб сапсаваць добры настрой прысутных.

Надышла ноч. Месяц свяціў у вокны, даючы дармавое асвятленне. Быў час пачынаць гульню, бо ўсе ўжо былі запрошаны ўдзельнічаць у ёй. Запрасілі нават тачку, хоць яна была з пароды неацёсаных, грубых цацак.

— У кожнага свае вартасці,—сказала тачка.—Не ўсім-жа быць панамі, ёсць і такія, што займаюцца якой-небудзь карыснай справай.

З усіх цацак адной толькі свінні паслалі спецыяльнае пісьмовае запрашэнне, бо яна займала вельмі высокае становішча і магла адмовіцца ад вуснага запрашэння. Свіння з грашыма, вядома, не дала ніякага адказу і нават не сышла ўніз, бо лічыла, што яна можа глядзець на гульню з свайго высокага месца. Усе ўдзельнікі павінны былі прыстасавацца такім чынам, каб свіння магла бачыць гульню з шафы.

Пастанавілі пачаць вечар спектаклем, затым піць чай і ласавацца, а потым заняцца разумнымі размовамі. На справе-ж вышла не так—пачалі прама з разумных гутарак.

Драўляны конь-качалка разважаў пра скачкі, шпаркасць бегу і пра розныя пароды коней; калясачка—пра чыгункі і паравозы. Гэта было па іх спецыяльнасці; толькі пра гэта яны лічылі прыстойным гаварыць.

Сталовы гадзіннік размаўляў пра палітыку: ён добра ведаў, для каго і для чаго прышоў час, хоць злыя языкі і гавораць, што яны хлусяць. Дубовы кій стаяў у куце горды, важны: ён ганарыўся сваім мядзяным ілбом і вострым наканеч-

нікам. На канапе ляжалі дзве вышытыя падушкі—рознакаляровыя, прыгожыя і дурныя.

Пачаўся спектакль. Публіку прасілі хлопаць, шчоўкаць, страляць, звінець—колькі ўлезе. Але хлыст заявіў, што ён не хлопае старым, а толькі маладым жанчынам ды і то незамужнім або не маючым яшчэ жаніхоў.

— А я дык хлопаю ўсім!—сказала добрадушная хлапушка.

— Ну, трэба ведаць і сабе цану!—сказала плявальніца.

Так разважала публіка ў часе спектакля.

П'еса была дрэнная, але разыгралі яе добра, акторы паказваліся перад публікай толькі размалёваным бокам. Ды і нядзіва: яны былі зроблены так, што з другога боку на іх і глядзець не хацелася.

Такім чынам усе ігралі як жывыя, толькі дрот у іх быў досыць доўгі; але затое некаторым акторам гэта дало магчымасць высунуцца наперад. Склееная лялька ад захаплення проста „з сябе вышла“ і так хвалявалася, што шыя ў яе зноў расклеілася. А свіння так расчулілася, што захацела ўзнагародзіць каго-небудзь з артыстаў; але толькі пасля смерці, ды і то, каб яны былі пахаваны разам у яе фамільным склепе.

Спектакль так спадабаўся ўсім, што яны забыліся пра чай і на ласункі.

Такі спектакль называўся ў іх гульнёй у людзей. У гэтым, вядома, не было нічога дрэннага, бо гэта-ж была толькі адна гульня, у часе якой артысты думалі толькі аб сабе ды аб тым, што скажа аб іх ігры багатая свіння.

А тая многа думала: аб тым, куды дзець грошы, калі яна ўжо напоўненая; каму пакінуць іх, калі ёй можа прыдзецца памерці...

І раптам—трах! Свіння паляцела з шафы і разляцелася на кавалкі. Грошы закруціліся, заскакалі так, што глядзець на іх было весела. Дробныя манеткі закружыліся на месцы, а буйнейшыя каціліся павольна, важна.

Вызваленыя грошы пасля гэтага пайшлі вандраваць па свеце, а чарапкі ад свінні былі выкінуты на сметнік.

Адным словам, гульня вышла зусім як у людзей.

ЗМЕСТ

*Стар.*



---

Рэдактар В. Няміра
Тэхрэдактар Я. Карпіновіч
Карэктар Р. Каплан

АТ 30736 Падпісана да друку 19/XI 46 г. Тыраж 10.000
Папера 70×92/16 Вуч.-аўт. арк. 7 Друк. арк. 8 Заказ № 269

Друкарня ім. Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55

